Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

т. VIII АДДЗЕЛ ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ № 2

ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЛЯСНАЯ ДАСЬЛЕДЧАЯ СТАНЦЫЯ БССР

# МАТАР'ЯЛЫ ПА ЛЯСНОЙ ДАСЬЛЕДЧАЙ СПРАВЕ БССР

пад рэдакцыяй праф. С. П. МЕЛЬНІК



Белорусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА

Центральная Лесная Опытная Станция Б. С. С. Р.

**ТРУДЫ ПО ЛЕСНОМУ ОПЫТНОМУ ДЕЛУ БССР**

под редакцией проф. С. П. МЕЛЬНИК

Выпуск II

Belarussisches Institut für Wissenschaftliche Forschungen der Land-und Forstwirtschaft auf den Namen von W. I. Lenin beim Rate der Volkskommissare von der B. S. S. R.

ABTEILUNG FÜR FORSTWIRTSCHAFT

Centrale Forstliche Versuchsstation von Belarussj

**Mitteilungen aus dem Forstlichen Versuchswesen in Belarussj**

redigiert von Prof. S. P. MELNIK

II Band

МЕНСК—MINSK
1928

Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

т. VIII АДДЗЕЛ ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ № 2

ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЛЯСНАЯ ДАСЬЛЕДЧАЯ СТАНЦЫЯ БССР



# МАТАР'ЯЛЫ ПА ЛЯСНОЙ ДАСЬЛЕДЧАЙ СПРАВЕ БССР

пад рэдакцыяй С. П. МЕЛЬНІК



Белорусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА

Центральная Лесная Опытная Станция Б. С. С. Р.

## ТРУДЫ ПО ЛЕСНОМУ ОПЫТНОМУ ДЕЛУ БССР

под редакцией проф. С. П. МЕЛЬНИК

Выпуск II

Belarussisches Institut für Wissenschaftliche Forschungen der Land-und Forstwirtschaft auf den Namen von W. I. Lenin beim Rate der Volkskommissare von der B. S. S. R.

ABTEILUNG FÜR FORSTWIRTSCHAFT

Centrale Forstliche Versuchsstation von Belarussj

## Mitteilungen aus dem Forstlichen Versuchswesen in Belarussj

redigiert von Prof. S. P. MELNIK

II Band

МЕНСК—MINSK

1928

# ЗЬМЕСТ. ОГЛАВЛЕНИЕ. INHALTSVERZEICHNISS.

---



# ПРАГРАМА
# навуковых работ па Цантральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі на 1927-28 г.

## I. Па аддзелу лесазнаўства, дагляду і рубак

### I. Па вывучэньні дэндралёгіі і біялёгіі дрэўных парод БССР.

1. Лесафэналягічныя нагляданьні на Горацкім, Вяляціцкім і Жорнаўскім лясных дасьледчых вучастках па ранейшай праграме і інструкцыі.

2. Вывучэньне сэзонна-дыморфных адмен елкі і дубу хвастковага, першага на Горацкім лясным дасьледчым вучастку і другога—на Жорнаўскім лясным дасьледчым вучастку. Праграма леташняя.

3. Вырашчываньне пасадачнага матар'ялу экзотаў у гадавальніках.

4. Пасадка вырашчаных у ранейшыя гады ў гадавальніках сеянцаў экзотаў на дасьледчых вучастках дзеля ўтварэньня з іх дрэвастанаў, плошчаю ад 0,10 да 1,00 гэкт.

5. Працяг досьледу кальцаваньня асін, з мэтаю выясьненьня найбольш рацыянальнага часу году для гэтай працы.

6. Дасьледваньне біялягічных і экалягічных уласьцівасьцяў двох відаў бяроз (Betula verrucosa и B. pubescens), што растуць у лясох Беларусі.

7. Дасьледваньне біялягічных уласьцівасьцяў хвоі звычайнай на балоце і сухадоле (на Вяляціцкім лясным дасьледчым вучастку).

8. Дасьледваньне уплыву розных велічынь РН у глебе на рост мясцовых лесаўтвараючых дрэўных відаў за дапамогаю вэгэтацыйнага мэтаду.

9. Дасьледваньне канцэнтрацыі вадародных іёнаў у глебах галоўнейшых тыпаў дрэвастанаў яловай рамені.

### II. Дасьледваньне біялёгіі дрэвастанаў Беларусі.

1. Працяг нагляданьняў над грунтовымі водамі на Горацкім і Жорнаўскім лясных дасьледчых вучастках, з дабаўленьнем 6-і вадамерных калодзежаў на 1-м вучастку і аднаго на Жорнаўскім.

2. Вымярэньне сьнегавога насьцілу, яго шчытнасьці і грубіні пры розных паўнатах дрэвастанаў і на лесасеках на Горацкім, Вяляціцкім і Жорнаўскім дасьледчых вучастках.

3. Пэрыядычнае дасьледваньне вільготнасьці глеб на розных глыбінях у больш распаўсюджаных тыпах дрэвастанаў на Горацкім і Вяляціцкім лясных дасьледчых вучастках.

4. Дасьледваньне колькасьці і законамернасьцяў затрыманьня ападкаў полагам яловых дрэвастанаў на Горацкім лясным дасьледчым вучастку пры дапамозе маючыхся дожджамераў і ўстаноўкі новых 6-і дожджамераў.

5. Пералікі на дзялянках, пакінутых пад самаабсясеньне на Жорнаўскім лясным дасьледчым вучастку.

### III. Дасьледваньне тыпаў дрэвастанаў Беларусі.

1. Экспэдыцыйнае дасьледваньне тыпаў лясных дрэвастанаў Беларусі. Дзякуючы асаблівай важнасьці гэтых работ для мэт лесаўпарадкаваньня, а таму і вялікай тэрміновасьці, вывучэньне тыпаў дрэвастанаў Беларусі вядзецца пры дапамозе асобных экспэдыцыйных партый.

### IV. Дасьледваньне натуральнага аднаўленьня лесу.

1. Працяг дасьледваньня натуральнага аднаўленьня ў тыпах яловай рамені.

2. Дасьледваньне натуральнага аднаўленьня ў баравых (хваёвых) тыпах.

3. Працяг дасьледваньня абсемяненьня суцэльных лесасек пры сьцяне лесу з захаду, усходу з поўначу і з поўдню, а таксама пры сьценах лесу з двох бакоў, у яловых дрэвастанах Горацкага дасьледчага лясьніцтва і ў хваёвых дрэвастанах Вяляціцкага лясьніцтва, мэтадам насеньнямераў. Дабаўленьне 100 шт. насеньнямераў.

### V. Досьледы па дагляду за дрэвастанамі.

1. Працяг закладаньня дасьледчых прачыстак і зрэджваньняў у маладнякох яловай рамені Горацкага дасьледчага лясьніцтва рознай інтэнсыўнасьці: моцнай, сярэдняй і слабай.

2. Працяг закладаньня дасьледчых прачыстак і зрэджваньняў у маладнякох грудовых тыпаў Жорнаўскага лясьніцтва па нізавому і верхавому мэтадах.

3. Закладаньне дасьледчых прахадных рубак у тыпах яловай рамені Горацкага дасьледчага лясьніцтва.

4. Дасьледчыя прачысткі і зрэджваньні хваёвых дрэвастанаў Вяляціцкага л-ва: слабыя, сярэднія і моцныя.

### VI. Дасьледчыя рубкі.

1. Выкананьне чарговых работ па дасьледчай паступовай рубцы ў грудавым тыпе дрэвастанаў, закладзенай у мінулым годзе ў кв. № 482 Жорнаўскага ляснога дасьледчага вучастку па праграме, распрацованай на пэрыяд 1926/27—1939/40 гады.

2. Выкананьне праграмных работ па дасьледчай рубцы Карнакоўскага ў грудавым дрэвастане, закладзенай у квартале № 517 Жорнаўскага лясьніцтва, Бабруйскае акругі.

3. Нагляданьне і ахова на дасьледчых суцэльных лесасеках закладзеных у яловых дрэвастанах Горацкага дасьледчага лясьніцтва ў 1925/26 годзе (дасьледчыя рубкі на розную шырыню і розныя напрамкі лесасек).

4. Закладаньне насеньне-лесасечнай рубкі па Вагнеру ў яловых дрэвастанах Горацкага дасьледчага лясьніцтва і рубак Эбергардта.

5. Закладаньне паступовых рубак у хваёвых дрэвастанах Вяляціцкага ляснога дасьледчага вучастку.

### VII. Вэгэтацыйныя досьледы.

1. Досьледы па выращчываньні сеянцаў елкі, дуба, бярозы, асіны, і ліпы на гэнэтычна розных пластох ападзоленай глебы.
2. Уплыў вапнаваньня на глебах рамені.

## II. Па аддзелу лясных культур і лесамэліарацый.

### I. Дасьледчыя работы ў лясных гадавальніках.

1. Досьледы з апрацоўкай насеньня, як ігластых, так і ліставых дрэўных парод перад засевам у гадавальніку некаторымі рэактывамі з мэтай лепшага захоўваньня гэтага насеньня ад рознага роду шкоднікаў да зьяўленьня з насеньня ўсходаў.

2. Досьледы са значэньнем папярэдняга вымачваньня ў вадзе перад засевам у гадавальніку насеньня розных дрэўных парод.

3. Засевы на градах насеньня рознай усходнасьці дзеля вызначэньня фактычнай усходнасьці насеньня ў умовах гадавальніка.

Даная тэма датычыцца, галоўным чынам, насеньня ігластых парод. У прыватнасьці, адносна хвоі звычайнай досьледы будуць заключацца ў праверцы ў умовах Беларусі дадзеных, атрыманых у свой час у Нямеччыне Нааск'ам.

4. Досьледы з восенным і веснавым засевам розных дрэўных парод, прычым восенныя засевы будуць, як болей раньнімі, так і болей познымі.

5. Досьледы з засевам насеньня некаторых дрэўных парод, з мэтай вызначэньня найбольш устойлівых з іх адносна грыбных захварэньняў.

6. Досьледы з засевам на насенных градах насеньня сібірскага кедра, з мэтай атрыманьня магчымай колькасьці ўсходаў у бліжэйшы пасьля засеву час.

7. Досьледы па глыбіні ўрабленьня засеваў у гадавальніку розных дрэўных, як ігластых, так і ліставых парод, у залежнасьці ад глебавых умоў, з мэтай вызначэньня найлепшых вынікаў.

8. Досьледы па ўрабленьню засеваў у гадавальніку рознага роду зямлёю: перагнойнай, сугліністаю і пяском.

9. Досьледы з рознага роду покрыўкамі (з лапніка, саломы, мха, апілак і г. д) насенных град пасьля засеву на іх розных дрэўных парод, як ігластых, так і ліставых, як пры позных восенных, так і пры веснавых засевах, з мэтай вызначэньня найбольш практычных покрыўкаў. Сюды-ж будзе адносіцца і засев без усякіх покрыўкаў.

10. Досьледы з пракладкай з розных матар'ялаў (саламяныя жгуты, мох, апілкі, дробна насечаныя галіны ігластых парод і г. д.) паміж радамі зьявіўшыхся ўсходаў, з мэтай вызначэньня найбольш практычных матар'ялаў для гэтых пракладак.

11. Досьледы з выращчываньнем лесакультурнага матар'ялу, як ігластых, так і ліставых парод у школах адносна:

а) глыбіні апрацоўкі глебы, в) адлегласьці разьмяшчэньня дрэўцаў, г) ліку гадоў, на якое можна будзе заставіць дрэўца ў школе.

12. Досьледы з інтэнсыўнасьцю полкі і пухленьня, як насенных град, так і школ.

13. Досьледы па барацьбе з рознага роду шкоднікамі ў гадавальніку, як шасьціножкамі, так і расьліннымі чужаедамі.

### II. Досьледы па закладаньні новых культур і вывучэньні старых.

1. Досьледы па ўтварэньні лясных культур шляхам засеву ў раскід і радамі на лесасеках, прагалінах, пажарышчах, пад полагам лесу і г. д., з падлікам патрэбнай колькасьці насеньня на: А) усьцяж апрацованай глебе пасьля часовага сельска-гаспадарчага карыстаньня, В) часткова апрацованай глебе: а) поласамі, б) пляцкамі, в) мясцамі, г) ямкамі, д) плужнымі барознамі (засеў па сподзе дробных плужных барознаў і па плужных грэбнях).

2. Досьледы па ўтварэньні лясных культур шляхам пасадкі: А) па ўсьцяж апрацованай глебе (пасьля сельска-гаспадарчага карыстаньня), В) па часткова-апрацованай глебе: а) поласамі, б) пляцкамі, в) у ямкі, г) на спод плужных барознаў, д) у плужныя грэбні, е) на апракінутыя дзярніны, ж) пасадкі па Аллеману, з) у ўзгоркі.

3. Дасьледваньне культур мінулых гадоў адносна: а) спосабу іх утварэньня, б) сучаснага іх стану, в) пасьпяховасьці вырастаньня, г) магчымых пашкоджаньняў і іншае, з паказаньнем неабходных мерапрыемстваў дзеля паглыбленьня гэтых культур.

### III. Вывучэньне збору насеньня галоўнейшых дрэўных парод.

1. Вывучэньне збору насеньня розных дрэўных парод у сувязі іх добраякаснасьці з часам збору. Мяркуецца зрабіць збор насеньня нашых галоўнейшыхігластых і ліставых парод.

2. Дасьледваньне плоданашэньня нашых галоўнейшых дрэўных, ігластых і ліставых парод у дрэвастанах, з падзелам дрэў па клясіфікацыі Крафта, з вызначэньнем ўзросту гэтых дрэў.

3. Досьледы па хаваньні лясного насеньня з мэтай захаваньня, наколькі магчыма, найвышэйшай іх усходнасьці. Сюды будзе аднесена дасьледваньне хаваньня жалудоў дуба, якое будзе вытварацца па розных вядомых у лесаводзтве, спосабах: у ямках, кучах, канаўках, у лесе, у скрынках з пяском пластамі і г. д.

### IV. Досьледы па ахове лесу.

1. Вывучэньне ўплыву пасьбы ската на стан дрэвастанаў і аднаўленьне лесу.

### V. Досьледы па лесамэліарацыі.

1. Досьледы замацаваньня лятучых пяскоў найбольш простымі і дзяшовымі спосабамі пасадкі шалюгі і іншымі прасьцейшымі спосабамі.

## III. Па таксацыйна-лесаўпарадкавальнаму аддзелу.

1. Працяг складаньня сартымэнтных табліц для лясоў Беларусі.

2. Параўнаньне вынікаў таксацыі хваёвых і яловых дрэвастанаў на корані па масавых табліцах банітэтаў і па ўдзельных табліцах.

3. Параўнальныя вынікі таксацыі дрэвастанаў па істужкавых спробах.

4. Вызначэньне і супастаўленьне відавых чысел і каэфіцыэнтаў формы для дуба розных банітэтаў, узростаў і паўнот.

5. Параўнальнае вывучэньне вытворчасьці хваёвых і хваёва-яловых дрэвастанаў, пры аднолькавых банітэтах і дабротнасьцях.

6. Вывучэньне законамернасьцяў у будове зьмешаных дрэвастанаў аднакавага ўзросту.

7. Дасьледваньне ўдзелу у будове запасу і прыросту іглястых дрэвастанаў дрэў у залежнасьці ад ступені таўшчыні і клясы панаваньня.

## IV. Па лесаэканамічнаму аддзелу.

1. Вывучэньне каранёвых цэн у паасобных падраёнах па рынках збыту. Праверка існуючых такс і складаньне новых.

2. Стацыянарныя работы ў вучотным квартале № 41 Горацкай лясной дачы.

3. Вывучэньне адміністрацыйнай працы ў лясьніцтвах.

## V. Па лесатэхналягічнаму аддзелу.

### I. Па хэмічнай лясной тэхналёгіі.

1. Вывучэньне уласьцівасьцяў беларускай жывіцы і параўнаньне іх з уласьцівасьцямі чужаземнай жывіцы.

2. Досьледы атрыманьня, найбольш рацыянальным спосабам, каніфолі вышэйшай якасьці па мэтадзе, выпрацаванаму праф. У. У. Шкацелавым.

3. Пачатак дасьледчых работ па знахаджэньні спосабаў непасрэднага здабываньня смалы з падсочнага ствала і здабываньне з яе каніфолі і шкіпінару.

4. Працяг дасьледчых работ па падсочцы хвоі францускім і расійска-амэрыканскім спосабамі на сталых плошчах, закладзеных пры Вяляціцкім лясным дасьледчым вучастку.

5. Дасьледваньне смалістасьці драўніны беларускай хвоі ў розных частках ствалу.

6. Дасьледваньне саматужных промыслаў Беларусі па апрацоўцы драўніны.

### II. Па мэханічнай лясной тэхналёгіі і эксплятацыі лесу.

1. Вывучэньне тэхнічных уласьцівасьцяў драўніны дрэўных парод, што растуць у Беларусі і залежнасьці гэтых уласьцівасьцяў ад тыпу дрэвастану, ад банітэту і ад іншых фактараў.

2. Вывучэньне сартымэнтаў лесу Беларусі і колькасьці таварнай драўніны і рабочай сілы, што затрачваецца на адзінку вучоту.

3. Вывучэньне фаутнасьці дрэвастанаў і спосабаў рацыянальнай распрацоўкі фаутных хлыстоў.

## VI. Па Станцыі спробы лясного насеньня.

1. Працяг кантрольнага дасьледваньня насеньня, што прысылаецца лясьніцтвамі.

2. Працяг досьледу некаторых стымулянтаў на прарастаньне насеньня

3. Працяг досьледу з уплывам рознай інтэнсыўнасьці сьвятла на прарастаньне насеньня.

4. Чарговае прарашчываньне насеньня елкі і хвоі звычайных, што захоўваецца ў розных умовах.

5. Дасьледваньне насеньня, што было сабрана ў насеньнямерах на Горацкім, Вяляціцкім і Жорнаўскім дасьледчых вучастках.

6. Дасьледваньне насеньня сэзонна-дыморфных адмен елкі звычайнай, што было сабрана ў Горацкім дасьледчым лясьніцтве ўзімку 1927—28 г.

7. Дасьледваньне насеньня розных рас (фармацыйна-глебавых і па колеру насеньня) хвоі звычайнай.

8. Дасьледваньне насеньня елкі звычайнай, што было здабыта пры розных тэмпэратурах і пры рознай працягласьці сушкі.

9. Дасьледваньне насеньня, што было сабрана ў насеньнямерах дэндралягічнага саду Бел. Дзярж. Акадэміі С. Г. ў 1927 г. у Горках.

10. Дасьледваньне насеньня вязу і лёму адразу пасьля збору з параўнальным вывучэньнем яго ўсходжасьці ў прарашчывацелях і на градах гадавальніку і пэрыядычнае дасьледваньне гэтага-ж насеньня, што будзе захоўвацца ў розных умовах (у пакоі, у склепе, на гары і ў зямлі).

## VII. Па Сьляпнянскаму лясному дасьледчаму вучастку.

Прыродна-гістарычнае, лесазнаўчае і таксацыйнае дасьледваньні Сьляпнянскага лясного масыву і падрыхтоўчыя работы к закладаньню стацыянарных досьледаў у гэтым масыве.

## VIII. Па Дубраўнаму лясному дасьледчаму вучастку.

Прыродна-гістарычнае, лесазнаўчае і лесатаксацыйнае дасьледваньні лясного вучастку і падрыхтоўчыя работы к закладаньню стацыянарных досьледаў.

*Загадчык Цантральнай Лясной Дасьледчай Станцыяй Беларусі праф. С. Мельнік.*

---

P. S. Прыведзеная праграма дасьледчых работ Станцыі зьяўляецца пералікам тых тэм, якія ўхвалены зацікаўленымі ў лясной дасьледчай справе установамі Беларусі і зацьверджаны Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскае і Лясное Гаспадаркі і да выкананьня якіх станцыя падрыхтавана. Фактычна-ж, з прычыны скарачэньня сродкаў на апэрацыйныя выдаткі і недастачы сродкаў на пабудову будынкаў, частка работ у 1927/28 г. ня будзе выконана. Ва ўсякім разе, усе ўжо пачатыя дасьледваньні Станцыя пастараецца прадаўжаць. Нанова-ж запраектаваныя работы прыходзіцца адкласьці да болей памыснага фінансавага становішча Станцыі.

*С. Мельнік.*

# Уплыў тэмпэратуры, пры якой здабываецца каліфоня на яе фізыка-хэмічныя ўласьцівасьці[1]).

(З прац лябараторыі лясной хэмічнай тэхналёгіі).

У магутным імпэце сацыялістычнага будаўніцтва наш Саюз далёка шагануў уперад у справе будаваньня прамысловасьці наогул і хэмічнае ў прыватнасьці. Сярод цэлага шэрагу галін хэмічнай прамысловасьці ў сучасны момант ня на апошнім мейсцы стаіць здабываньне каліфоні і шкіпінару, што зразумела, калі прыняць пад увагу тыя аграмадныя колькасьці вышэйпамянёных прадуктаў, якія патрэбны для такіх галін прамысловасьці, як мылаварэньне, папяровая, электратэхнічная і інш. Выходным матар'ялам, для здабываньня каліфоні і шкіпінару, як вядома, ў большасьці выпадкаў зьяўляецца жывіца іглястых дрэўных парод. У апошні час жывіца служыла аб'ектам шматлікіх навуковых дасьледваньняў і маецца паважная літаратура па гэтаму пытаньню. Але пытаньні, зьвязаныя з тэхнікай здабываньня каліфоні, стандартызацыяй гатункаў яе, уплывам спосабаў здабываньня на фізыка-хэмічныя ўласьцівасьці каліфоні, а таксама пытаньне аб знахаджэньні фізычных або хэмічных фактараў, якія-б маглі служыць крытэрыумам для вызначэньня вартасьці каліфоні для тэй ці іншай галіны прамысловасьці, усе гэтыя пытаньні ў літаратуры або зусім ня зачапляліся, альбо насілі толькі слабы адбітак. Выключэньне складае француская літаратура, дзе некаторыя з паданых пытаньняў досыць асьвятлены (G. Dupont, M. Vezes et G. Dupont[2]), але ўсе дадзеныя, што прыводзяцца у гэтай літаратуры, адносяцца галоўным чынам да францускіх прадуктаў, якія, як вядома, ў значнай меры адрозьніваюцца ад нашых.

Задачай гэтай працы зьяўляецца вывучэньне уплыву тэмпэратуры (г. з. тэй тэмпэратуры, пры якой выганяюцца апошнія сьляды вады і ў перагонным кубе застаецца канцовы прадукт—каліфоня) на некаторыя фізыка-хэмічныя ўласьцівасьці каліфоні, а ўласьне: 1) здольнасьць вярчэньня роўніцы палярызацыі, 2) тэмпэратуру тапленьня, 3) іодны лік, 4) каэфіцыэнт абмыліваньня, 5) кіслотны лік, 6) этарны лік, 7) процант матэрый, якія ня абмыліваюцца, 8) колернасьць каліфоні.

Выходным матар'ялам для дасьледваньняў служыла жывіца, атрыманая падсочкай хвоі ў 1925 годзе. Апошняя, каля 10 пудоў, да сучаснага моманту захоўвалася ў бляшанай скрыне, якая была ўстаўлена ў драўляную скрыню і шчытна зачынена драўлянай покрыўкай.

Верхні пласт жывіцы пры хаваньні акісьліўся і меў жоўта-бурую афарбоўку. Пад гэтым пластом была чыстая, як відаць, вельмі мала

[1]) Дакладзена 17/III—28 на пасяджэньні лясной сэкцыі Навуковага Таварыства па вывучэньню Беларусі

[2]) M. Vezes et G. Dupont. Résines et terépenthines. Les industries derivées. G. Dupont. Les essences de térébenthine. 1926.

акісьленая жывіца. Гэтая жывіца і бралася для дасьледваньняў. Перш за ўсё яна растаплялася на вадзяной лазьні і фільтравалася праз мэрлю. Вызваленая такім чынам ад пабочных прымешак жывіца ў застыгшым выглядзе прадстаўляла аднастайную, крыху жоўтую, даволі шчытную, крышталічную масу.

Заўсёды аднолькавыя колькасьці гэтай жывіцы зьмяшчаліся ў колбу Вюрца і на пясковай лазьні парай адганяўся шкіпінар. Для паказаньня тэмпэратуры, пры якой праходзіў працэс адгонкі шкіпінару і стварэньня каліфоні, быў ўстаўлен у колбу тэрмомэтр. Пакуль ідзе адгонка шкіпінару, тэмпэратура хістаецца між 100°—130°, а потым ідзе павялічэньне яе, якое можна было рэгуляваць полымям газавых гарэлак і такім спосабам трымаць сурова вызначаную тую ці іншую тэмпэратуру да тэй пары, пакуль ня адгоняцца рэшткі вады з каліфоні.

У двох выпадках акрамя таго, адгонка вытваралася такім самым спосабам, пры вакууме ў 160 mm. ртутнага слупа, пры канцовай тэмпэратуры 125° і 165°.

Папярэдне вызначаны былі вярчальная здольнасьць і іодны лік жывіцы, а потым, здабытая з яе каліфоня, падлягала дасьледваньням (вызначэньне тэмпэратуры тапленьня, іодны лік, вярчальная здольнасьць і г. д.), вынікі якіх зьмешчаны ў табліцы № 1.

Апрача таго для параўнаньня была здабыта каліфоня з жывіцы чэрвеньскага збору 1927 году, (пасьля 2-ой уздымкі), якая захоўвалася ў добра залітаванай скрыначцы з абцынкаванай бляхі і перад адгонкай была прафільтравана. Затым была здабыта каліфоня з хваёвага смаляку экстракцыйным мэтадам наступным спосабам. З падробненага смаляку парай выганяўся шкіпінар, потым гэтыя падрабеныя шчэпачкі высушваліся і залітыя бэнзінам стаялі 3 дні, пасьля чаго награваліся з адваротным халадзільнікам на вадзяной лазьні 2 гадзіны, каб лепш вытварылася экстракцыя. Бэнзін далей фільтрацыяй вызваляўся ад драўніны, адганяўся парай, а ў колбе заставалася каліфоня, якая некаторы час яшчэ награвалася.

Для уяўленьня таго, як адбіваецца папярэдняе адсуваньне шкіпінара разам з акісьленай часткай жывіцы прэсаваньнем, як гэта прапануе праф. В. В. Шкацелаў, на фізычные і хэмічные ўласьцівасьці каліфоні, прафільтраваная і закрышталізаваная жывіца заварачвалася ў палатно, зьмяшчалася пад моцны прэс, дзе падлягала некаторы час адціскаваньню.

Другая порцыя прафільтраванай жывіцы адціскалася такім самым спосабам, затым зноў рашчынялася ў шкіпінару пры награваньні на вадзяной лазьне, пакідалася для крышталізацыі, пасьля чаго другі раз прасавалася. Каліфоня з гэтакай жывіцы здабывалася паказаным ужо спосабам.

Ува ўсіх здабытых каліфонях вызначалася звычайным спосабам, як гэта робіцца пры дасьледваньнях жыроў, процантнае утрыманьне матэрый, якія ня абмыліваюцца. Наважка 4—5 гр. каліфоні абмылівалася пры награваньні 1% рашчынай NaOH, а затым этэрам выцягваліся матэрыі, што ня абмыліваюцца. Этэр далей адганяўся, а астача высушвалася пры 90° і ўзважывалася.

Астатнія фактары—іодны лік, каэфіцыэнт абмыліваньня, кіслотны лік, этэрны лік, вызначаліся звычайнымі аналітычнымі мэтадамі. Тут трэба адзначыць, што прымаючы пад увагу умоўнасьць іоднага ліку наогул і тое, што нам было важна атрымаць толькі адноснае значэньне іоднага ліку, мы абмяжоўваліся 2-х гадзінным настойваньнем сьпірытусавай рашчыны наважкі каліфоні з вызначанай колькасьцю іодна-ртутнай рашчыны.

Таблiца 1

| Умовы досьледаў | Жывiца: Здольнасьць вярчэньня роўніцы палярызацыі жывіцай $\alpha_d$ | Жывiца: Iодны лiк | Калiфоня: Тэмпэрат. пры якой здабывалася калiфоня | Калiфоня: Вярчэньне $\alpha_d$ | Калiфоня: Тэмпэр. тапленьня | Калiфоня: Iодны лiк | Калiфоня: Каэфiцыэнт абмылiваньня | Калiфоня: Кiслотны лiк | Калiфоня: Этэрны лiк | Калiфоня: Процант матэрый, што ня абмылiваюцца | Калiфоня: Колернасьць | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прафiльтраваная жывiца чэрвеньскага збору (пасьля 2-ой уздымкi) . . | —55,3 | 92,1 | 165 | +15,36 | 68 | 99,5 | 174,0 | 164 | 10,0 | 7,1 | Сьветлажоўтая | |
| Жывiца, прафiльтраваная. старая . . . . . . . . | —57,0 | 107,3 | 180 | — 8,02 | 68 | 98,7 | 174,0 | 170 | 4,0 | 6,2 | Жоўтая | |
| „ | „ | „ | 200 | — 19,9 | 69 | 100,5 | 174,8 | 167,6 | 7,2 | 6,1 | „ | |
| „ | „ | „ | 220 | —26,52 | 68 | 98,8 | 173,0 | 165,2 | 7,8 | 6,1 | „ | |
| „ | „ | „ | 240 | —22,5 | 69 | 92,4 | 172,6 | 164,7 | 7,9 | 7,4 | „ | |
| „ | „ | „ | 270 | —18,27 | 69 | 94,7 | 173,6 | 161,0 | 12,6 | 8,6 | „ | |
| „ | „ | „ | 295 | —11,0 | 67 | 83,3 | 173,2 | 155,0 | 18,2 | 11,8 | | |
| Вакуум 160 mm. . . . | „ | „ | 165 | +21,4 | 66 | 94,4 | 174,9 | 164,9 | 10,0 | 6,9 | Сьветлажоўтая | Калiфоня менш хрупкая |
| Вакуум 160 mm. . . . | „ | „ | 125 | — 6,62 | 66 | 103,8 | 174,1 | 166,0 | 8,1 | 6,8 | „ | „ |
| Жывiца, 2 разы адцiснутая пад прэсам . . . . | — | — | 180 | — 4,6 | 69 | 107,2 | 179,6 | 175,1 | 4,5 | 2,6 | „ | Сьвятлей папярэдняй |
| Жывiца, 1 раз адцiснутая пад прэсам . . . . . . | — | — | 180 | 0 | 70 | 98,6 | 176,5 | 175,3 | 1,2 | 3,2 | „ | |
| Калiфоня, здабытая са смаляку . . . . . . . | — | — | 170 | 0 | 45 | 92,4 | 143 | 134,6 | 8,4 | 19,5 | Цёмная | Калiфоня лiпучая |

Што датычыцца тэмпэратуры тапленьня, дык яна вызначалася ў капілярных трубачках у гліцэрынавай лазьні, прычым за пункт тапленьня каліфоні мы лічылі тую тэмпэратуру, якую паказваў тэрмомэтр у момант ашкляненьня каліфоні. У дадзеным выпадку мы лічылі, што гэта азнака зьяўляецца больш надзейнай і лягчэй улавіма, чым момант капкастварэньня, як гэта прапануюць І. В. Філіповіч і Н. В. Тухавіцкі ў сваёй працы: „Свойства подсочных и экстракционных канифолей и наш критерий для суждения о них“ [1]).

Пераходзячы цяпер да разгляданьня атрыманых вынікаў, што паказаны ў табліцы № 1, перш за ўсё неабходна спыніцца на здольнасьці вярчэньня роўніцы палярызацыі каліфонямі, якія здабыты пры розных тэмпэратурах.

Як гэта відаць з табліцы, гэты фактар хістаецца ў вельмі шырокіх межах.

Тэмпэратура 165° дае каліфоню, якая паварачвае роўніцу палярызацыі направа ($\alpha_d = +15,36°$). З далейшым павышэньнем тэмпэратуры, вярчэньне каліфоні мяняе свой знак і паступова павялічываючыся, дасягае пры 220° maximum'а ($\alpha_d = -26,52°$), затым велічыня вярчэньня пачынае зьмяншацца і пры 295° дасягае $\alpha_d = -11,0$. Каліфоня, што была здабыта з адціснутай 2 разы жывіцы, дала $\alpha_d$ — 4,6°, а адціснутая адзін раз нядзейную каліфоню. Нядзейная каліфоня атрымалася і са смаляку.

Тут да рэчы таксама прывесьці дадзеныя, якія атрыманы былі адным з аўтараў гэтай працы (К. Н. Кораткавым) пры спэцыяльным вывучэньні пытаньня аб уплыве тэмпэратуры на здольнасьць вярчэньня каліфонямі роўніцы палярызацыі.

Досьледы вытвараліся з жывічнай каліфоняй, што была атрымана пры 160°. Тэмпэратура тапленьня яе—80°, а вярчэньне — $\alpha_d = +16,3°$.

Каліфоня зьмяшчалася ў прабірку, якая залітоўвалася і награвалася прызначаны час пры сурова вызначанай тэмпэратуры на ртутнай лазьні.

За пункт тапленьня каліфоняў у гэтых выпадках прымаўся момант сьцяканьня каліфоні на дно капіляра. Вынікі досьледаў зьмешчаны ў наступнай табліцы № 2.

Тут мы таксама бачым, якія рэзкія хістаньні атрымлівае вярчальная здольнасьць каліфоні ў залежнасьці ад тэмпэратуры і часу награваньня. Неабходна падкрэсьліць вельмі важную акалічнасьць, што тэмпэратура тапленьня зусім ня зьвязана са зьмяненьнем вярчэньня і застаецца сталай.

Толькі ледзь пры працяжным награваньні (14, 24, 26 гадзін) яна зьмяняецца ў бок зьніжэньня.

Варочаючыся зноў да далейшага разгляданьня дадзеных табліцы 1, мы бачым, што тэмпэратуры тапленьня каліфоняў, здабытых пры розных тэмпэратурах, застаюцца сталымі. Хістаньні ня перавышаюць 4-х градусов і толькі у адным разе вынаходзіцца рэзкае зьніжэньне тэмпэратуры тапленьня, а ўласьне, у выпадку здабытай са смаляку каліфоні, мэтадам экстракцыі. Апошняе яшчэ лішні раз пацьвярджае той факт, што наогул каліфоні, здабытыя са смалякоў экстракцыйным мэтадам, заўсёды ўладаюць больш нізкай тэмпэратурай тапленьня, чым жывічная каліфоня.

Больш нізкая тэмпэратура тапленьня экстракцыйнай каліфоні абмаўляецца, як гэта паказваў ў сваім дакладзе на Усесаюзнай канфэрэнцыі па каліфонявай прамысловасьці праф. Е. І. Любарскі [2]), прысутнасьцю ў экстракцыйнай каліфоні цяжкіх частак шкіпінару, якія ня могуць быць

[1]) Журнал химической промышленности 1927 г. № 11.

[2]) Проф. Любарский, Е. И. О причинах легкоплавкости пневой канифоли и мерах ее устранения. Труды Гос. Дальнев. Университета. Серия VII, № 8.

Табліца 2.

| Працяжнасьць награв.ньня | Тэмпэратура, пры якой вытваралася награваньне | t° тапленьня каліфоні | Вярчэньне $\alpha_d$ | Увага |
|---|---|---|---|---|
| — | — | 80° | +16,3 | Перад досьледамі |
| 2 гадзін. . . . . . . . | 150° | 80° | +16,6 | |
| 2 „ . . . . . . . | 180° | 80° | + 4,1 | |
| 2 „ . . . . . . . | 200° | 80° | −18,5 | |
| 2 „ . . . . . . . | 220° | 80° | −18,5 | |
| 2 „ . . . . . . . | 255° | 80° | −17,7 | |
| 2 „ . . . . . . . | 260° | 80° | −25,0 | |
| 2 „ . . . . . . . | 270° | 80° | − 5,7 | |
| 8 „ . . . . . . . | 270° | 80° | +15,4 | |
| 14 „ . . . . . . . | 270° | 75° | +42,8 | |
| 24 „ . . . . . . . | 270° | 75° | − 3,6 | |
| 25 „ . . . . . . . | 270° | 75° | +11,8 | |
| 46 „ . . . . . . . | 270° | 65° | +29,7 | |
| 1 „ . . . . . . . | 275° | 80° | −11,8 | |
| 2½ „ . . . . . . . | 275° | 80° | − 7,8 | |
| 5 „ . . . . . . . | 275° | 80° | − 8,2 | |
| 2 „ . . . . . . . | 285° | 80° | 0 | |

выгнаны парай, а таксама прысутнасьцю ў каліфоні рэштак арганічнага рашчыньніка, якім экстрагіравалася каліфоня.

Далей можна адзначыць, што каліфоня, якая была атрымана пры вакууме, і каліфоня з адціснутай жывіцы таксама маюць некаторую, хоць вельмі нязначную, тэндэнцыю, першая—да зьніжэньня, а другая—да павышэньня тэмпэратуры тапленьня. Далей ідуць фактары дякія характарызуюць каліфоню з хэмічнага боку—іодны лік, каэфіцыэнт, абмыліваньня, кіслотны лік, этэрны лік. Што датычыцца ўсіх гэтых лікаў, дык устанавіць які-нібудзь уплыў тэмпэратуры здабываньня на паказаныя лікі нельга, бо, як гэта відаць з табліцы, усе яны вельмі нязначна зьмяняюцца.

Выключэньне прадстаўляе іодны лік,—ён пэўна з павялчэньнем тэмпэратуры зьмяняецца.

Застаецца яшчэ два апошнія фактары, гэта матэрыі, што ня абмыліваюцца і колернасьць.

Што да першага, дык тут зусім ясна відаць, што з павялічэньнем тэмпэратуры ўзрастае колькасьць неабмыленых складальных часітак каліфоні. Пры 295° колькасьць іх дасягае паважнай лічбы—11,8%, а пры тэмпэратурах ад 180° да 220°—6,1%. Рэзкае зьніжэньне неабмыленых матэрый даюць каліфоні, здабытыя пры 180° з адціснутай жывіцы (2,6% і 3,2%), г. з. у два разы менш, чым з жывіцы толькі фільтраванай. На асобным месцы стаіць каліфоня са смаляку, якая трымае 19,5% матэрый, што ня абмыліваюцца.

Колернасьць каніфолі мала зьмяняецца. Крыху прыкметную розьніцу, у бок больш сьветлых гатункаў, даюць каліфоні, здабытыя пры вакууме і даволі прыкметную розьніцу, зноў у бок больш сьветлых гатункаў, дае

каліфоня, здабытая з жывіцы, якая была 2 разы адціснутая. Яна была найсьвятлейшая.

Цікава адзначыць тут, што з павялічэньнем тэмпэратуры павялічваецца і хрупкасьць каліфоні. Здабытая пры тэмпэратуры звыш 200°, каліфоня, пасьля застыганьня пры слабым удары рассыпаецца на парашок, чаго нельзя назіраць у каліфоні, здабытай пры вакууме і ніжэйшых тэмпэратурах. Рэзка высоўваецца каліфоня са смаляку, якая мела вельмі цёмную афарбоўку.

Калі параўнаць іодны лік, каэфіцыэнт абмыліваньня, кіслотны і этэрны лікі з колькасьцю матэрый, што ня абмыліваюцца, а апошняе зьяўляецца крытэрыумам, які дае магчымасьць меркаваць ужо аб тэхнічных вартасьцях каліфоні, дык можна ўгледзіць даволі ясна выяўленую залежнасьць. Малы іодны лік адпавядае высокаму утрыманьню матэрый, якія ня абмыліваюцца, г. з. паміж гэтых двох фактарах назіраецца адваротная залежнасьць—83,3—11,8% і 107—2,6%. Этэрны лік наадварот,—мае тэндэнцыю павялічвацца з павялічэньнем колькасьці матэрый, што ня абмыліваюцца, г. з. знаходзіцца ў роста залежнасьці.

Абагульваючы ўсё вышэйпаданае мы, можам зрабіць наступныя галоўнейшыя вывады:

1) Розныя тэмпэратуры, якіх мы трымаліся пры здабываньні каліфоняў, ня учыняючы ніякага ўплыву на тэмпэратуру тапленьня, вельмі значна ўплываюць на вярчальную здольнасьць каліфоні, якая зьмяняецца ў вельмі шырокіх межах, прычым пры звычайных умовах, пры тэмпэратуры 165°—180° здабываецца каліфоня, якая варочае роўніцу палярызацыі направа.

2) З павышэньнем гэтых тэмпэратур, зьмяняецца іодны лік, павялічваецца колькасьць складальных частак каліфоні, якія ня абмыліваюцца.

3) Найменшыя колькасьці матэрый, што ня абмыліваюцца, а значыцца лепшай якасьці каліфоня здабываецца пры тэмпэратурах у межах 180°—220°.

4) Ужываньне вакуума пры здабываньні каліфоні бадай ня мэтазгодна, бо здабытая такім спосабам каліфоня, хоць і дае нязначнае паляпшэньне колернасьці яе, але разам з тым павялічваецца колькасьць матэрый, якія ня абмыліваюцца (на 0,7%).

5) Найбольш добрыя гатункі каліфоні, як па колернасьці, гэтак і утрыманьню матэрый, што ня абмыліваюцца (ад 2,6 да 3,2%), магчыма атрымаць з жывіцы папярэдне адціснутай пад прэсам ад частак, якія акісьліліся.

Каліфоня, здабытая са смаляку экстракцыяй бэнзінам, уладае ўсімі адмоўнымі якасьцямі—нізкай тэмпэратурай тапленьня, занадта вялікай колькасьцю матэрый, якія ня абмыліваюцца, цёмнай колернасьцю.

8) Жывіца старых збораў, якая захоўвалася ў плыні 2-х гадоў ў добра зачыненай скрыне, дае каліфоню, якая мала чым адрозьніваецца ад каліфоні са сьвежай жывіцы.

*Дацэнт К. Н. Кораткаў*
*і асьпірант В. П. Сініцкі.*

# Влияние температуры получения канифоли на ее физико-химические свойства

### (Из работ лаборатории лесной химической технологии).

Задачей настоящей работы, являлось изучение влияния температуры получения канифоли (той температуры, при которой удаляются последние следы воды и в перегонном кубе получается конечный продукт —конифоль) на некоторые физико-химические свойства ее, как-то: 1) вращательную способность, 2) температуру плавления, 3) иодное число, 4) коэфициент омыляемости, 5) кислотное число, 6) эфирное число 7) % содержания неомыляемых веществ и 8) цветность канифоли.

Исходным материалом для исследования служила живица, полученная подсочкой сосны в 1926 году, живица (около 10 пудов) до настоящего времени хранилась в жестяном ящике, вставленном в другой деревянный ящик и закрытый деревянной-же крышкой. Верхние слои живицы, при долгом хранении, окислились и имели желто-буроватую окраску.

При снятии верхних слоев обнаруживалась чистая, повидимому еще не затронутыя процессом окисления, живица. Верхние слои снимались, и для опытов брались внутренние слои живицы.

Живица расплавлялась на водяной бане и фильтровалась через марлю.

Освобожденная таким образом от посторонних примесей, живица в застывшем виде представляла однородную, слегка желтоватую, довольно плотную кристаллическую массу.

Определенное количество живицы помещалось в колбу Вюрца с термометром, погруженным в живицу. После отгонки скипидара, канифоль получалась нагреванием на песчаной бане при строго определенной температуре.

Предварительно определялись вращательная способность и иодное число живицы.

Полученная таким образом при различных температурах канифоль подвергалась исследованию, определялись все факторы, указанные в начале.

Кроме этого, была получена конифоль вышеуказанным способом, но при вакууме в 160 m/m ртутнаго столба и при t°—125 и 165° Для сравнения была получена канифоль из живицы июньского сбора 1927 г· именно, живица, собранная после второй вздымки, хранившаяся до насто ящего времени в хорошо запаянной банке из оцинкованного железа.

Затем, была получена канифоль из сосноваго осмола экстракционным методом. Из измельченного осмола паром удалялся скипидар, осмол просушивался и настаивался в течение 3-х суток с бензином, после чего нагревался с обратным холодильником на водяной бане в течении 2-х часов. Бензин отделялся фильтроваоием от древесины и отгонялся, в остатке оставалась конифоль.

Для выяснения вопроса, как влияет предварительное удаление жидкой части живицы, отжатием последней под прессом (способ, рекомендованный профессором В. В. Шкателовым), на конечный продукт – канифоль, профильтрованная и закристаллизованная живица завертывалась в полотно и помещалась под сильный пресс, где подвергалась некоторое время отжиму. Из этой отжатой живицы получалась канифоль. Другая порция профильтрованной живицы отжималась под прессом, затем снова растворялась в скипидаре при нагревании и оставлялась в покое до кристализации, после чего вторично прессовалась. Цель этой операции— возможно полное удаление окислившейся части живицы. Во-всех полученных канифолях определялось процентное содержание неомыляемых веществ обыкновенным способом (как при жирах). Навéска канифоли омылялась при нагревании NaOH, и неомыляемые вещества извлекались эфиром.

Остальные факторы—иодное число, коэфициент омыляемости, кислотное число определялись обыкновенными аналитическими методами.

Здесь надо отметить, что принимая во внимание условность иоднога числа вообще, и то, что нам было важно получить относительное значение иодного числа, мы ограничивались 2-х часовым настойванием (при периодическом взболтывании) спиртового раствора навески канифоли с определенным количеством иодно-ртутнога раствора. Температура плавлення конифоли определялась в капиллярных трубочках в глицерине, при чем за точку плавления канифоли мы считали ту температуру, которую показывал термометр в момент остекления канифоли.

В данном случае, мы считали, что этот признак является более надежным и легче уловимым, чем момент каплеообразования, как это рекомендуют И. В. Филипович и Н. В. Туховицкий в своей работе „Свойства подсочных и экстракционных канифолей и наши критерии для суждения о ннх“. [1])

Рассматривая полученные результаты, представленные в таблице I, прежде всего остановимся на изменении вращательной способности канифолей. Этот фактор колеблется в чрезвычайно широких пределах. Температура 165° дает право-вращающую канифоль (+15,36°); с дальнейшим повышением температуры получения канифоли, вращение меняет свой знак и постепенно увеличиваясь достигает при 220° maximum'а ($\alpha_d$ = —26'52°) С увеличением температуры величина вращения уменьшается, и при, 295° достигает —11,0°. Канифоль же, полученная из дважды от жатой живицы при 180° дает $\alpha_b$ = — 4,6°, а при однократном отжиме конифоль при той же температуре получается не деятельная Инактивная-же канифоль получается и из осмола. Здесь уместно привести данные, полученные одним из авторов настоящей работы (К. Н. Коротковым) при специальном изучении вопроса о влиянии температуры на вращательную способность канифоли. Опыты производились с живичной канифолью полученной при 160° с температурой плавления 80° и $\alpha_d$ = + 16,3°.

Эта канифоль помещалась в пробирку, последняя запаивалась и подвергалась нагреванию при строго определенной температуре в ртутной бане. За точку плавления канифоли в этих опытах принимался момент стекания канифоли на дно капилляра. Результаты опытов представлены в таб. II. Здесь также видно, какие резкие колебания испытывает вращательная способность канифоли, в зависимости от температуры и продолжительности нагревания. Резко бросается в глаза, что температура плавления совершенно не связана с вращательной способ-

[1]) Журнал химич. промыш. № 11 1927 г.

Таб. 1

| | ЖИВИЦА | | КАНИФОЛЬ | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вращение живицы $\alpha_d$ | Иодное число | Температура при которой получена канифоль | Вращение канифоли $\alpha_d$ | Температура плавления | Иодное число | Коэфициент омыляемости | Кислотное число | Эфирное число | % неомыляемых веществ | Цветность | Примечание |
| Живица, профильтрованная, июньского сбора . . . . | — 55,3 | 92,1 | 165° | + 15,36 | 68° | 99,5 | 174,0 | 164,0 | 10,0 | 7,1 | Светло-желтая | — |
| Живица, профильтрованная, старая . . . . . . . . | — 57,0 | 107,3 | 180° | — 8,02 | 68° | 98,7 | 174,0 | 170,0 | 4,0 | 6,2 | Желтая | — |
| „ | „ | „ | 200° | — 19,9 | 69° | 100,5 | 174,8 | 167,6 | 7,2 | 6,1 | Желтая | — |
| „ | „ | „ | 220° | — 26,52 | 68° | 98,8 | 173,0 | 165,2 | 7,8 | 6,1 | Желтая | — |
| „ | „ | „ | 240° | — 22,5 | 69° | 92,4 | 172,6 | 164,7 | 7,9 | 7,4 | Желтая | — |
| „ | „ | „ | 270° | — 18,27 | 69° | 94,7 | 173,6 | 161,0 | 12,6 | 8,6 | Желтая | — |
| „ | „ | „ | 295° | — 11,0 | 67° | 83,3 | 173,2 | 155,0 | 18,2 | 11,8 | Желтая | — |
| Вакуум 160 m/m. . . . . . . | „ | „ | 165° | + 21,4 | 66° | 99,4 | 174,9 | 164,9 | 10,0 | 6,9 | Светло-желтая | Канифоль менее хрупкая |
| Вакуум 160 m/m. . . . . . . | „ | „ | 125° | — 6,62 | 66° | 103,8 | 174,1 | 166,0 | 8,1 | 6,8 | Светло-желтая | Канифоль менее хрупкая |
| Живица, дважды отжатая под прессом . . . . . . | „ | „ | 180° | — 4,6 | 69° | 107,2 | 179,6 | 175,1 | 4,5 | 2,6 | Светло-желтая | Светлей предыдущей |
| Живица, отжатая один раз . | „ | „ | 180° | 0,0 | 70° | 98,6 | 176,5 | 175,3 | 1,2 | 3,2 | Светло-желтая | — |
| Канифоль, полученная из осмола . . . . . . . . | „ | „ | 170° | 0,0 | 45° | 92,4 | 143 | 134,6 | 8,4 | 19,5 | Темная | Канифоль липкая |

Табл. 2.

| № | Продолжительность нагревания | Температура при которой производилось нагревание | t° плавления канифоли | $\alpha_d$ Вращение |
|---|---|---|---|---|
| — | До опыта | — | 80° | +16,3 |
| 1 | 2 часа | 150° | 80° | +16,6 |
| 2 | 2 „ | 180° | 80° | + 4,1 |
| 3 | 2 „ | 200° | 80° | —18,5 |
| 4 | 2 „ | 220° | 80° | —18,5 |
| 5 | 2 „ | 255° | 80° | —17,7 |
| 6 | 2 „ | 260° | 80° | —25,0 |
| 7 | 2 „ | 270° | 80° | — 5,7 |
| 8 | 8 „ | 227° | 80° | +15,4 |
| 9 | 14 „ | 270° | 75 | +42,8 |
| 10 | 24 „ | 270° | 75 | — 3,6 |
| 11 | 25 „ | 270° | 75 | +11,8 |
| 12 | 46 „ | 270° | 65 | +29,7 |
| 13 | 1 „ | 275° | 80 | —11,8 |
| 14 | 2½ „ | 275° | 80 | — 7,8 |
| 15 | 5 „ | 275 | 80 | — 8,2 |
| 16 | 2 „ | 285 | 80° | 0 |

ностью канифоли и остается постоянной, и только при длительном нагревании—14, 24 и 46 часов она изменяется.

Возвращаясь к дальнейшему рассмотрению данных таблицы I, мы видим, что температура плавления канифолей, полученных при разных температурах, остается постоянной. Колебания не превосходят 4-х градусов и только в одном случае абнаруживается резкое понижение t° плавления, именно, канифоль из осмола. Последнее еще лишний раз подтверждает тот факт, что, вообще, канифоли, полученные из осмола экстракционным методом, всегда обладают более низкой t° плавления, чем живичная канифоль. Последнее обстоятельство об'ясняется профессором Е. И. Любарским [1]) присутствием в экстракционной канифоли тяжелых частей скипидара, не удаленных из осмола паром, а также присутствием в канифоли остатков органического растворителя, которым производилась экстракция.

Затем, нужно отметить, что канифоль, полученная при вакууме и канифоль, полученная из отжатой живицы, так-же имеют некоторую тенденцию—первая к понижению, а вторая к повышению температуры плавлення. Далее идут химические факторы: иодное число, коэфициент омыления, кислотное число, эфирное число. Что касается всех этих чисел, то установить какое-нибудь влияние температуры получения канифоли на указанные числа нельзя, ибо, как это видно из таблици, все они, за исключением иодного числа, очень мало изменяются. Иодное же число с увеличением температуры уменьшается, очевидно с повышением температуры уменьшается непредельность смоляных кислот.

Последние два фактора—неомыляемые вещества и цветность; что касается первого, то тут совершенно ясно видно, что с увеличением

[1]) Проф. Е. И. Любарский о причинах легкоплавкости пневой канифоли и мерах ее устранения. Труды Дальневосточного Университета серия VII № 8.

температуры возрастает количество неомыляемых составных частей канифоли и при 295° это количество достигает 11,8%, minimum дают температуры от 180 до 220°—6,1%. Резкое понижение количества неомыляемых веществ дают канифоли, полученные при 180° из отжатой живицы —2,6 и 3,2%, т. е. вдвое меньше, чем из не отжатой. На особом месте стоит конифоль, полученная из осмола, здесь неомыляемые вещества достигают 19,5%.

Цветность канифоли мало изменяется, едва заметную розницу в сторону более светлого сорта канифоли дает канифоль, полученная при вакууме и довольно заметную разницу, опять таки в сторону более светлой канифоли, дает канифоль, полученная из дважды отжатой живицы. каковая является самой светлой. Канифоль из осмола, по сравнению с остальными канифолями, имеет весьма темную окраску. Если сопоставить данные исследования канифолей, полученных из старой живицы и из свежей, (и июньского сбора после 2-ой вздымки), то существенной разницы не обнаруживается.

Далее, сопостовляя иодные числа, коэфициенты омылеиия, кислотные числа и эфирные числа с количеством неомыляемых веществ, а последнее является критерием, дающим возможность судить уже о технических достоинствах конифолей, то можно усмотреть довольно ясно выраженную зависимость. Малое иодное число соответствует высокому содержанию неомыляемых веществ, т. е., между этими двумя факторами наблюдаетя обратная зависимость—83,3 отвечает 11,8% немыл. веществ и 107—2,6% неомыл. веществ. Эфирное число, наоборот, имеет тенденцию увеличиваться с увеличением количества неомыляемых веществ, т. е., находится в прямой зависимости.

Обобщая все вышеизложеное мы можем сделать следующие главнейшие выводы:

1) Температура получения канифоли, не оказывая никакого влияния на температуры плавления канифолей, в сильной степени влияет на вращательную способность их, каковая меняется в широких пределах, при чем, при обыкновеннык условиях при t—165°—180° получается правовращающая канифоль.

2) С повышением температуры получения канифоли, уменьшается иодное число, увеличивается эфирное число и вместе с тем увеличивается количество неомыляемых составных частей канифоли.

3) Наименьшее количество неомыляемых веществ, а вследовательно лучшего качества канифоль получается при температурах в пределах 180—220 градусов.

4) Применение вакуума при получении канифоли вряд-ли целесообразно, — получаемая канифоль хотя и дает незначительное улучшение цветности, но вместе с тем в канифоли увеличивается количество неомыляемых веществ (на 0,7%).

5) Наиболее хорошие сорта канифоли,как по цветности, так и посодержанию неомыляемых веществ (от 2,6 до 3,2%) возможно получить подвергая живицу предварительному отжиму от окислившихся частей в прессе.

6) Канифоль, полученная из осмола экстракцией бензином, обладает всеми отрицательными качествами — низкой температурой плавления, чрезвычайно высоким содержанием неомыляемых веществ и темной окраской.

7) Живица старых сборов, сохранявшаяся в течение 2-х лет в хорошо закрытом ящике, дает кантроль, мало чем отличающуюся от канифоли, полученной из свежей живицы.

*К. Коротков и В. Синицкий.*

Март 1928 г

# Да пытаньня аб карэляцыйнай залежнасьці удзельнай вагі і шырыні гадовых слаёў яловай драўніны.

(Праца выканана пры Аддзеле Лесазнаўства Дагляду і Рубак Ц.Л.Д.С.Б. і катэдры Агульнага Лесаводзтва Б.А.С.Г.[1])

Удзельнай вазе ў свой час надавалася аграмаднае значэньне як паказальніку тэхнічных уласьцівасьцяў драўніны: лічылася, што тэхнічныя ўласьцівасьці мяняюцца супастаўна зьмене удзельнай вагі. Над разьвіцьцём і замацаваньнем памянёнага погляду асабліва папрацаваў Робэрт Гартыг і яго вучні. Прыняўшы удзельнаю вагу за паказальнік дабротнасьці драўніны, школа Гартыга, натуральна, занялося вывучэньнем анатамічнай будовы драўніны. Гэтае вывучэньне дало магчымасьць Гартыгу ўтварыць школу, якая абумаўляе удзельную вагу драўніны двума фактарамі — вялікаю пажыўнасьцю глебы і сілай трансьпірацыі. Добра распрацованая гіпотэза аб удзельнай вазе дае магчымасьць здавальняюча растлумачыць многія зьявішчы ў зьменах удзельнае вагі драўніны ў сувязі з умовамі росту дрэва [2])

Аднак, дасьледваньні Марыябрунскай дасьледчай станцыі, а да гэтага дасьледваньні Швапаха і Тэтмаера не пацьвердзілі поўнасьцю поглядаў Гартыга, але ўсё-ж, уносячы абмежаваньні і папраўкі ў пытаньні аб ужываньні удзельнае вагі як паказальніка дабротнасьці драўніны, не дае падставы для поўнага адмаўленьня залежнасьці, напрыклад, паміж моцам і шчыльнасьцю драўніны.

Што-ж да удзельнае вагі драўніны елкі, дык, па дадзеных Марыябрунскай дасьледчай станцыі, яна можа даць добрыя вынікі, калі карыстацца ёю для параўнаньня дасьледваньняў у межах пэўнай краіны, пры аднакавай вільготнасьці супастаўленых кускоў драўніны і адсутнасьці сучча і крэні. Янка таксама канстатуе простую цесную сувязь паміж удзельнай вагай, пругасьцю і моцам пры зломе, сьцісканьні, а таксама цьвёрдасьцю для ясенавай драўніны. С. А. Багаслаўскі устанавіў залежнасьць паміж удзельнай вагай і моцам пры сьцісканьні дубовай драўніны Шыпава лесу. Такім чынам, за апошні час лябараторныя дасьледваньні ўсё-ж устанавліваюць залежнасьць паміж удзельнай вагай і некаторымі тэхнічнымі ўласьцівасьцямі драўніны. Таму, дужа неабходна ўсебакова вывучыць фактары, ад якіх залежыць удзельная вага драўніны.

У прапануемым нарысе робіцца толькі проба устанавіць залежнасьць удзельнае вагі яловай драўніны ад шырыні гадовага слою і то нават без падзелу яго на веснавую і васеньнюю часткі.

Пытаньне аб прычынах большай ці меншай шырыні гадовых слаёў у адных і тых-жа дрэўных пародах яшчэ ня досыць вывучана.

[1]) Заслухана на пасяджэньні Лясной Сэкцыяй Навуковага Т-ва па вывучэньню Беларусі 10/III 1928 г.

[2]) Т. Гартыгам устаноўлена таксама залежнасьць паміж удзельнай вагаю драўніны і часам яе рубкі. Дасьледваньні Робэрта Гартыга не пацьвердзілі гэтага палажэньня.

Ёсьць дасьвядчальныя дадзеныя, якія паказваюць, што шырыня гадовых колцаў і процантавае суадносіна веснавой і летняй часткі драўніны ў іх залежыць ад глебава-грунтовых умоў, клімату, ад умоў змыканьня дрэвастану, і ад шэрагу іншых прычын. Таму могуць быць такія выпадкі, калі больш шырокаслойная драўніна будзе мець большую ўдзельную вагу, чым меней шырокаслойная. (Успомнім аб удзельнай вазе прыгнечаных дрэў). У такіх выпадках трэба зьвяртаць увагу на суадносіны паміж веснавой і летняй часткамі драўніны. Веснавая частка слоя выконвае ваданосныя функцыі, а таму ў ёй сканцэнтраваны шырокія трахеіды (у ігластых), а пад канец вэгэтацыйнага пэрыяду ўтвараецца рад усьцяжных сьціслых трахеід з невялікаю дуцінай. Гэтыя трахеіды і ўтвараюць васеньнюю частку слою. І чым адносна шырэй васеньняя частка слою, тым больш удзельная вага. У нашым выпадку гадовы слой бярэцца цалкам і пры параўнаньні гэтых слаёў з удзельнай вагай, атрымаем няпоўную адваротную залежнасьць. Прафэсар Д. І. Кайгародаў у сваёй працы канстатуе адваротную залежнасьць паміж шырынёю гадовых слаёў і удзельлай вагай. Пытаньне аб ступені залежнасьці паміж удзельнай вагай і шырынёю гадовых слаёў ім ня было пастаўлена, бо прыняты мэтад апрацоўкі дасьледуемага матар'ялу ня даў бы яму адказу на гэтае пытаньне. Трэба ўсё-ж думаць, што высокай карэляцыі паміж удзельнай вагай абсалютна-сухой дроўніны і шырынёю гадовых слаёў у праф. Д. І. Кайгародава ня атрымалася-бы, аб чым можна часткова меркаваць па форме прыведзеных ім крывых.

Паведамляемыя дадзеныя аб удзельнай вазе драўніны елкі ў залежнасьці ад шырыні гадовых слаёў зьяўляюцца, уласна кажучы, працягам працы „Содержание влаги в древесине ели в разное время года и в различных частях ствола“, якая была выканана пад непасрэдным кіраваньнем праф. Л. І. Яшнова (праца надрукована ў Запісках Горацкага С.-Г. Інстытуту, т. II, 1924 г.). Аб'ектыўныя дадзеныя перашкодзілі ў той час скарыстаць сабраны матар'ял цалкам і выканаць працу ў задуманым аб'ёме. Неабходны цыфровы матар'ял, які палажан у аснову гэтай працы, меўся ў гатовым відзе, за выключэньнем дадзеных аб шырыні гадовых слаёў. Навуковая супрацоўніца па катэдры спэцыяльнага лесаводзтва М. Н. Шчаглова, будучы яшчэ студэнткай ляснога факультэту Горацкага С.-Г Інстытуту ў 1924 г., атрымала сабраны мною матар'ял, са згоды праф. Л. І. Яшнова, дзеля распрацоўкі дыплёмнай працы аб залежнасьці удзельнае вагі драўніны елкі ад шырыні гадовых слаёў. У гэтай працы аўтар карыстаецца цыфровымі дадзенымі вымеру шырыні гадовых слаёў яловых кускоў, якія яму ласкава аддадзены М.Н. Шчагловай. Гытыя дадзеныя злучаны ў табліцу № 2. Нажаль аўтар ня мог азнаёміцца ні з дыплёмнай працай М. Н. Шчагловай, ні з яе выводамі дзеля распрацоўкі сваёй тэмы па незалежных ад яго акалічнасьцях.

Увесь матар'ял сабран з вельмі абмежваанай плошчы, прыблізна з 1000 кв. мэтраў. Пры непасрэдным кіраваньні праф. Л. І. Яшнова ў 41 кв. Горацкай дачы быў ня толькі выбран ў сьвежай ялюзі паказаны пляцок, а таксама былі адзначаны і тыя дрэвы, якія патрэбны дзеля збору неабходнага матар'ялу. Усе дрэвы выбіраліся з асаблівай старannасьцю,— зьвярталася увага на ідэнтычнасьць разьвіцьця кароны, таўшчыні ствала і іншае. Найбольшая увага была зварочана на мікрарэльеф. Наогул было зварочана максымум увагі, каб усе дрэвы, для дасьледваньня знаходзіліся ў магчыма аднакавых умовах росту. На абраным вучастку сьвежай рамені паўната была 0,8; склад: 9елак, 1 асіна, адзіночна клён.

*Падлесак* з Corilus Avellana L., Lonicera Xylosteum L., Daphne Mezereum L. (рэдка).

*Акрыцьце*: Asperula odorata, Asarum europaeum L., Oxalis Acetosella L., Hepatica triloba Chaix., Pirola rotundifolia 2, P. secunda 2, і іншыя.

*Глеба* — моцна ападзолены суглінак з тонкім слоем кіслага гумусу.

Марэна залегае на глыбіні $1^1/_2$ мэтр.

Грунтовыя воды на глыбіні 2—5 мэтр.

Дзеля адзначэньня вільгаці ў драўніне елкі было ўзята 24 дрэва на працягу году, па два дрэвы штомесячна. Пры азначэньні-ж залежнасьці удзельнае вагі ад шырыні гадовых слаёў, скарыстаны кускі ад 18 дрэў, якія зрублены ў пэрыяд між жніўнем 1923 года і красавікам 1924 г.—за 9 месяцаў.

Кускі браліся такім чынам: з ствала яловага дрэва, ва ўзросьце 80 — 100 гадоў, выпільваліся кружкі, таўшчынёю ў 6 — 7 сант., праз 3 мэтры па ўсяму дрэву, прычым першы кружок звычайна выпілівался на 20—30 сант. ад каранявой шэйкі. З кружкоў выкалваліся ў напрамку с—ю брускі. Шырыня брускоў была ня больш 5 сант. З брускоў выраблялiся кубікі так: канцы бруска ачышчаліся ад кары і затым, па магчымасьці дакладна, пачынаючы ад канцоў бруска, адлічвалася па 20 гадовых слаёў і потым гэтыя слаі адкалваліся. Пасьля першай пары, адкалывалася другая пара, таксама па 20 слаёў у кубіку і так да асяродку. У залежнасьці ад колькасьці гадовых слаёў у бруску, апошняя пара кубікаў налічвала ня поўнасьцю па 20 слаёў у кожным. Калі-ж атрымоўваўся няцотны лік кубікаў, то сярэдзінны звычайна ўключаў у сябе сэрцавіну. Намэнклатура кубікаў была такая, напрыклад: 1) № 8—1—С—I, 2) № 8 — 3 — па — II. Гэта значыць, што першы ўзор (кубік) узяты з дрэва № 8, з кружка № 1, г. зн. зрэзаннага амаль у шэйкі ствала, з паўночнага боку, I ад пэрыфэрыі. Другі кубік узяты з таго-ж драва, але толькі з кружка № 3, лічучы ад зямлі, г. зн. на вышыні 6 аршын ад зямлі, з паўднёвага боку, другі, лічучы ад пэрыфэрыі к цэнтру кружка.

Узоры ўзважваліся на тэхнічных вагах с дакладнасьцю да 0,1 гр. а гэта давала гранічную памылку пры ўзважваньні ад 0,3% да 0,04%, бо' вага узораў у сырым выглядзе хісталася ад 30 да 250 гр. Лік узораў, з якімі прыходзіцца апэраваць ў даннай працы = 630 штукам.

Кубікі высушвалі да сталае вагі ў сушыльнай шафе пры тэмпэратуры 100 — 107°С. У залежнасьці ад аб'ёму ўзораў, кубікі сушыліся ад 40 да 50 гадзін. Пасьля сушкі зараз жа азначаўся аб'ём узораў, дзеля чаго яны злучаліся парамі, за выключэньнем 35 выпадкаў, калі аб'ёмы кубікаў азначаліся адзіночна. Узоры злучаліся парамі не выпадкова, а, напрыклад, так: браліся кубікі з таго ці іншага дрэва на пэўнай вышыні затым першая пара кубікаў ад пэрыфэрыі злучалася ў адну групу, другія ўзоры ад пэрыфэрыі складалі наступную групу і так далей. Дзеля азначэньня аб'ёму ўзораў ужываўся ксілёмэтр з сталым узроўнем. Ён складаўся з шклянога цыліндра каля 10 сант. у дыямэтры і вышынёй каля 30 сант. Прыблізна каля 20 сант. ад дна была зроблена дзірка ў 1 сант. у дыямэтры. Дзірка шчытна зачынялася гумавай пробкай, праз сярэдзіну якой праходзіла шкляная трубка з дыямэтрам прыблізна ў 2 мм., загнутая па канцох у процілеглыя бакі. Азначэньне аб'ему такім ксілёмэтрам можна было рабіць з дакладнасьцю да 1 куб. сант. Калі прыняць пад увагу, што ў большасьці выпадкаў аб'ём азначаўся адразу двох кубікаў, а гэты аб'ём для ўсяго аналізуемага матар'ялу хістаўся між 80 і 600 куб. сант., дык памылка азначэньня аб'ёму хістаецца між 1,2% і 0,2%. Большасьць кубікаў мела аб'ём 140—180 куб. сант., і таму

$^0/_0$ памылкі мераньня аб'ёму параўнальна нязначны. Як уплывае дыямэтр самога ксілёмэтра на дакладнасьць азначэньня аб'ёму, гэта не вылічалася. Аднак былі прыняты ўсе залежныя меры, якія наогул можна было прыняць пры карыстаньні такой элемэнтарной прыладай, каб яго недасканалая будова не адбілася на дакладнасьць мераньня аб'ёму узораў. Павялічэньне аб'ёму і вагі ад уцёртага масла ня прынята пад увагу як велічыня, якая відавочна выходзіць за граніцы дакладнасьці досьледу.

Удзельная вага драўніны елкі ў паветрана-сухім стане была своечасова азначана толькі для 28 узораў, таму для данай працы было прынята скарыстаць толькі удзельную вагу абсалютно-сухой драўніны. Разам усё-ж узьнікла пытаньне, ці можна тэарытычна вылічыць удзельныя вагі драўніны елкі пры любым $^0/_0$ вільготнасьці, выходзячы з удзельнае вагі абсалютна-сухой драўніны. Гэта тым больш неабходна, што азначэньне удзельнае вагі пры тым ці іншым $^0/_0$ вільготнасьці драўніны ёсьць праца, якая вымагае дзеля яе выкананьня вельмі многа часу. Вядомы лесавод-тэхнолёг Янк гэтае пытаньне вырашыў для яловай драўніны Аўстрыі. Скарыстаўшы дадзеныя з табліцы Янка „Удельный вес и крепость при сжатии еловой древесины при различном содержании влаги и различном удельном весе в абсолютно сухом состоянии“ (№ 1)[1]), і праверыўшы удзельныя вагі яловай драўніны паветрана-сухога стану (14—16$^0/_0$ вільгацыі) на 28 узорах, аўтар выявіў амаль поўнае супаданьне з адпаведнымі дадзенымі табліцы Янка. Найбольшая розьніца ў удзельных вагах не перавышала 0,040. Такія вынікі пабудзілі да складаньня формулы дзеля вылічэньня $^0/_0$ усушкі, якую бы можна было скарыстаць дзеля праверкі адпаведнасьці вылічаных удзельных вагаў з удзельнымі вагамі табліцы Янка. Формула атрымалася такою:

$$\frac{d + d\frac{\rho}{100}}{100 + X},$$

дзе X — шуканы $^0/_0$ усушкі пры пэўным процанце вільгаці
d — удзельная вага абсалютна-сухой драўніны елкі.
ρ — $^0/_0$ утрыманьня вільгаці, пры якім азначаўся $^0/_0$ усушкі.

Атрыманыя $^0/_0{}^0/_0$ усушкі правяраліся на узорах ад 9 дрэў (на 150, прыблізна, кубіках).

Праверка дала дужа добрыя вынікі, а уласьне: нійдзе не атрымалася розьніцы ў вылічанай удзельнай вазе больш 0,040, за выключэньнем аднаго выпадку, у параўнаньні з адпаведнымі дадзенамі табліцы Янка. Калі-ж прыняць пад увагу, што дадзеныя ў табліцы Янка зьяўляюцца сярэднімі вялічынамі, дык адхіленьні вылічаных індывідуальных удзельных вагаў у сярэднім на ±0,012 зьяўляюцца, можна сказаць, поўным супаданьнем.

Матар'ял па гэтым пытаньні прыведзен у дадатку № 6.

Есьць падставы з вялікай пэўнасьцю зацьвярджаць, што дадзеныя аб моцы елкі на сьціскаьне з тэй-жа табліцы таксама можна ужываць для беларускай елкі. Каэфіцыэнт усушкі яловай драўніны пры рознай удзельнай вазе абсалютна-сухой драўніны елкі і розным $^0/_0$ вільготнасьці, вылічаных з табліцы Янка па вышэйпрыведзенай формуле, можа мець значны практычны інтарэс для Беларусі, таму табліца гэтых каэфіцыэнтаў да працы прыкладаецца (дадатак № 3). Больш падрабязна застанаўлівацца на гэтым пытаньні няма магчымасьці, бо гэта выходзіць за граніцы тэмы.

---

[1]) № у дужках паказвае на якую працу з сьпіса скарыстанае літаратуры робіцца ссылка.

Азначэньне шырын гадовых слаёў вытваралася М. І. Шчагловай такім чынам: торцы вымераных узораў гладка выстругіваліся, затым па сарэдзіне узору па радыусу вымяралася шырыня кубіка штангель-цыркулем з дакладнасьцю да 1 мм., затым азначалася сярэдняя шырыня гадовага слою з дакладнасьцю да 0,1 мм.

З дадзеных па вымеру шырыні гадовых слаёў складзена табліца, у якой, у большасьці выпадкаў кожная цыфра шырыні гадовых слаёў паказана як сярэдняе з двух вымераных узораў, прычым злучэньне узораў у пары вытваралася па такіх азнаках, як гэта ўжо адзначалася раней.

Залежнасьць паміж шырынёй гадовых слаёў і удзельнай вагай можна ўстанавіць шляхам сярэдніх арытмэтычных велічынь. Наколькі-ж гэтыя сярэднія вялічыні прыгодны дзеля навуковых выводаў нічога пэўнага сказаць нельга. Толькі апрацоўка матар'ялу мэтадам варыяцыйнай статыстыкі дае магчымасьць ня толькі атрымаць сярэднія вялічыні і іншыя каэфіцыэнты, але таксама і паказвае іх якаснасьць, ступень пэўнасьці. Матэматычная апрацоўка матар'ялу вельмі яскрава абазначае пэўнасьць апошняга і таму гарантуе ад няверных выводаў. Аднак, ня ўсякую колькасьць матар'ялу можна апрацоўваць мэтадам варыяцыйнай статыстыкі— пажадана каб варыянтаў было магчыма больш, але гранічнага мінімуму ні ў якім дапаможніку не паказана. Ёсьць толькі ўкосныя паказаньні, што колькасьць варыянтаў ня можа быць меней 25.

Перш чым прыступіць да апрацоўкі матар'ялу варыяцыйным мэтадам, было пастаўлена пытаньне, наколькі дастаткова 347 варыянтаў дзеля вываду каэфіцыэнту карэляцыі. Хаця амаль кожны з варыянтаў прадстаўляе сабою сярэдняе з двух велічынь (347 варыянтаў складзены з 630 узораў), усё-ж казалася рызыкоўным карыстацца матар'ялам без праверкі ці можна з больш-менш значнай пэўнасьцю выводзіць каэфіцыэнт карэляцыі з 347 варыянтаў. Праверка рабілася так: былі ўзяты 309 варыянтаў, узоры 16 дрэў, і вылічан для іх каэфіцыэнт карэляцыі, а затым быў ужо вылічан каэфіцыэнт карэляцыі і для 347 варыянтаў. Такая праца, як вядома, адымае надта многа часу, але яе неабходна было зрабіць.

У выніку атрымаліся такія каэфіцыэнгы:

| | σ | M(d) | V | P | R | M |
|---|---|---|---|---|---|---|
| для 309 | 0,0482 | 0,412 | 11,7 | 0,7 | 0,67 | 2,4 |
| 347 | 0,0476 | 0,410 | 11,6 | 0,6 | 0,66 | 2,4 |

дзе σ — асноўнае адхіленьне.
M(d) — сярэдняя удзельная вага абсалютна-сухой драўніны.
V — каэфіцыэнт зьменнасьці (варыяцыйны каэф.).
P — паказальнік дакладнасьці дасьледваньня.
R — каэфіцыэнт карэляцыі.
M — сярэдняя шырыня гадовага колца.

Адсюль відаць, што зьмяншэньне матар'ялу на 11% амаль не адбілося на зьмену каэфіцыэнтаў і што таму 347 варыянтаў не зьяўляюцца велічынёю вельмі малай дзеля апрацоўкі яе мэтадам варыяцыйнай статыстыкі.

Найлепшым крытэрыумам добраякаснасьці дасьледуемага матар'ялу зьяўляецца праўдападобная памылка варыяцыйнага каэфіцыэнту і каэфіцыэнту карэляцыі. У дадатку да працы Давенпорта „Основы племенного разведения“, у працы Х. Л. Райца прыводзяцца дзьве табліцы „вероятных ошибок“. Гэтыя табліцы, дзякуючы іх каштоўнасьці пры апрацоўцы

дасьледуемага матар'ялу мэтадам варыяцыйнай статыстыкі і дзеля бібліяграфічнай рэдкасьці працы Давенпорта, к працы прыкладаюцца. (Дадатак таб. №№ 4 і 5). У табліцах прыводзяцца праўдападобныя памылкі варыяцыйнага каэфіцыэнту і каэфіцыэнту карэляцыі для колькасьці варыянтаў ад 25 да 1000.

Аб'ектыўныя дадзеныя, „праўдападобныя хібнасьці" паказваюць на поўную добраякаснасьць дасьледуемых 347 варыянтаў.

Удзельнае вага елкі дасьледуемых узораў у абсалютна сухім стане хістаецца між 0,310 і 0,590. Усе 347 варыянтаў дзеля далейшай апрацоўкі былі падзелены на 28 клясаў варыяцый па вялічыні удзельнае вагі з розьніцай паміж клясамі ў 0,010. У выніку атрымаліся наступныя клясы: 0,310—0,320, 0,321—0,330 і г. д. Калі сярэднія велічыні вылічаюцца пры клясавых варыянтах, дык клясу можна замяніць яе сярэднім варыянтам. У нашым выпадку, першая кляса варыяцый замяняецца удзельнай вагай 0,315, другая—0,325 і г. д. Множаючы сярэднія вялічыні кожнае варыяцыйнае клясы на частасьць паўтарэньня удзельнае вагі гэтае клясы, складваючы здабыткі, а затым падзяліўшы вагу на агульную колькасьць варыянтаў, атрымаем сярэднюю велічыню ўдзельнае вагі, якая роўна 0,410.

Пры вылічэньні сярэдняе удзельнае вагі па непасрэдных дадзеных (дадатак № 1) атрымаем удзельную вагу 0,416. Розьніца знаходзіцца ў граніцах варыяцыйнае клясы, што зусім натуральна.

Сярэдняе і асноўнае адхіленьне вылічаюцца з табліцы № 1.

дзе: d — удз. вага абсалютна сухой драўніны
F — паўторнасьць варыянтаў
D — адхіленьньні ад сярэдняе удзельнае вагі
DF — здабыткі адхіленьняў на паўторнасьць
$D^2$ — адхіленьні ад сярэдняе удзельнае вагі ў квадраце
$D^2F$ — здабыткі квадратаў адхіленьняў на паўторнасьць

Дзель ад дзяленьня сумы здабыткаў абсалютных адхіленьняў на лік варыянтаў (347) дае сярэдняе адхіленьне = 0,037. Асноўнае адхіленьне адрозьніваецца ад сярэдняга адхіленьня тым, што спачатку сярэдняе адхіленьне ўзводзіцца ў квадрат, а затым ужо вытвараюць тыя самыя маніпуляцыі, як і пры вылічэньні сярэдняга адхіленьня, каб атрымаць цыфровы выраз асноўнага адхіленьня. Яно вылічаецца па формуле:

$$\sigma = \pm \sqrt{\frac{\Sigma D^2 F}{n}},$$

дзе: $\Sigma D^2 F$ — прадстаўляе суму здабыткаў квадратаў адхіленьняў на паўторнасьць, n — лік варыянтаў

Падстаўляючы адпаведныя вялічыні, атрымаем:

$$\sigma = \sqrt{\frac{0,784875}{347}} = 0,0476$$

Праўдападобная хібнасьць σ вылічаецца па формуле:

$$E = \pm 0.6745 \cdot \frac{\sigma}{\sqrt{2n}},$$

$$\text{ці } E = \pm 0,6745 \cdot \frac{0,0476}{\sqrt{2.347}} = \pm 0,0012.$$

**Дадзеныя дзеля вылічэньня сярэдняга і асноўнага адхіленьняў удзельнае вагі абсалютна-сухой драўніны елкі.**

Табл. № 1.

| | d | F | D | DF | $D^2$ | $D^2F$ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 0,315 | 3 | — 0,095 | — 0,285 | 0,009025 | 0,027075 |
| | 0,325 | 4 | — 0,085 | — 0,340 | 0,007225 | 0,228900 |
| | 0,335 | 8 | — 0,075 | — 0,590 | 0,005625 | 0,045000 |
| | 0,345 | 12 | — 0,065 | — 0,780 | 0,004245 | 0,050700 |
| | 0,355 | 17 | — 0,055 | — 0,935 | 0,003025 | 0,051425 |
| | 0,365 | 21 | — 0,045 | — 0,945 | 0,002025 | 0,042525 |
| | 0,375 | 30 | — 0,035 | — 1,050 | 0,001225 | 0,036750 |
| | 0,385 | 29 | — 0,025 | — 0,725 | 0,000625 | 0,018125 |
| | 0,395 | 34 | — 0,015 | — 0,610 | 0,000225 | 0,007650 |
| | 0,405 | 28 | — 0,005 | — 0,140 | 0,000025 | 0,000700 |
| | 0,415 | 38 | 0,005 | 0,190 | 0,000025 | 0,000950 |
| | 0,425 | 21 | 0,015 | 0,315 | 0,000225 | 0,004725 |
| | 0,435 | 19 | 0,025 | 0,475 | 0,000625 | 0,011875 |
| | 0,445 | 22 | 0,035 | 0,770 | 0,001225 | 0,029950 |
| | 0,455 | 15 | 0,045 | 0,675 | 0,002025 | 0,030375 |
| | 0,465 | 10 | 0,055 | 0,550 | 0,003025 | 0,030250 |
| | 0,475 | 10 | 0,065 | 0,650 | 0,004225 | 0,042250 |
| | 0,485 | 5 | 0,075 | 0,375 | 0,005625 | 0,028125 |
| | 0,495 | 5 | 0,085 | 0,425 | 0,007225 | 0,036125 |
| | 0,505 | 2 | 0,095 | 0,190 | 0,009025 | 0,018050 |
| | 0,515 | 1 | 0,105 | 0,105 | 0,011025 | 0,011025 |
| | 0,525 | 3 | 0,115 | 0,345 | 0,013225 | 0,039675 |
| | 0,535 | 4 | 0,125 | 0,500 | 0,015625 | 0,062500 |
| | 0,545 | 2 | 0,135 | 0,270 | 0,018225 | 0,036450 |
| | 0,555 | 2 | 0,145 | 0,290 | 0,021025 | 0,042050 |
| | 0,565 | 1 | 0,155 | 0,155 | 0,024025 | 0,024025 |
| | 0,575 | 0 | 0,165 | 0,000 | 0,000000 | 0,000000 |
| | 0,585 | 1 | 0,175 | 0,175 | 0,030625 | 0,030625 |
| Усяго. | — | 347 | — | 12,760 | — | 0,784875 |

Калі-б ня трэба было вылічаць каэфіцыэнт карэляцыі, дык можна было бы абмежавацца вылічэньнем толькі сярэдняга адхіленьня, бо яно зьяўляецца здавальняючым крытэрыумам пры меркаваньні, наколькі адхіленьні паўторнасьцяў адрозьніваюцца ад сярэдняга адхіленьня, а апошняе дае некаторае разуменьне аб колькасьці аналізуемага матар'ялу. Як правіла-ж трэба прызнаць неабходным карыстаньне для параўнаньняў толькі асноўным адхіленьнем.

Варыяцыйны каэфіцыэнт ці каэфіцыэнт зьменнасьці вылічаецца па формуле:

$$V = \frac{100\sigma}{M},$$

дзе: V — варыяцыйны каэфіцыэнт
M — сярэдняя удзельная вага
$\sigma$ — асноўнае адхіленьне

Падстаўляючы адпаведныя чыславыя выразы, атрымаем:

$$V = \frac{100.0{,}0476}{0{,}410} = 11{,}6.$$

Праўдападобнья хібнасьць варыяцыйнага каэфіцыэнту вылічалася па формуле:

$$E = \pm 0{,}6745 \cdot \frac{V}{\sqrt{2n}} \left[ 1 + 2\left(\frac{V}{100}\right)^2 \right]^{1/2}$$

$$\text{ці } E = \pm 0{,}6745 \cdot \frac{11{,}6}{\sqrt{2.347}} \left[ 1 + 2\left(\frac{11{,}6}{100}\right)^2 \right]^{1/2} = \pm 0{,}299.$$

Паказальнік дакладнасьці дасьледваньня вылічаецца па формуле:

$$\rho = \frac{v}{\sqrt{n}}.$$

Праўдападобную памылку варыяцыйнага каэфіцыэнту можна атрымаць непасрэдна з прыкладаемай табліцы Х. Л. Райца.

Дзеля складаньня табліцы карэляцыі паміж шырынёй гадовых слаёў і удзельнай вагай абсалютна сухой драўніны елкі, былі ўтвораны і для шырыні гадовых слаёў, як гэта ўжо было зроблена для удзельнае вагі, варыяцыйныя ступені, роўныя 0,2 м.м.

У разглядаемай табліцы, № 2, па восі абсцыс разьмяшчаюцца ступені удзельнае вагі, а па восі ардынат—ступені шырыні гадовага колца.

Усе графы гэтай табліцы зусім зразумелы за выключэньнем № 35.

Як атрымаліся дадзеныя гэтай графы, можна бачыць з прыкладу. Возьмем спачатку чысло — 0,539 з графы 35. Яно атрымалася наступным чынам: з графы, № 32, бярэцца — 1,4 і множыцца на суму, складнікі якой складаюцца з здабыткаў адхіленьняў, узятых удзельных вагаў ад сярэдняе удзельнае вагі, на іх паўторнасьць.

$$-1{,}4 \quad [1(-0{,}025) + 2(+0{,}025) + 1(+0{,}035) + 1(+0{,}045) + 1(+0{,}055) + 2(+0{,}065) + 1(+0{,}095)] = -0{,}539.$$

**Карэляцыя паміж удзельнаю вагай абсалютна сухой**

| Шырыня гадовага слою | Удзельная вага абсалютна сухой драўніны | УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА, ПАМ | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 31,5 | 32,5 | 33,5 | 34,5 | 35,5 | 36,5 | 37,5 | 38,5 | 39,5 | 40,5 | 41,5 | 42,5 | 43,5 | 44,5 | 45,5 |
| 1 графа | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 0,8 | | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | 2 |
| 1,0 | | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | 2 | 1 | 1 |
| 1,2 | | — | — | — | — | — | — | 1 | 1 | — | 2 | — | 1 | 3 | 3 | 1 |
| 1,4 | | — | — | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 |
| 1,6 | | — | — | — | — | — | — | — | 1 | 1 | — | 2 | 3 | 4 | 3 | 3 |
| 1,8 | | 1 | — | — | — | 2 | — | — | 1 | 2 | 1 | 3 | 1 | 3 | 3 | 1 |
| 2,0 | | — | — | — | — | 1 | 2 | 3 | — | 3 | 2 | 5 | 3 | 1 | 5 | 4 |
| 2,2 | | — | — | — | — | — | — | 2 | — | 3 | 4 | 4 | 1 | — | 3 | — |
| 2,4 | | — | — | — | 1 | 2 | 1 | 1 | 7 | 5 | 6 | 3 | 5 | 4 | 1 | 1 |
| 2,6 | | — | 1 | — | 2 | 2 | 2 | 2 | 5 | 6 | 3 | 7 | 3 | — | 1 | — |
| 2,8 | | — | — | — | — | 2 | 2 | 8 | — | 3 | 2 | 5 | 1 | — | — | — |
| 3,0 | | 1 | — | 1 | 3 | 1 | 3 | 6 | 3 | 5 | 5 | 2 | 1 | 1 | — | — |
| 3,2 | | — | 1 | 2 | 1 | 3 | 3 | 2 | 3 | — | 2 | 3 | 1 | — | — | — |
| 3,4 | | 1 | 1 | — | 2 | — | 3 | 4 | 1 | 2 | — | 2 | — | — | — | — |
| 3,6 | | — | — | 4 | — | 3 | 2 | — | 3 | 3 | — | 1 | — | — | — | — |
| 3,8 | | — | 1 | 1 | 1 | — | 2 | 1 | 2 | — | — | — | — | — | — | — |
| 4,0 | | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 4,2 | | — | — | — | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 4,4 | | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Разам. | | 3 | 4 | 8 | 12 | 17 | 21 | 30 | 29 | 34 | 28 | 38 | 21 | 19 | 22 | 15 |

Сярэдняя шырыня гадовага слою = 2,4 мм. (830,8 : 347)

**драўніны елкі і шырынёю гадовых колцаў**

Табл. № 2

| Н О Ж А Н А Я | Н А | С Т О | | | | | | | | | | | Паўторнасьць варыянтаў | Здабытак шырыні гадовага слою на паўторнасьць | Адхіленьне шырыні гадовага слою ад сярэдняй шырыні | Здабытак квадратаў адхіленьняў на паўторнасьць варыянт. | Квадратычнае адхіленьне | Сума |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 46,5 | 47,5 | 48,5 | 49,5 | 50,5 | 51,5 | 52,5 | 53,5 | 54,5 | 55,5 | 56,5 | 57,5 | 58,5 | | | | | | |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | 4 | 3,2 | — 1,6 | 10,4 | 2,6 | —0,432 |
| 1 | 2 | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | 9 | 9,0 | — 1,4 | 18,0 | 2,0 | —0,539 |
| 1 | — | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | 1 | 16 | 19,2 | — 1,2 | 22,4 | 1,4 | —0,804 |
| 3 | 3 | 1 | 3 | — | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | 21 | 29,4 | — 1,0 | 21,0 | 1,0 | —1,090 |
| 2 | 3 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | — | — | — | — | — | 30 | 48,0 | — 0,8 | 18,0 | 0,6 | —1,160 |
| 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | 22 | 39,6 | — 0,6 | 8,8 | 0,4 | —0,186 |
| 1 | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | 34 | 74,0 | — 0,4 | 6,8 | 0,2 | —0,226 |
| 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 18 | 39,6 | — 0,2 | 0,0 | 0,0 | —0,012 |
| — | — | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | 39 | 93,6 | — 0,0 | 0,0 | 0,0 | —0,00 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 34 | 88,4 | + 0,2 | 0,0 | 0,0 | —0,120 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 23 | 64,4 | + 0,4 | 4,6 | 0,2 | —0,198 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 32 | 96,0 | + 0,6 | 12,8 | 0,4 | —0,534 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 21 | 67,2 | + 0,8 | 12,6 | 0,6 | —0,580 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 16 | 54,4 | + 1,0 | 16,0 | 1,0 | —0,630 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 16 | 57,6 | + 1,2 | 22,4 | 1,4 | —0,804 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 8 | 30,4 | + 1,4 | 16,0 | 2,0 | —0,560 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | 4,0 | + 1,6 | 2,6 | 2,6 | —0,104 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 8,4 | + 1,8 | 6,4 | 3,2 | —0,162 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | 4,4 | + 2,0 | 4,0 | 4,0 | —0,110 |
| 10 | 10 | 5 | 5 | 2 | 1 | 3 | 4 | 2 | 2 | 1 | — | 1 | 347 | 830,8 | — | 202,8 | — | —8,251 |

$$\sigma = \frac{202,8}{347} = \pm 0,76$$

Каэфіцыэнт карэляцыі вылічаўся па формуле:

$$r = \frac{\Sigma xy}{n\sigma_x . \sigma_y},$$

дзе $\Sigma xy$ прадстаўляе сабою суму адхіленьняў ад сярэдняга значэньня удзельнае вагі і сярэдняй шырыні.

$n$ — лік варыянтаў

$\sigma_x$ — асноўнае адхіленьне ад удзельнае вагі

$\sigma_y$ — асноўнае адхіленьне ад шырыні гадовага слою

Падстаўляючы чыславыя выразы, атрымаем:

$$r = \frac{-8{,}251}{347 . 0{,}76 . 0{,}0476} = -0{,}66.$$

Праўдападобная хібнасьць каэфіцыэнту карэляцый вылічаецца па такой формуле:

$$E = \frac{0{,}6745\,(1-r^2)}{\sqrt{n}}$$

Падстаўляючы чыславыя выразы, атрымаем:

$$E = \frac{\pm 0{,}6745\,(1-0{,}66)}{\sqrt{347}} = \pm 0{,}0207$$

Вылічаныя хібнасьці ўсіх атрыманых дадзеных паказваюць значную пэўнасьць аналізуемага матар'ялу. Нажаль, ня было магчымасьці праверыць і параўнаць па літаратурных даных атрыманы каэфіцыэнт карэляцыі, бо дагэтуль быццам бы пры дасьледваньні тэхнічных уласьцівасьцяў драўніны мэтад варыяцыйнай статыстыкі ня ўжываўся.

Невялікі адмоўны каэфіцыэнт карэляцыі = — 0,66 паказвае на нявысокую залежнасьць паміж шырынёю гадовых персьценяў і ўдзельнай вагай яловай драўніны з сьвежай рамені.

Цяпер яшчэ некалькі слоў аб дасьледуемым матар'яле. Перш за ўсё неабходна зазначыць, што ня гледзячы на зусім аднастайныя умовы месца вырастаньня яловых дрэў амаль аднае клясы ўзросту, удзельная вага абсалютна сухой драўніны паасобных дрэў хісталася ад 0,375 да 0,440. Для беларускай елкі звычайнай (Picea excelsa Lk.) у 1900 г. побач з некаторымі іншымі тэхнічнымі уласьцівасьцямі азначалася яе удзельная вага ў абсалютна сухім відзе Н. Бурым. Ён дзеля гэтага мэты ўзяў з Менскага лясьніцтва два дрэвы ва ўзросьце 67 і 62 гадоў. Удзельная вага азначалася па ўзорах, узятых з 3-хмэтровых адрубкаў, вырэзаных з камелёвай часткі дрэва. Як паказвае адна з прыведзеных крывых, № 4, што зьяўляецца сярэдняй удзельнае вагі яловай драўніны 18 дрэў, на розных вышынях ад зямлі, найбольшая удзельная вага абс. сухой драўніны прыстасоўваецца к вышыні 3 мэтраў. Матар'ял Н. Бурага ўзяты прыблізна з гэтай-жа вышыні, таму удзельная вага Н. Бурага мусіць некалькі павялічана нават пры наяўнасьці аднакавых глебава-грунтовых умоў у параўнаньні з сярэдняй удзельнай вагай, атрыманай для Горацкай елкі,—яна аказалася роўнай для аднаго дрэва 0,467, а для другога—0,439, тады як для Горацкай елкі удзельная вага = 0,410. Чым тлумачыцца досыць рэзкая амплітуда хістаньняў удзельнае вагі абсалютна сухое драўніны паасобных дрэў нашага матар'ялу, пры амаль аднакавай ся-

рэдняй шырыні гадовых слаёў, сказаць цяжка. Магчыма, што гэта тлумачыцца індывідуальнымі асаблівасьцямі кожнага дрэва.

Вырысованыя крывыя № 2 і № 3 паказваюць у грубым набліжэньні стасунак паміж удзельнай вагай абсалютна сухой драўніны і шырынёю гадовых слаёў усіх першых узораў (крывыя № 1 і № 2), другіх (крывая № 3). Крывая № 1 прадстаўляе сабою агульную крывую, якая сама па сабе ўсё-ж вельмі мала гаворыць аб ступені залежнасьці удзельнае вагі ад шырыні гадовых слаёў.

графік № 1.




A крывая удзельнай вагі
B — · — шырыні годовых слоеў




A· крывая удзельнай вагі
B шырыні гадавых слаеў

графік № 3.



Разгляд табліцы шырыні гадовых слаёў паказвае, што сярэдняя шырыня першых 20 слаёў ад пэрыфэрыі для ўсіх 18 дрэў, пачынаючы ад асновы паступова зьмяншаецца да 6 мэтраў, затым павышаецца да самай верхавіны. Шырыня гадовых слаёў да 18 мэтраў вышыні хістаецца між 1,9 да 2,2 м.м. Гэта самыя вузкія слаі дасьледуемага матар'ялу. Другія узоры ад пэрыфэрыі к цэнтру маюць больш значную шырыню — ад 2,4 да 3,1 м.м. Калі параўнаць сярэднія ўдзельнія вагі з адпаведнымі сярэднімі шырынямі гадовых колцаў у розных дрэў, дык атрымаецца вельмі стракаты малюнак—у адных выпадках залежнасьць простая, у другіх выпадках—адваротная.

З сказанага можна ўстанавіць такія палажэньні:

1). Адпаведнасьць паміж шырынёю гадовых слаёў і удзельнай вагай абсалютна сухой драўніны елкі ў дасьледуемым матар'яле існуе, але яна ня досыць вялікая (каэфіцыэнт карэляцыі = — 0,66).

2). Хістаньні ў удзельных вагах дзеля розных дрэў елкі трэба тлумачыць індывідуальнымі асаблівасьцямі, бо ўсе елкі былі зрублены пры зусім аднолькавых умовах росту.

3). Аналізуемы матар'ял не дае магчымасьці ўстанавіць зьмену удзельнае вагі ад часу рубкі (пацьвярджэньне вывадаў Р. Гартыга).

4. Найбольшай велічыні удзельная вага дасягае на вышыні 3 мэтраў, (0,430), г. зн. там, дзе ў свой час аўтарам была выяўлена найбольшая адносная вільготнасьць.

5. Удзельная вага драўніны елкі амаль ва ўсіх выпадках на рознай вышыні ад зямлі зьніжаецца ад пэрыфэрыі к цэнтру.

6. Дзеля азначэньня удзельнае вагі беларускай елкі (з тыпаў ялюг") пры розных % вільготнасьці і рознай удзельнай вазе абсалютна сухой драўніны, можна карыстацца табліцай Янка „Удзельный вес и крепость при сжатии еловой древесины при различном содержании влаги и различном удельном весе в абсолютно сухом состоянии" (№ 1).

У заключэньне ня магу ня прынесьці падзякі праф. С. П. Мельніку за маральнае падтрыманьне і каштоўныя паказаньні пры распрацоўцы вышэйвыкладзенай тэмы.

*Асыс. А. Л. Новікаў.*

---

## Сьпіс скарыстанае літаратуры


1) *Богословский С.* Очерки по вопросу о технических свойствах древесины. Лесной журнал, 1913 г. в. 3—4, 6, 8

2) *Богословский С.А.* Исследование технических свойств древесины дуба Изв. Лесн. Инст. вып. 28, 1925 г.

3) *Бюсген, М.* Строение и жизнь наших лесных деревьев.

4) *Бурый, Н.* Об'емный вес и сопротивление древесины важнейших древесных пород России. Лесной журнал за 1900 г., № 3.

5) *Гомилевский, В.* Ширина годичных слоев дерева и технические качества древесины. Лесной журнал 1897 г. в.—2.

6) проф *Д. Н. Кайгородов.* К вопросу о сотношении между шириной годичных слоев и удельным весом еловой древесины. Изв. Лесн. Институт вып. 4. 1900 г.

7) *А. Л. Новиков.* Содержание влаги в древесине ели в разное время года и в различных частях ствола. Записки Горецкого С Х. Института, II том 1924 г.

8) *А. И. Терлецкий.* Технические свойства лапландской сосны (Pinus silvestris laponica) и ели (Picea excelsa) из Кандалакшской дачи Кольского полуострова. Изв. Лен. Лесн. Инст. вып. 34. 1927 г.

9) *Л. Яшнов.* Вес древесины, как показатель ее добротности. Лесной журнал № 2 за 1896 год.

10) *Dr. Robert Hartig.* Holz der deutschen Nadelwaldbäume. Berlin, 1885

11) *Dr. Adam Schwappach.* Untersuchungen über Raumgewicht und Druckfestigkeit des Holzes wichtiger waldbäume II Berlin 1898.


---

Удзельная вага узораў абсалютна сухой драўніны елкі з 18 дрэў на розных вышынях ад асновы і на розных глыбінях ад пэрыфэрыі

Дадатка № 1

| На вышыні | №№ узору Поўнач-Поўдз. | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | Сярэдн. удзельн. вага | Сяр. удз. вага па вышынях |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА ПАВЯЛІЧАНА Ў СТО РАЗ | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Асн. | I | 41,7 | 47,1 | 39,3 | 39,2 | 46,1 | 38,5 | 36,5 | 48,5 | 48,2 | 44,7 | 51,4 | 38,5 | 45,1 | 43,3 | 47,8 | 44,9 | 39,5 | 43,4 | 43,5 | |
| | II | 37.2 | 42,2 | 36,5 | 3(,9 | 42,2 | 36,0 | 41,0 | 42,3 | 42,8 | 40,4 | 39,9 | 35,9 | 38,0 | 38,1 | 41,2 | 40,4 | 32,9 | 36,9 | 38,9 | |
| | III | 39,6 | 42,2 | 38,7 | 38,3 | 37,9 | 36,2 | 38,4 | 39.4 | 44,6 | 40,4 | 40,7 | 32,6 | 36,3 | 39,1 | 49,8 | 41,4 | 35,7 | 39,0 | 39,4 | |
| | IV | — | — | — | 43,8 | — | — | 42,7 | — | 42,2 | 45,4 | 46,3 | — | — | — | — | — | — | — | 44,5 | |
| | Сярэдн. | 39.5 | 44,5 | 38,2 | 39,5 | 42,1 | 36,9 | 39,5 | 43,4 | 42,2 | 44,7 | 44.6 | 35.7 | 39,8 | 40,2 | 46,3 | 42,2 | 36,0 | 39,8 | — | 40.6 |
| 3 мэт. | I | 43,8 | 58,6 | 50,7 | 45,6 | 52,8 | 45,3 | 56,5 | 49,8 | 47,4 | 46,8 | — | 41,7 | 41,7 | 48,7 | 46.5 | 47,1 | 43,9 | 53,6 | 48,2 | |
| | II | 38.2 | 41.7 | 44.4 | 38,6 | 55,3 | 40.2 | 45,7 | 43,5 | 39,2 | 45,2 | 41,5 | 37,5 | 41,4 | 42,1 | 42,0 | 41,9 | 47,6 | 38,3 | 42,2 | |
| | III | 37,7 | 40,4 | 41,4 | 40.3 | 35,3 | 35,0 | 35,8 | 41,9 | 41,4 | 42,4 | 40,0 | 35,7 | 33,5 | 37,9 | 48,4 | 41,7 | 44,9 | 33,1 | 38,7 | |
| | IV | — | — | — | — | — | — | — | 44,8 | — | 43,1 | — | — | — | 38,7 | — | — | — | — | 42,2 | |
| | Сярэдн. | 39,8 | 46,9 | 45,5 | 41,5 | 47,8 | 40,2 | 46,0 | 45,0 | 42,7 | 44,4 | 40,7 | 38,4 | 38,9 | 42,9 | 43,9 | 43,6 | 42,1 | 41,7 | — | 43,0 |
| 6 мэт. | I | 43,5 | 48,2 | 46,7 | 44,3 | — | 44,3 | 56,4 | 50,1 | 44,9 | 50,4 | 38,6 | 44,2 | 43,6 | 46,2 | 47,7 | 45,0 | 40,7 | 53,0 | 46,9 | |
| | II | 40,8 | 43,3 | 46,9 | 32,3 | 42,5 | 37,5 | 42,8 | 39,6 | 38,9 | 43,6 | 38,5 | 36,3 | 38,9 | 40,0 | 39,6 | 40,6 | 34,4 | 34,4 | 39,5 | |
| | III | — | 38,7 | 51,7 | 35,5 | — | 35,0 | 39,5 | 38,5 | 38,6 | 42,3 | 36,2 | 33,9 | 35,4 | 36,5 | 40,6 | 42,2 | 34,4 | — | 38,6 | |
| | Сярэдн. | 42,2 | 43,4 | 48,4 | 37,3 | 42,5 | 38,9 | 46,2 | 42,7 | 40,8 | 44,5 | 37,8 | 38,1 | 39,3 | 40,9 | 42,6 | 41,9 | 36,5 | 43,7 | — | 42 0 |
| 9 мэт. | I | — | 43,6 | 45,9 | 40,5 | 48,6 | 44,6 | 51,7 | 48,4 | 44,1 | 47,5 | 48,5 | 42,9 | 45,5 | 45,6 | 45,2 | 44,8 | 39,8 | 47,2 | 45,5 | |

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | II | 35,6 | 43,4 | 41,7 | 37,3 | 38,2 | 34,9 | 41,1 | 41,2 | 38,9 | 42,3 | 41,8 | 36,3 | 37,6 | 38,5 | 39,6 | 41,8 | 35,7 | 34,4 | 38,9 | |
| | III | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 44,5 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | IV | — | — | — | 37,5 | 38,0 | 34,3 | 37,3 | 39,0 | 39,6 | 42,4 | — | — | — | 36,7 | 37,4 | 42,4 | 36,4 | — | 38,2 | |
| | Сярэдн. | 35,6 | 43,5 | 43,8 | 38,4 | 41,6 | 37,9 | 43,4 | 42,9 | 40,9 | 44,1 | 45,1 | 39,6 | 41,6 | 40,3 | 40,7 | 43,0 | 37,3 | 40,8 | — | 41,2 |
| 12 мэт. | I | 35,5 | 45,4 | 44,3 | 42,3 | 39,0 | 30,0 | 49,3 | 45,8 | 46,0 | 45,0 | 46,1 | 42,6 | 46,3 | 45,3 | 41,7 | 54,5 | 39,6 | 45,2 | 43,5 | |
| | II | 38,3 | 44,2 | 41,5 | 37,2 | 37,0 | 37,0 | 39,8 | 40,4 | 40,4 | 39,9 | 38,8 | 36,0 | 39,7 | 38,4 | 38,6 | 41,4 | 35,4 | 34,4 | 38,8 | |
| | III | — | — | — | — | — | — | — | 40,2 | 41,6 | 37,1 | — | — | — | — | — | — | 36,4 | — | 38,9 | |
| | Сярэдн. | 36,9 | 44,8 | 42,9 | 39,7 | 38,0 | 33,5 | 44,6 | 42,1 | 42,7 | 40,1 | 42,5 | 39,3 | 43,0 | 41,9 | 40,2 | 47,9 | 37,1 | 39,8 | — | 41,2 |
| 15 мэт. | I | 40,0 | 44,9 | 31,1 | 48,5 | 44,7 | 39,8 | 47,6 | 42,6 | 56,2 | 54,4 | 45,0 | 41,5 | 54,0 | 47,0 | 43,0 | 42,0 | 38,9 | 39,5 | 44,5 | |
| | II | 39,1 | — | 40,0 | 41,8 | 35,0 | 33,1 | 39,0 | — | 37,7 | 38,4 | 37,0 | 37,3 | 54,4 | 38,2 | 38,7 | 43,1 | 37,1 | 33,5 | 36,5 | |
| | Сярэдн. | 39,6 | 44,9 | 35,5 | 45,2 | 39,6 | 36,4 | 43,3 | 42,6 | 46,7 | 46,4 | 41,2 | 39,4 | 54,2 | 42,6 | 40,9 | 42,5 | 38,0 | 36,5 | — | 40,7 |
| 18 мэт. | I | 34,8 | 44,3 | 43,5 | 45,0 | 42,1 | 39,5 | 46,2 | 44,7 | — | 41,5 | 44,8 | 41,9 | 49,7 | 44,8 | 41,2 | 47,6 | 38,3 | 37,5 | 42,8 | |
| | II | 37,1 | — | 42,3 | — | 37,9 | 35,4 | 41,3 | — | — | 37,6 | 40,9 | 38,1 | 36,7 | 41,4 | 38,9 | 41,4 | 38,8 | — | 39,0 | |
| | Сярэдн. | 35,9 | 44,3 | 42,9 | 45,0 | 40,0 | 37,4 | 43,7 | 44,7 | — | 39,5 | 42,8 | 40,0 | 43,2 | 43,1 | 40,0 | 44,7 | 38,1 | 37,5 | — | 41,2 |
| 21 мэт. | I | 39,7 | — | 45,7 | 38,7 | 39,9 | 37,2 | 42,7 | 42,6 | 42,9 | 41,1 | 42,1 | 39,6 | 42,3 | 40,7 | 41,0 | 46,8 | 43,0 | 38,1 | 41,4 | |
| | II | — | — | — | — | — | — | — | — | 41,3 | — | — | — | — | — | 40,8 | — | 48,5 | — | 43,5 | |
| | Сярэдн. | 39,7 | — | 45,7 | 38,7 | 39,9 | 37,2 | 42,7 | 42,6 | 42,1 | 41,1 | 42,1 | 39,6 | 42,3 | 40,7 | 40,9 | 46,8 | 45,7 | 38,1 | — | 41,7 |
| 24 мэт. | I | — | — | — | — | 41,2 | — | 43,6 | 43,2 | 41,2 | 41,3 | 42,8 | 39,8 | 42,8 | — | 36,6 | — | 39,8 | — | 41,2 | |
| | Сярэдн. | — | — | — | — | 41,2 | — | 43,6 | 43,2 | 41,2 | 41,3 | 42,8 | 39,8 | 42,8 | — | 36,6 | — | 39,8 | — | — | 41,2 |
| Сярэдні для кожнага дрэва | | 38,9 | 44,5 | 43,4 | 40,2 | 41,8 | 37,5 | 44,0 | 43,3 | 42,8 | 43,0 | 42,1 | 38,5 | 42,7 | 41,5 | 42,0 | 43,7 | 38,7 | 40,1 | — | 41,6 |

**Аб'ёмныя проценты усушкі яловай драўніны пры розным утры**
(Складзена на ас

| Удз. вага абс. сухой драўніны / $^0/_0$ вільготнасьці | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 2,1 | 2,1 | 2,3 | 2,2 | 2,1 | 2,1 | 2,3 | 2,3 | 2,4 | 2,5 |
| 10 | 3,8 | 4,0 | 4,0 | 4,0 | 4,2 | 4,4 | 4,5 | 4,6 | 4,8 | 4,8 |
| 15 | 5,7 | 5,9 | 6,0 | 6,1 | 6,2 | 6,2 | 6,5 | 6,7 | 6,8 | 7,0 |
| 20 | 7,3 | 7,3 | 7,4 | 7,7 | 8,0 | 8,3 | 8,6 | 8,6 | 8,8 | 9,1 |
| 25 | 8,1 | 8,1 | 8,4 | 8,7 | 9,2 | 9,5 | 9,8 | 10,2 | 10,4 | 10,3 |
| 30 | 8,9 | 9,2 | 9,7 | 10,0 | 10,2 | 10,8 | 11,0 | 11,1 | 11,6 | 11,7 |
| 35 | 9,4 | 9,6 | 10,0 | 10,3 | 10,5 | 11,1 | 11,5 | 11,7 | 12,0 | 12,2 |
| 40 | 9,8 | 10,5 | 10,7 | 11,1 | 11,5 | 11,6 | 11,8 | 12,1 | 12,4 | 12,8 |
| 45 | 9,7 | 10,1 | 10,5 | 10,9 | 11,5 | 11,7 | 11,9 | 12,3 | 12,6 | 12,9 |
| 50 | 9,6 | 10,0 | 10,4 | 11,0 | 11,6 | 11,9 | 12,2 | 12,5 | 12,8 | 13,0 |
| 60 | 9,4 | 10,0 | 10,3 | 11,1 | 11,6 | 12,1 | 12,1 | 12,6 | 12,9 | 13,3 |
| 70 | 9,2 | 9,8 | 10,3 | 11,0 | 11,7 | 12,1 | 12,5 | 12,7 | 12,9 | 13,3 |
| 80 | 9,1 | 9,6 | 10,1 | 10,9 | 11,7 | 12,1 | 12,5 | 12,6 | 13,0 | 13,5 |
| 90 | 8,8 | 9,4 | 10,0 | 11,0 | 11,8 | 12,3 | 12,6 | 13,0 | 13,3 | 13,7 |
| 100 | 8,7 | 9,5 | 10,0 | 10,9 | 11,6 | 12,1 | 12,5 | 13,0 | 13,4 | 14,0 |
| 110 | 8,4 | 9,1 | 9,8 | 10,7 | 11,5 | 12,1 | 12,7 | 13,1 | 13,5 | 13,9 |
| 120 | 8,3 | 9,2 | 9,8 | 10,8 | 11,5 | 12,3 | 12,3 | 13,2 | 13,5 | 14,2 |
| 130 | 8,3 | 9,0 | 9,8 | 10,7 | 11,6 | 12,3 | 12,8 | 13,2 | 13,7 | 14,3 |
| 140 | 8,2 | 8,9 | 9,7 | 10,7 | 11,5 | 12,1 | 12,9 | 13,3 | 13,7 | 14,3 |
| 150 | 8,0 | 8,8 | 9,7 | 10,7 | 11,7 | 12,2 | 12,8 | 13,4 | 13,8 | 14,4 |
| 160 | 7,9 | 8,9 | 9,7 | 10,7 | 11,6 | 12,2 | 12,9 | 13,4 | 13,7 | 14,5 |
| 170 | 7,7 | 8,6 | 9,5 | 10,6 | 11,6 | 12,4 | 13,0 | 13,5 | 14,0 | 14,3 |
| 180 | 7,7 | 8,7 | 9,5 | 10,6 | 11,6 | 12,4 | 12,9 | 13,5 | 13,9 | 14,6 |
| 190 | 7,6 | 8,6 | 9,5 | 10,6 | 11,5 | 12,2 | 13,0 | 13,5 | 14,5 | 14,6 |
| 200 | 7,6 | 8,7 | 9,5 | 10,5 | 11,7 | 12,5 | 13,1 | 13,7 | 14,2 | 14,7 |
| 210 | 7,6 | 8,6 | 9,5 | 9,6 | 10,6 | 11,6 | 13,1 | 13,7 | 14,4 | 14,9 |
| 220 | 7,4 | 8,5 | 9,4 | 10,6 | 11,6 | 12,4 | 13,1 | 13,7 | 14,3 | — |
| 230 | 7,4 | 8,5 | 9,5 | 10,6 | 11,6 | 12,4 | 13,3 | — | — | — |
| 240 | 7,3 | 8,4 | 9,5 | 10,6 | 11,6 | — | — | — | — | — |
| 250 | 7,3 | 8,3 | 9,5 | — | — | — | — | — | — | — |
| 260 | 7,3 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

маньні вільгаці і рознай удзельнай вазе ў абсалютна сухім стане

нове табл. Янка) Дадатак № 3

| 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2,5 | 2,6 | 2,7 | 2,6 | 2,5 | 2,5 | 2,6 | 2,6 | 2,7 | 2,8 | 2,8 | 2,8 | 2,9 |
| 4,8 | 4,9 | 5,0 | 5,1 | 5,2 | 5,3 | 5,4 | 5,4 | 5,5 | 5,6 | 5,6 | 5,7 | 5,7 |
| 7,0 | 7,1 | 7,3 | 7,5 | 7,6 | 7,6 | 7,7 | 7,8 | 8,0 | 8,1 | 8,1 | 8,2 | 8,2 |
| 9,3 | 9,3 | 9,5 | 9,7 | 10,0 | 10,0 | 10,1 | 10,3 | 10,3 | 10,5 | 10,6 | 10,8 | 10,8 |
| 10,7 | 10,7 | 10,9 | 11,6 | 11,2 | 11,4 | 11,5 | 11,7 | 11,8 | 11,7 | 11,9 | 12,0 | 12,3 |
| 11,8 | 12,0 | 12,1 | 12,2 | 12,4 | 12,6 | 12,8 | 13,0 | 13,2 | 13,3 | 13,4 | 13,5 | 13,7 |
| 12,5 | 12,6 | 12,7 | 13,0 | 13,1 | 13,4 | 13,5 | 13,8 | 14,0 | 13,9 | 14,0 | 14,2 | 14,4 |
| 13,1 | 13,4 | 13,6 | 13,7 | 13,8 | 14,0 | 14,3 | 14,5 | 14,7 | 14,8 | 14,8 | 14,9 | 14,9 |
| 13,2 | 13,3 | 13,7 | 13,8 | 14,0 | 14,3 | 14,7 | 14,9 | 15,1 | 14,9 | 14,9 | 15,0 | 15,1 |
| 13,3 | 13,5 | 13,8 | 14,0 | 14,2 | 14,4 | 14,8 | 15,0 | 15,4 | 15,2 | 15,0 | 15,2 | 15,4 |
| 13,5 | 13,7 | 13,9 | 14,3 | 14,6 | 14,8 | 15,0 | 15,3 | 15,4 | 15,4 | 15,2 | 15,4 | 15,3 |
| 13,7 | 14,0 | 14,2 | 14,5 | 14,8 | 15,1 | 15,2 | 15,4 | 15,5 | 15,3 | 15,2 | 15,2 | 15,0 |
| 13,8 | 14,1 | 14,4 | 14,7 | 15,0 | 15,2 | 15,3 | 15,4 | 15,4 | 15,3 | 15,3 | 15,2 | 15,2 |
| 14,2 | 14,4 | 14,7 | 14,9 | 15,1 | 15,4 | 15,6 | 15,6 | 15,7 | 15,5 | 15,3 | 15,2 | 15,0 |
| 14,2 | 14,7 | 15,1 | 15,2 | 15,4 | 15,6 | 15,7 | 15,8 | 15,7 | 15,5 | 15,4 | 15,3 | 15,0 |
| 14,1 | 14,7 | 15,1 | 15,3 | 15,5 | 15,7 | 15,9 | 15,9 | 15,9 | 15,7 | 15,4 | 15,1 | 14,9 |
| 14,6 | 14,9 | 15,2 | 15,5 | 15,8 | 15,9 | 15,9 | 15,9 | 15,9 | 15,7 | 15,4 | 15,1 | 14,8 |
| 14,7 | 15,1 | 15,4 | 15,6 | 15,9 | 15,9 | 16,0 | 15,9 | 15,9 | 15,7 | 15,4 | 15,4 | 14,8 |
| 15,5 | 15,2 | 15,5 | 15,7 | 16,0 | 15,9 | 16,0 | 16,0 | 15,9 | 15,8 | 15,5 | 15,1 | 14,7 |
| 14,9 | 15,3 | 15,7 | 15,8 | 16,0 | 16,1 | 16,2 | 16,1 | 16,1 | 15,8 | 15,5 | 15,1 | 14,9 |
| 14,9 | 15,4 | 15,8 | 16,2 | 16,2 | 16,3 | 16,2 | 16,1 | 16,1 | 15,8 | 15,5 | — | — |
| 15,0 | 15,4 | 15,9 | 16,1 | 16,4 | 16,4 | 16,3 | 16,2 | 16,2 | — | — | — | — |
| 15,1 | 15,5 | 16,0 | 16,2 | 16,4 | 16,3 | 16,4 | — | — | — | — | — | — |
| 15,2 | 15,7 | 16,2 | 16,4 | 16,6 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15,4 | 15,4 | 16,3 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15,4 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

## Шырыня ґадовых слаёў узораў абсалютна сухой драўніны елкі з 18 дрэў на розных вышынях ад асновы і на розных глыбінях ад пэрыфэрыі

Дадатак № 2

| На вышыні | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | Сярэдняя шырыня гадовых слаёў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У аснов. | I | 2,0 | 1,8 | 2,4 | 2,6 | 2,4 | 3,0 | 2,0 | 1,4 | 1,0 | 1,6 | 1,6 | 2,4 | 1,8 | 1,2 | 1,6 | 1,6 | 1,8 | 2,6 | 1,9 |
| | II | 3,0 | 3,2 | 2,4 | 3,2 | 2,0 | 2,8 | 3,0 | 2,4 | 2,0 | 2.6 | 2,6 | 2,4 | 3,0 | 3,0 | 3,0 | 3,6 | 3,8 | 3,2 | 2,6 |
| | III | 2,4 | 2,8 | 3,2 | 2,8 | 2,8 | 2,4 | 3,0 | 3,6 | 2,6 | 3,6 | 3,0 | 2,6 | 3,6 | 2,4 | 1,4 | 2,2 | 2,6 | 2,6 | 2,8 |
| | IV | — | — | — | 1,0 | — | 1,8 | 2,2 | — | 1,2 | 1,2 | 2,0 | — | — | — | — | — | — | — | 1,6 |
| | Сярэдн. | 2,5 | 2,6 | 2,7 | 2,4 | 2,4 | 2,5 | 2,6 | 2,5 | 1,7 | 2,2 | 2,3 | 2,4 | 2,8 | 2,3 | 2,0 | 2,4 | 2,7 | 2,8 | 2,4 |
| 3 мэт. | I | 1,6 | 1,2 | 1,0 | 1,4 | 1,6 | 1,8 | 1,4 | 1,4 | 1,0 | 1,6 | 1,8 | 1,6 | 1,4 | 1,6 | 1,4 | 1,4 | 1,2 | 1,6 | 1,5 |
| | II | 2,6 | 2,8 | 2,4 | 3,0 | 2.0 | 2,2 | 1,2 | 2,4 | 2,6 | 1,8 | 2,8 | 2,2 | 2,4 | 2,6 | 2,6 | 2,8 | 1,6 | 2,8 | 2.4 |
| | III | 2,8 | 2,8 | 2,8 | 2,6 | 3,0 | 3,0 | 3.0 | 2,6 | 2,0 | 2,0 | 3,0 | 2,4 | 3.6 | 3,4 | 1,8 | 2,8 | 4,0 | 3,2 | 2,8 |
| | IV | — | — | — | 2.2 | — | — | — | 2,0 | 2,2 | 2,0 | — | — | — | — | 3,0 | — | — | — | 2.3 |
| | Сярэдн. | 2,3 | 2,3 | 2,0 | 2.3 | 2,2 | 2,3 | 2,2 | 2,1 | 1,9 | 1,8 | 2,5 | 2,0 | 2,5 | 2,5 | 2,2 | 2,2 | 2,3 | 2,5 | 2,2 |
| 6 мэт. | I | 1.6 | 1,4 | 1,2 | 1,8 | 1,6 | 1,8 | 0,8 | 1,4 | 1,8 | 1,6 | 1,0 | 1,6 | 1,2 | 0.8 | 1,4 | 1,0 | 1.4 | 1,6 | 1,3 |
| | II | 3,0 | 2,8 | 2,2 | 3.0 | 2,4 | 2,6 | 2,0 | 2,4 | 2,4 | 1,6 | 3,2 | 2.8 | 2,4 | 2,0 | 3.6 | 3.2 | 3,0 | 3.2 | 2.7 |
| | III | — | 3,8 | 2,4 | 3.6 | 4,0 | 3,4 | 3,0 | 3.2 | 2,6 | 2,2 | 4,4 | 3,2 | 4,2 | 3,8 | 2,6 | 3,6 | 3.6 | — | 3,3 |
| | Сярэдн. | 2,3 | 2,7 | 1,9 | 2,8 | 2,7 | 2,6 | 1,7 | 2,3 | 1,9 | 1,8 | 2,9 | 2,5 | 2,6 | 2,2 | 2,5 | 2,6 | 2,6 | 2,4 | 2,4 |
| 9 мэт. | I | 1,8 | 1,8 | 1,2 | 1,8 | 1,8 | 1,6 | 1,6 | 1,0 | 1.0 | 1,2 | 1,2 | 1,6 | 1,4 | 0,8 | 1,8 | 1,2 | 1,4 | 1,6 | 1,4 |
| | II | 3,6 | 3,2 | 2,6 | 2,8 | 3,4 | 2,6 | 3,0 | 2,8 | 2,4 | 2,2 | 3,4 | 3,2 | 3,8 | 2,6 | 3,4 | 3,0 | 3,2 | 3,8 | 3,0 |
| | III | — | — | — | 2,8 | 2,4 | 3,6 | 3,4 | 4,2 | 2,8 | 2,0 | — | — | — | 3,2 | 3,4 | 3,2 | 3,6 | — | 3,1 |
| | Сярэдн. | 2,7 | 2,5 | 1,9 | 2,4 | 2,5 | 2,6 | 2,7 | 2,7 | 2,0 | 1,8 | 2,3 | 2,4 | 2,6 | 2,2 | 2,9 | 2,4 | 2,7 | 2,7 | 2,5 |
| 12 мэт. | I | 2,0 | 2,0 | 1,4 | 3,0 | 1,8 | 1,8 | 1,6 | 1,6 | 1,0 | 1,4 | 1,6 | 1,4 | 1,6 | 1,2 | 1,8 | 1,4 | 1,6 | 2,0 | 1,7 |
| | II | 3,4 | 3,0 | 3,2 | 1,4 | 3,6 | 3,8 | 3,4 | 3,0 | 2,6 | 2,8 | 3,4 | 3,2 | 3,0 | 3,2 | 3,8 | 2,2 | 3,4 | 3,8 | 3.1 |
| | Сярэдн. | 2,2 | 2,5 | 2,3 | 2,2 | 2,7 | 2,8 | 2,5 | 2,3 | 1,8 | 1,9 | 2,0 | 2,3 | 2,3 | 2,2 | 2,8 | 1,8 | 2,5 | 2,9 | 2,4 |
| 15 мэт. | I | 2,0 | 2,4 | 3,4 | 1,6 | 2,2 | 1.8 | 1,4 | 1,6 | 1.2 | 1,2 | 2,0 | 1,6 | 1,8 | 1,4 | 1,8 | 1,8 | 1,6 | 2,6 | 1,9 |
| | II | 3,2 | — | 2,4 | 3,4 | 3,2 | 3,4 | 3,6 | 3,4 | 2,0 | 2,0 | 3,6 | 3,0 | 2,4 | 2,8 | 3,6 | 3,0 | 3,4 | 3,6 | 3,1 |
| | Сярэдн. | 2,6 | 2,4 | 2,9 | 2,5 | 2,7 | 2,6 | 2.5 | 2,5 | 1,6 | 1,6 | 2,8 | 2,3 | 2,1 | 2,1 | 2,7 | 2,4 | 2,5 | 3,2 | 2,4 |
| 18 мэт. | I | 2,4 | 2,4 | 2,0 | 2,2 | 2,4 | 2,0 | 2,0 | 2,0 | 2,2 | 2,2 | 2,4 | 1,8 | 2,0 | 2,2 | 2,2 | 2,0 | 2,0 | 3,0 | 2,2 |
| | II | — | — | 2,2 | — | 3,0 | 3,0 | 3,0 | — | 2,0 | 2,2 | 2,6 | 2,8 | 3,0 | 1,2 | 3,8 | 2,6 | 3.0 | — | 2,7 |
| | Сярэдн. | 2,5 | 2,4 | 2,1 | 2,2 | 2,7 | 2,5 | 2.5 | 2.0 | 2,1 | 2,2 | 2,5 | 2.3 | 2.5 | 1,7 | 3,0 | 2,3 | 2,5 | 3,0 | 2,4 |
| 21 мэт. | I | 2,4 | — | 2,0 | 2,4 | 2,6 | 2,6 | 2,6 | 2,4 | 1,6 | 2,2 | 2,6 | 2,2 | 2,6 | 2,2 | 2,6 | 2,0 | 2,4 | 2.8 | 2,4 |
| | Сярэдн. | 2,4 | — | 2,0 | 2,4 | 2,6 | 2,6 | 2,6 | 2,4 | 1,6 | 2,2 | 2,6 | 2,2 | 2.6 | 2.2 | 2.6 | 2,0 | 2,4 | 2,8 | — |
| 24 мэт. | I | — | — | — | — | 2,4 | 2,0 | 2,4 | 2,4 | 2,0 | 2,4 | 2,4 | 2,2 | 2,6 | — | 2.8 | — | 2,4 | — | 2,6 |

## Праўдападобныя памылкі каэфіцыэнту зьменнасьці C для match="" рознага ліку варыянтаў.

Дадатак № 4.

| Лік варыянтаў | Каэфіцыэнт зьменнасьці ў %% | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 25 | 0,10 | 0,19 | 0,29 | 0,38 | 0,48 | 0,57 | 0,67 | 0,77 | 0,87 | 0,96 | 1,06 | 1,16 | 1,26 | 1,36 | 1,46 | 1,57 | 1,67 | 1,77 | 1,88 | 1,98 | 2,09 | 2,20 | 2,31 | 2,42 | 2,53 |
| 50 | 0,07 | 0,13 | 0,20 | 0,27 | 0,34 | 0,40 | 0,47 | 0,54 | 0,61 | 0,68 | 0,75 | 0,82 | 0,89 | 0,96 | 1,03 | 1,11 | 1,18 | 1,25 | 1,33 | 1,40 | 1,48 | 1,55 | 1,63 | 1,71 | 1,79 |
| 75 | 0,06 | 0,11 | 0,17 | 0,22 | 0,28 | 0,33 | 0,39 | 0,44 | 0,50 | 0,56 | 0,61 | 0,67 | 0,73 | 0,79 | 0,84 | 0,90 | 0,96 | 1,02 | 1,08 | 1,14 | 1,21 | 1,27 | 1,33 | 1,40 | 1,46 |
| 100 | 0,05 | 0,10 | 0,14 | 0,19 | 0,24 | 0,29 | 0,33 | 0,38 | 0,43 | 0,48 | 0,53 | 0,58 | 0,63 | 0,68 | 0,73 | 0,78 | 0,83 | 0,89 | 0,94 | 0,99 | 1,05 | 1,10 | 1,18 | 1,21 | 1,27 |
| 200 | 0,03 | 0,07 | 0,10 | 0,13 | 0,17 | 0,20 | 0,24 | 0,27 | 0,31 | 0,34 | 0,38 | 0,41 | 0,45 | 0,48 | 0,52 | 0,55 | 0,59 | 0,63 | 0,66 | 0,70 | 0,74 | 0,78 | 0,82 | 0,85 | 0,89 |
| 300 | 0,03 | 0,06 | 0,08 | 0,11 | 0,14 | 0,17 | 0,19 | 0,22 | 0,25 | 0,28 | 0,31 | 0,34 | 0,36 | 0,39 | 0,42 | 0,45 | 0,48 | 0,51 | 0,54 | 0,57 | 0,60 | 0,63 | 0,67 | 0,70 | 0,73 |
| 400 | 0,02 | 0,05 | 0,07 | 0,10 | 0,12 | 0,14 | 0,17 | 0,19 | 0,22 | 0,24 | 0,27 | 0,29 | 0,32 | 0,34 | 0,37 | 0,39 | 0,42 | 0,44 | 0,47 | 0,50 | 0,52 | 0,55 | 0,58 | 0,60 | 0,63 |
| 500 | 0,02 | 0,04 | 0,06 | 0,09 | 0,11 | 0,13 | 0,15 | 0,17 | 0,19 | 0,22 | 0,24 | 0,26 | 0,28 | 0,30 | 0,33 | 0,35 | 0,37 | 0,40 | 0,42 | 0,44 | 0,47 | 0,49 | 0,52 | 0,54 | 0,57 |
| 600 | 0,02 | 0,04 | 0,06 | 0,08 | 0,10 | 0,12 | 0,14 | 0,16 | 0,18 | 0,20 | 0,22 | 0,24 | 0,26 | 0,28 | 0,30 | 0,32 | 0,34 | 0,36 | 0,38 | 0,40 | 0,43 | 0,45 | 0,47 | 0,49 | 0,52 |
| 700 | 0,02 | 0,04 | 0,05 | 0,07 | 0,09 | 0,11 | 0,13 | 0,15 | 0,16 | 0,18 | 0,20 | 0,22 | 0,24 | 0,26 | 0,28 | 0,29 | 0,31 | 0,33 | 0,35 | 0,37 | 0,39 | 0,42 | 0,44 | 0,46 | 0,48 |
| 800 | 0,02 | 0,03 | 0,05 | 0,07 | 0,08 | 0,10 | 0,12 | 0,14 | 0,15 | 0,17 | 0,19 | 0,21 | 0,22 | 0,24 | 0,26 | 0,28 | 0,29 | 0,31 | 0,33 | 0,35 | 0,37 | 0,39 | 0,41 | 0,43 | 0,45 |
| 900 | 0,02 | 0,03 | 0,05 | 0,06 | 0,08 | 0,10 | 0,11 | 0,13 | 0,14 | 0,16 | 0,18 | 0,19 | 0,21 | 0,23 | 0,24 | 0,26 | 0,28 | 0,30 | 0,31 | 0,33 | 0,35 | 0,37 | 0,38 | 0,40 | 0,42 |
| 1000 | 0,02 | 0,03 | 0,05 | 0,06 | 0,08 | 0,09 | 0,11 | 0,12 | 0,14 | 0,15 | 0,17 | 0,18 | 0,20 | 0,22 | 0,23 | 0,25 | 0,26 | 0,28 | 0,30 | 0,31 | 0,33 | 0,35 | 0,36 | 0,38 | 0,40 |

## Праўпадобныя памылкі каэфіцыэнту карэляцыі для рознага ліку варыянтаў.

Дадатак № 5.

| Лік варыянтаў | Каэфіцыэнт карэляцыі r = | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | r = 0,0 | r = 0,1 | r = 0,2 | r = 0,3 | r = 0,4 | r = 0,5 | r = 0,6 | r = 0,7 | r = 0,8 | r = 0,9 | r = 1,0 |
| 25 | 0,1349 | 0,1335 | 0,1295 | 0,1228 | 0,1133 | 0,1012 | 0,0863 | 0,0688 | 0,0486 | 0,0256 | 0,0000 |
| 50 | 0,0954 | 0,0944 | 0,0916 | 0,0868 | 0,0801 | 0,0715 | 0,0610 | 0,0486 | 0,0343 | 00,181 | 0,0000 |
| 75 | 0,0779 | 0,0771 | 0,0748 | 0,0709 | 0,0654 | 0,0584 | 0,0498 | 0,0397 | 0,0280 | 0,0148 | 0,0000 |
| 100 | 0,0674 | 0,0668 | 0,0648 | 0,0614 | 0,0567 | 0,0506 | 0,0432 | 0,0344 | 0,0243 | 0,0128 | 0,0000 |
| 200 | 0,0478 | 0,0473 | 0,0459 | 0,0435 | 0,0402 | 0,0359 | 0,0306 | 0,0244 | 0,0172 | 0,0091 | 0,0000 |
| 300 | 0,0389 | 0,0386 | 0,0374 | 0,0354 | 0,0327 | 0,0292 | 0,0249 | 0,0199 | 0,0140 | 0,0074 | 0,0000 |
| 400 | 0,0337 | 0,0334 | 0,0324 | 0,0307 | 0,0283 | 0,0253 | 0,0216 | 0,0172 | 0,0121 | 0,0064 | 0,0000 |
| 500 | 0,0302 | 0,0299 | 0,0290 | 0,0274 | 0,0253 | 0,0226 | 0,0193 | 0,0154 | 0,0109 | 0,0057 | 0,0000 |
| 600 | 0,0275 | 0,0273 | 0,0264 | 0,0251 | 0,0231 | 0,0207 | 0,0176 | 0,0140 | 0,0099 | 0,0052 | 0,0000 |
| 700 | 0,0255 | 0,0252 | 0,0245 | 0,0232 | 0,0214 | 0,0191 | 0,0163 | 0,0130 | 0,0092 | 0,0048 | 0,0000 |
| 800 | 0,0238 | 0,0236 | 0,0229 | 0,0217 | 0,0200 | 0,0179 | 0,0153 | 0,0122 | 0,0086 | 0,0045 | 0,0000 |
| 900 | 0,0225 | 0,0223 | 0,0216 | 0,0205 | 0,0189 | 0,0169 | 0,0144 | 0,0115 | 0,0081 | 0,0043 | 0,0000 |
| 1000 | 0,0213 | 0,0211 | 0,0205 | 0,0194 | 0,0179 | 0,0160 | 0,0137 | 0,0109 | 0,0077 | 0,0041 | 0,0000 |

| ДЗЕ І КАЛІ САБРАНА ЖЫВІЦА | Колькі ўзята жывіцы для адгонкі шкіпінару ў грам. | Выхады шкіпінару | | Удзельная вага шкіпінару пры 15°С | Здольнасьць вярчэньня | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У грам. | У проц. | | Жывіцы | Шкіпінару | Каліфоні (t° атрыманьня) |
| Вуч. № I. Збор 1/VI-27 г. пасьля засечкі чашак | 411,5 | 106,0 | 25,76 | 0,8630 | — 59,8 | +26,14 | —24,14 |
| Вуч. № I. Збор 11/VI у наступны дзень пасьля 2-ой уздымкі (падноўкі) | 259 | 44,4 | 17,1 | 0,8626 | — 55,3 | + 28,5 | t165° +15,3[illegible] |
| Вуч. № I. Збор 29/VI, праз дзень пасьля 6-ай уздымкі | 333 | 56,0 | 16,8 | 0,8628 | — 51,0 | + 28,8 | t170° +20,1 |
| Вуч. № I. Збор 29/VII у наступны дзень пасьля 15-ай уздымкі | 304,4 | 62,0 | 20,3 | 0,8636 | — 55,1 | + 31,4 | t175° +20,5 |
| Вуч. № I. Збор 30/VIII у наступны дзень пасьля 24-ай уздымкі | 448 | 87,0 | 19,4 | 0,8639 | — 54,9 | + 27,7 | t175° +19,0 |
| Вуч. № I. Збор 27/IX у наступны дзень пасьля 32-ай уздымкі | 285 | 44,5 | 15,6 | 0,8655 | — 50,5 | + 28,6 | t180° +16,1 |
| Вуч. № IV. Збор 30/VI праз 2 дні пасьля 5-ай уздымкі | 342 | 58,0 | 17,0 | 0,8640 | — 45,6 | + 17,1 | t187° +12,4 |
| Вуч. № IV. Збор 30/VII праз дзень пасьля 14-ай уздымкі | 404 | 78,0 | 19,3 | 0,8626 | — 53,5 | + 19,6 | t200° +17,3 |
| Вуч. № IV. Збор 30/VIII з 22 і 23 уздымак (збор зроблен ў наступны дзень пасьля 23 уздымкі) | 432 | 73,0 | 16,9 | 0,8640 | — 54,3 | + 23,3 | t190° +17,4 |
| Вуч. № IV. Збор 22/IX ад 28 і 29 уздымак (збор зроблен праз дзень пасьля 29 уздымкі) | 461 | 83,0 | 18,0 | 0,8640 | — 50,9 | + 22,9 | t190° + 5,7 |
| Дрэва № 66 вуч. № I. Зялёная жывіца, зьбіралася усё лета | 295 | 51,0 | 17,3 | 0,8655 | — 44,0 | + 33,3 | t190° +16,3 |
| Дрэва № 157 вуч. № I. Жоўта-зялёная жывіца, збіралася усё лета | 270 | 44,0 | 16,3 | 0,8659 | — 37,2 | + 40,4 | t190° +13,6 |
| Дрэва № 161 вуч. № IV. Зялёная жывіца, зьбіралася усё лета | 312 | 59,0 | 18,9 | 0,8620 | — 45,3 | + 25,0 | t185° +19,2 |
| Казанск. губ. (Флавіцкі) | — | — | — | 0,8625 | —34,54 | +32,45 | Верхні радок паказвае пры якой t атрымлівалася каліфоня, а ніжні— здольнасьць вярчэньня |
| А. Е. Арбузаў (Райфск. дача Кззанск. губ.) | — | — | — | — | — | + 25,2 | |
| Люблінская губ. (Шкацелаў) | — | — | — | — | — | + 25,1- + 25,2 + 23,1- | |
| Б. А. Арбузаў | — | — | — | — | — | +37,95 | |

таго, здольнасьць вярчэньня яе ўлева зьявілася найвялікшай абсалютна, а тым больш адносна, бо пры утрыманьні звыш 25% правабарочаючай, матэрыі яна паказала максымум левага вярчэньня. Гэтая жывіца, як відаць, найбольш блізка адпавядае тэй жывіцы, якая знаходзіцца альбо атрымліваецца ў момант выцячэньня з смаляных хадоў. Паводле азначэньняў Дюпона для pinus maritima, смала, што знаходзіцца ў смаляных хадох трымае 31% шкіпінару, а паводле дадзеных А. Е. Арбузава[1]) для Райфскай дачы Казанскай губэрні, колькасьць лятучых частак жывіцы (шкіпінар) хістаецца ад 25% да 29% і да 31% і нават у адным выпадку да 36%. Б. А. Арбузаў[2]) пры вельмі старанным выцягваньні жывіцы з смаляных хадоў вызначаў шкіпінар да 35,5%, г. з. нават больш за тое, што атрымаў Дюпон для францускай хвоі. Такім чынам, пры першай засечцы, калі адразу адчыняецца аграмадная колькасьць смаляных хадоў, увесь запас іх хутка выцякае, і дзякуючы вясновай нізкай сярэдняй тэмпэратуры і таму, што чашкі добра не нагрэліся, ня вынікае шыбкае іспарэньне і жывіца ня пасьпявае больш-менш зьмяніцца. Пры маіх досьледах у Харкаўскай губэрні, пры тых самых умовах здабылася жывіца з утрыманьнем шкіпінару нават крыху звыш 26%. Такім чынам, гэтая першая засечка дае выхад, які па колькасьці і якасьці набліжаецца да складу, гэтак кажучы, первястковый жывіцы. Здабытая з яе каліфоня зьявілася з моцнай здольнасьцю вярчэньня ўлева, якая больш супадае ў гэтых адносінах з усімі каліфоніямі, што былі здабыты аўтарам пры падсечцы хвоі Пермскай губэрні[3]).

Пасьля першага выцячэньня смалы для аднаго і таго-ж вучастку (№ 1) устанаўляюцца больш менш устойлівыя вынікі, як адносна тэхнічных выхадаў шкіпінару і асабліва яго здольнасьці вярчэньня, якая амаль што ня хістаецца, застаючыся сталай (каля + 28,5°), з тэндэнцыяй толькі малай зьмены, так і астатніх частак сырога матар'ялу, прычым здольнасьць вярчэньня жывіцы пад канец лета, як відаць, некалькі падае, а здольнасьць вярчэньня каніфолі, захоўваючы увесь час правую велічыню паказвае некаторае зьмяншэньне вярчэньня пры больш высокай тэмпэратуры апрацоўкі, што ня супадае з вярчэньнем каніфолі, здабытай пры падсочцы ў больш паўднёвай частцы Беларусі (ля Верайцоў), якая паказвае наогул нязначнае левае вярчэньне.

Апошні збор 27 верасьня дае найменшую колькасьць шкіпінару і найменшае левае вярчэньне жывіцы, ў той час як здольнасьць вярчэньня шкіпінару застаецца тая самая.

Вучастак № IV, больш малады па ўзросту (100 гадоў), характарызуецца пры прыблізна тых самых колькасных выхадах шкіпінару, здольнасьці вярчэньня жывіцы і каніфолі, што з яе здабываецца, значна меншым вярчэньнем шкіпінару ў межах ад + 17 да 23,3, прычым здольнасьць вярчэньня падвышаецца пад канец лета.

Зусім асабліва стаіць зялёная жывіца, якая адрозьніваецца малым адмоўным вярчэньнем, пры надзвычайна вялікім станоўчым для шкіпінару, якое даходзіць да максымуму, што апісваецца ў літаратуры, + 40,4[4]), прычым ізноў жа сабраная з IV, больш маладога вучастку, яна дала шкіпінар больш нізкага вярчэньня (+ 25,0°).

---

[1]) А. Е. Арбузов. Об истечении и химическом составе смол. Техно-химический вестник. т. 5 стр. 637 (1925).

[2]) Б. А. Арбузов. Ж. Р. Ф. Х. О. LIX стр. 255 (1927).

[3]) О составе белорусской живицы. Запіскі Бел. Акадэміі С. Г. том IV, стар. 116.

[4]) Б. А. Арбузовым для чыстага $\alpha$ пінэну атрымана вярчэньне $\alpha_{[D]}$ · 40,79 Ж. Р. Ф. Х. О. LIV 211.

Наогул можна заўважыць, што беларуская жывіца ўладае найвялкішай здольнасьцю вярчэньня свайго шкіпінару, якая набліжаецца па сваёй велічыні да чыстага пінэну, ў той час як дадзеныя для нямецкага шкіпінару з + 12° да 13°, па азначэньнях Дармуа[1]), трымаюць 72% нопінэну, што варочае направа і 28% левага нопінэну. Шкіпінар жа, атрыманы Б. А. Арбузавым з вярчэньнем + 23,0, трымае ў сабе 87,29% правага пінэну, а вярчэньне + 40,79° адпавядае найбольш чыстаму $\alpha$ пінэну.

Такім чынам, на падставе вышэйпамянёных меркаваньняў, шкіпінар беларускай хвоі набліжаецца да чыстага $\alpha$ пінэну, максымальнае вярчэньне якога $\alpha_{(D)} = + 40{,}79°$ (паводле дадзеных Б. А. Арбузава).

Як відаць хвоя Pinus silvestris у адносінах да шкіпінару, які трымае ў сабе жывіца, павялічвае правае вярчэньне, якое залежыць ад большага утрыманьня правага пінэну ў напрамку з захада на ўсход.

Нязначная колькасьць матар'ялу і аднагадовае нагляданьне ня даюць, напэўне, магчымасьці зрабіць іншыя больш поўныя вывады.

У адносінах колькасных выхадаў тэхнічна здабываемага шкіпінару, беларуская жывіца некалькі перавышае вынікі, якія атрымаў аўтар для польскай хвоі. Акрамя таго заўважана, што першыя выхады шкіпінару вясной, адрозьніваюцца пахам, які асабліва араматычна і напамінае пах цьміннага масла.

*Прафэсар В. Шкацелаў.*

---

[1]) Dupont. Les éssence de thérébanthine 132.

# Спроба хронамэтрычнага вывучэньня працы па ахове лесу.

## (З работ лесаэканамічнага аддзелу Ц. Л. Д. С. Б.)

Лесаэканамічны аддзел Цантральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі у самым пачатку свайго ўзьнікання высунуў у Савеце Лясной Дасьледчай Станцыі пытаньне аб неабходнасьці вывучэньня працы ў лясной гаспадарцы. Савет вельмі уважліва аднёсься да гэтага пытаньня, разумеючы ўсю важнасьць задачы і прыняў пастанову аб утварэньні „Камісіі па навуковай арганізацыі працы" (НАП у лясной гаспадарцы). У склад гэтай камісіі увайшлі: В. І. Пераход (старшыня), Е. О. Слука (лясьнічы, нам. старш.) і Ф. П. Майсеенка (сакратар, асыст.). Гэта камісія, вельмі нямногалікавая, пазьней была папоўнена новымі працаўнікамі (Ф. П. Міхневіч і інш.). У абавязкі членаў камісіі уваходзіць—распрацоўка, пад агульным кіраваньнем Лесаэканамічнага Аддзелу, самастойных пытаньняў па ўжываньні НАП'а ў лясной гаспадарцы.

У красавіку 1927 г. камісія заслухала:

1. Даклад В. І Перахода на тэму: „Стандартызацыя ў галіне лясное гаспадаркі (гэта праца апублікавана ў часопісі „Савецкае Будаўніцтва" № 2—1927 г.).

2) Паведамленьне Е. О. Слукі аб працы па ўжываньні НАП'а ў галіне водпуску лесу і вучоту лясных правапарушэньняў.

Намячаючы плян працы на летні пэрыяд 1927 г., камісія выказалася за неабходнасьць ўжываньня спробы хронамэтрычнага вывучэньня працы па ахове лесу. Дзеля наглядааньня былі абраны два абходы Горацкай лясной дачы (№ 1-шы № 8-мы), якія, аднак, пазьней былі заменены адным абходам (№ 6-ы) і аб'ездам (№ 2) тэй-жа дачы. Практыкантам быў запрошан ст. лясфаку М. Ціхан.

## I

Вывучэньне працы па ахове лесу вялося па мэтадзе хронамэтражу. Наглядальнік быў забясьпечан двума крокамерамі (адзін запасны) дзеля вымеру пройдзенай адлегласьці, у якасьці сэкундамера была скарыстана сэкундная (малая) стрэлка кішэннага гадзіньніка.

Намэнклятура часу была ўжыта тая-ж самая, што прыведзена праф. Падгаецкім у яго артыкуле: „Изучение условий труда и быта лесных работников" (гл. часопісь „Лесовод" № 1. 1924 г.), а ўласьне: а) сон, б) адпачынак, самаабслугаваньне і т. д., в) праца па ўласнай гаспадарцы і г) службовая праца. Праўда, у дзеньніку запісы вяліся больш дэталёвыя; для прыкладу прывядзем узор аднаго з дзён, узятага бяз асобага выбору (пятніца, 24/VI-27 г.)

| Пачатак | | Канчатак | | Трата часу на працягу сутак | Агульная трата часу |
|---|---|---|---|---|---|
| г. | хв. | г. | хв. | | |
| 0 | 00 | 4 | 10 | Сон (ночны) . . . . . . . . . . . | 4 г. 10 хв. |
| 4 | 10 | 8 | 10 | Праца па гаспадарцы . . . . . . . | 4 „ — „ |
| 8 | 10 | 8 | 35 | Сьнеданьне . . . . . . . . . . . . | 0 „ 25 „ |
| 8 | 35 | 9 | 30 | Хатнія гутаркі . . . . . . . . . . | 0 „ 55 „ |
| 9 | 30 | 10 | 20 | Абход (кв. кв. 25, 28, 34, 27 і 24) . | 0 „ 50 „ |
| 10 | 20 | 10 | 55 | Адпачынак у час абходу . . . . . | 0 „ 35 „ |
| 10 | 55 | 13 | 30 | Абед . . . . . . . . . . . . . . . | 2 „ 35 „ |
| 13 | 20 | 14 | 00 | Працяг абходу . . . . . . . . . . | 0 „ 30 „ |
| 14 | 00 | 16 | 20 | Адпачынак (днеўны сон) . . . . . | 2 „ 20 „ |
| 16 | 20 | 21 | 00 | Праца на надзеле . . . . . . . . . | 4 „ 40 „ |
| 21 | 00 | 21 | 20 | Адпачынак (там-жа) . . . . . . . . | 0 „ 20 „ |
| 21 | 20 | 22 | 15 | Праца па гаспадарцы . . . . . . . | 0 „ 55 „ |
| 22 | 15 | 22 | 45 | Вячэра і чай . . . . . . . . . . . | 0 „ 30 „ |
| 22 | 45 | 23 | 10 | Хатнія гутаркі . . . . . . . . . . | 0 „ 20 „ |
| 23 | 10 | 24 | 00 | Сон (ночны) . . . . . . . . . . . | 0 „ 50 „ |

Гэты запіс характэрны для гэтага пэрыяду, калі маецца палявая праца і служба займае мала часу. На працягу гэтага дня было пройдзена 10 вёрст і 105 саж.

Нагляданьні і запісы ў абходзе № 6 вяліся на працягу 19 сутак. Падводзячы вынікі па днёх, атрымаем такія цыфровыя дадзеныя, зьведзеныя намі ў ніжэйнаступную таблічку, прытрымліваючыся прынятай намэнклятуры.

| №№ | Намэнклятура траты сутачнага часу | Усяго | | У сярэднім | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Гадз. | Хвіл. | Гадз. | Хвіл. |
| 1 | Сон . . . . . . . . . . | 106 | 25 | 5 | 36 |
| 2 | Адпачынак, яда, гутаркі | 98 | 25 | 5 | 11 |
| 3 | Праца па гаспадарцы і асабістыя справы . . | 123 | 05 | 6 | 29 |
| 4 | Службовая праца . . . . | 128 | 05 | 6 | 44 |

Увага: Хадзьбы штодзенна, па запісах крокамера, было, у сярэднім, 12 в. 250 с. (13,3 кілям.). Усяго за паказаны пэрыяд пройдзена было лясьнікам 237 в. 252 с.

Зьвяртае на сабе увагу тае акалічнасьць, што на працу па гаспадарцы і асабістыя справы трацілася столькі-жа, колькі і на службовую працу; надзел, такім чынам, адыймае значную частку рабочага часу.

Дзеля характарыстыкі абходу № 6 трэба сказаць, што ён адкрыты з трох бакоў: поўночу, усходу і захаду; з поўдню-ж ён прылягае да агульнага масыву; шаша—Горкі—Ворша прылягае да 24 і 25 кварталаў; праз іх, а таксама і праз 27 кв. праходзіць дарога к ст. „Зубры". Акрамя

гэтых дарог у дачу можна прайсьці яшчэ ў трох напрамках (усяго 5). Вакольных вёсак маецца 13.

Агульная плошча абходу 648 дзесяцін; у яго уваходзяць шэсьць кварталаў (24, 25, 27, 28, 33 і 34); месца знахаджэньня абходу роўнае, з некаторым зьніжэньнем к забалочаным мясьцінам.

Узрост лясьніка —51 год., служыць у абходзе 8 гадоў. Пэнсія—20 руб. у м-ц; надзел—5 дзес.

II

Хронамэтрычнае вывучэньне працы па ахове лесу ў аб'езьдзе № 2 вытваралася на працягу 16 сутак. Запісы вяліся тыя самыя, з мэтаю параўнальнага вывучэньня. Прывядзем запіс аднаго з дзён (3 - VII—27 г.)

| Пачатак | | Канчатак | | Трата часу (на што) | Сума траты часу | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Гадз. | Хвіл. | Гадз. | Хвіл. | | Гадз. | Хвіл. |
| 0 | 00 | 7 | 20 | Сон . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 7 | 20 |
| 7 | 20 | 8 | 10 | Ранічны адпачынак . . . . . . . . . . | 0 | 50 |
| 8 | 10 | 8 | 30 | Самаабслугоўваньне . . . . . . . . . . | 0 | 20 |
| 8 | 30 | 9 | 05 | Сьнеданьне . . . . . . . . . . . . . . | 0 | 35 |
| 9 | 05 | 10 | 45 | Рэвізія ў 34 і 33 кварталах . . . . . . . | 1 | 40 |
| 10 | 45 | 11 | 05 | Адпачынак у лесе . . . . . . . . . . . | 0 | 20 |
| 11 | 05 | 20 | 00 | Працяг абгляду . . . . . . . . . . . . | 8 | 55 |
| 20 | 00 | 20 | 40 | Абед . . . . . . . . . . . . . . . . . | 0 | 40 |
| 20 | 40 | 21 | 40 | Адпачынак, гутарка з сялянамі . . . . . . | 1 | — |
| 21 | 40 | 24 | 00 | Сон . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 2 | 20 |

Увага: Запіс вёўся, як і ў папярэднім нагляданьні, на працягу цэльных сутак (0—24 г.), прычым пачатак аднаго моманту супадаў з канчаткам другога.

Падсумаваўшы ўсе запісы, атрымаем такія дадзеныя:

| №№ па парадку | Як трацiўся час | У суме | | У сярэднім | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Гадз. | Хвіл. | Гадз. | Хвіл. |
| 1 | Сон . . . . . . . . . | 106 | 30 | 6 | 39 |
| 2 | Адпачынак, чытка газэт, хатнія гутаркі і інш. . | 92 | 40 | 5 | 48 |
| 3 | Праца па гаспадарцы . | — | — | — | — |
| 4 | Службовая праца . . . | 184 | 50 | 11 | 33 |

Увага: Тое, што на працу ў сваёй гаспадарцы ня трацілася часу і значная норма гадзін службовай працы, магчыма часткова тлумачыцца і тым, што аб'езчык ведаў, што ён падлягаў вывучэньні, з чаго вынікае, што магло быць „стараньне“.

За паказаны тэрмін аб'езчыкам па службовых абавязках пройдзена 258 в. 343 с., што дае, ў сярэднім, 16 в. 84 с. ці 17,2 кіляметры ў дзень (норма досыць высокая).

# ХРОНОКАРТА

БЮДЖЭТУ ЧАСУ АБ'ЕЖЧЫКА 2 АБ'ЕЗДУ ГОРАЦКАГА ДАСЬЛЕДЧАГА ЛЯСЬНІЦТВА




У СЯРЭДНІМ У АБ'ЕЖЧЫКА ТРАЦІЦЦА ЧАСУ У СУТКІ НА 1) СОН 6 ГАДЗ 39 МІН 2) ЕДУ, САМААБСЛУГОЎВАНЬНЕ АДПАЧЫНАК 5 ГАДЗ 48 МІН 3) ПРАЦУ У СВАЁЙ ГАСПАДАРЦЫ — 4) СЛУЖБУ 11 ГАДЗ 33 МІН.

УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

1. Сон
2. Самаабслугоўваньне, еда, адпачынак, чытаньне
3. Праца у сваёй гаспадарцы і асобістыя справы
4. Службовая праца.

Хістаньні ў траце часу, паводле прынятай намэнклятуры, відаць з прывадзімай „Хронакарты бюджэту часу аб'езчыка 2-га аб'езду Горацкага Дасьледчага Лясьніцтва.

Аб'езд № 2 складаецца з 4 абходаў з агульнай плошчаю 2,600 дзесяцін.

Па службовых справах прыходзіцца **хадзіць** (а не аб'яжджаць, як павінна было быць паводле назвы сваёй пасады), на адлегласьці з радысам 15—20 кілямэтраў.

Аб'езчыку 44 гады, ён былы рабочы (быў машыныстым пры паравых катлах), атрымаў хатнюю асьвету; на пасадзе служыць 4 гады. Пэнсію атрымоўвае 30 р. у месяц, тыя-ж 5 дзес. надзелу, што і ў лясьніка. Акрамя звычайнай працы аб'езчыка, ён абслугоўвае яшчэ „Дасьледчы вучастак“ 2-га аб'езду.

---

У заключэньне хочацца зазначыць, перш за ўсё, тую акалічнасьць, што „спроба вывучэньня працы па ахове лесу“ не прэтэндуе на абагульненьні і распаўсюджаньні на іншыя, невядомыя і нявывучаныя вучасткі.

Гэта—першая спроба, якая дала некаторыя цыфры фактычнай траты працы і бюджэту часу тых, каму непасрэдна давяраецца ахова лесу ў Беларусі.

Лесаэканамічны аддзел, апублікоўваючы гэтую справу ўжываньня хронамэтрычнага мэтаду, спадзяецца на шырокае распаўсюджаньне апісаных прыёмаў вывучэньня, вельмі простых і даступных кожнаму лясному працаўніку БССР.

Разам з тым, Лесаэканамічны Аддзел хацеў бы пашырэньня спробы хронамэтражу ня толькі ў сэнсе вывучэньня працы па ахове лесу, але і па вырошчываньні (культуры), таксацыі (вучот) і лясных загатоўках (эксплятацыя лесу).

*Праф. В. І. Пераход.*

Горкі. БССР.

# Залежнасьць якаснай лічбы елкі ад вышыні і дыямэтра

### (Па беларускіх дадзеных)

Пытаньне аб большай ці меншай залежнасьці якаснай лічбы ад вышыні ствала альбо дыямэтра на вышыні грудзі застаецца да гэтага часу адкрытым. Дзеля таго, каб падыйсьці да вырашэньня гэтага пытаньня, намі былі ўзяты аднародныя дадзеныя, а імена: мадэльныя дрэвы елкі аднэй і тэй-жа (Кукарэўскай) дачы *Арэшкаўскага лясьніцтва* (Барысаўскай акругі), першае клясы банітэту, але рознага ўзросту, ад 2-х да 9,3 вяршкаў на вышыні грудзі, вышынёю ад 14-ці да 42-х арш.

Дадзеныя гэтых 30-ці мадэльных дрэў, зрубленых пры лесаўпарадкаваньні, наступныя:

| №№ мадэляў | Дыямэтр на вышыні грудзі | Вышыня ствала | Аб'ём ў кары | Якасная лічба ў кап. | №№ мадэляў | Дыямэтр на вышыні грудзі | Вышыня ствала | Аб'ём ў кары | Якасная лічба ў кап. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2,0 | 14,0 | 0,85 | 1,2 | 16 | 5,0 | 32 | 16,40 | 3,8 |
| 2 | 2,0 | 15,0 | 1,10 | 0,9 | 17 | 6,0 | 28 | 18,00 | 4,8 |
| 3 | 2,5 | 17,0 | 2,04 | 2,0 | 18 | 6,0 | 32 | 22,32 | 4,9 |
| 4 | 2.7 | 17,5 | 2,63 | 1,9 | 19 | 6,0 | 33 | 22,21 | 4,9 |
| 5 | 3,0 | 19,5 | 3,33 | 2,7 | 20 | 6,0 | 33,5 | 21,96 | 5,1 |
| 6 | 3,0 | 20,0 | 3,78 | 2,1 | 21 | 6,1 | 33 | 22,35 | 5,0 |
| 7 | 4,0 | 23,0 | 3,58 | 2,0 | 22 | 6,8 | 32,5 | 26,82 | 5,3 |
| 8 | 4,0 | 24,0 | 6,93 | 2,0 | 23 | 6,9 | 31,5 | 26,12 | 5.2 |
| 9 | 4,0 | 24,5 | 7,69 | 2,0 | 24 | 7,0 | 32 | 31,07 | 5.5 |
| 10 | 4.0 | 26,0 | 7,87 | 1,9 | 25 | 7,1 | 31 | 25,08 | 5,1 |
| 11 | 5,0 | 27.0 | 6.07 | 2,1 | 26 | 7 2 | 41 | 40,46 | 5.3 |
| 12 | 5,0 | 28,0 | 12,98 | 4,2 | 27 | 8,0 | 40,5 | 50,55 | 5,5 |
| 13 | 5,0 | 30,0 | 14,55 | 3,9 | 28 | 8,1 | 36 | 46,72 | 5,7 |
| 14 | 5,0 | 30,0 | 14,39 | 4.0 | 29 | 8,3 | 42 | 48,68 | 5,5 |
| 15 | 5,0 | 31,0 | 14,0 | 3,9 | 30 | 9,3 | 42 | 60,28 | 6,4 |

Узросты дрэў зьмяняліся ад 40 да 110 гад., хістаючыся параўнальна мала; як звычайна, пры павышэньні ўзросту павялічваліся дыямэтр і вышыня. З прыведзенай табліцы відаць, што якасная цыфра зьмяняецца супастаўна са зьменай вышыні і дыямэтра.

Дзеля ўстанаўленьня *ступені гэтай залежнасьці* быў ужыты мэтад варыяцыйнай статыстыкі, прычым раней вылічаўся каэфіцыэнт карэляцыі паміж якаснай лічбай і дыямэтрам, а затым—вышынёю.

Сярэдняя якасная лічба раўнялася 3,83 кап., сярэдні дыямэтр—5,26 (5,3) в. Асноўнае адхіленьне ($\sigma$) якаснай лічбы роўна 1,59, а дыямэтра—1,97.

Каэфіцыэнт карэляцыі паміж якаснай цыфрай і дыямэтрам раўняўся (па формуле Bravais):

$$r = \frac{\Sigma D_x \,.\, D_y}{n \,.\, \sigma_x \,.\, \sigma_y} = \frac{+\,89{,}92}{30 \,.\, 1{,}59 \,.\, 1{,}97} = +\,0{,}956 \qquad (1)$$

Вылічаны каэфіцыэнт паказвае, што залежнасьць паміж якаснай лічбай і дыямэтрам станоўчая (знак плюс паказвае, што залежнасьць простая); ступень гэтай залежнасьці дужа высокая (амаль поўная карэляцыя, ці ўзаемная зьвязнасьць).

Каэфіцыэнт карэляцыі паміж якаснай лічбай і вышынёй дрэва некалькі менш, а імепна—ён ровен:

$$r = \frac{\Sigma D_x \,.\, D_y}{n \,.\, \sigma_{x_1} \,.\, \sigma_{y_1}} = \frac{+\,326{,}53}{30 \,.\, 1{,}59 \,.\, 7{,}60} = +\,0{,}900 \qquad (2)$$

Памылкі каэфіцыэнта карэляцыі, вылічаныя па формуле Пірсона, даюць таксама вялічыні:

а) *для першай залежнасьці:*

$$m_r = \frac{1 - r^2}{\sqrt{n}} = \frac{1 - 0{,}9025}{5{,}47} = 0{,}017$$

б) *для другой залежносьці:*

$$m_r = \frac{1 - r^2}{\sqrt{n}} = \frac{1 - 0{,}8101}{5{,}47} = 0{,}034.$$

*Вывад:* якасная лічба елкі пры аднародных эканамічных умовах і ў граніцах аднаго і таго-ж банітэту вельмі цесна залежыць, як ад дыямэтра на вышыні грудзі, так і ад вышыні ствала. Ступень гэтай залежнасьці аднолькавая ($r = 0{,}9$).

*Праф. В. І. Пераход.*

28—XII—27 г.

# Леса-фэналягічныя назіраньні.

Лясная дасьледчая справа ў Беларусі пачалася пры такіх матар'яльных умовах, што арганізоўваць і разьвінаць яе даводзіцца вельмі і вельмі паступова. Лясная Дасьледчая Станцыя карыстаецца поўным спачуваньнем з боку ўсіх тых установ, пад кіраўніцтвам якіх яна знаходзіцца і з якімі яна стыкаецца ў сваей дзейнасьці. Мы распрацавалі дэтальныя і пэрспэктыўныя, і пяцілетнія і гадавыя пляны дзейнасьці Станцыі і праграмы яе навукова-дасьледчых прац, а таксама і парадак разьвінаньня як цэнтральных так і мясцовых лясных дасьледчых установ на Беларусі. Але поруч з гэтым мы павінны сваю працу весьці вельмі і вельмі эканомна. Дзеля таго што нехапае фінансавых сродкаў, мы ня можам спачатку быстра пабудаваць у цэнтры і на месцах усе патрэбныя будынкі, пасьля таксама быстра абсталяваць установы Станцыі ўсім патрэбным, пасьля запрасіць для працы даволі ўжо падрыхтаваны пэрсанал, пасьля ўжо пачаць працу з выкананьня самых галоўных заданьняў і разьвінуць гэту працу поўнасьцю. Мы былі змушаны ісьці іншым шляхам. Мы павінны былі паволі, паступова, але ўпарта і сыстэматычна пасоўваць адначасова ўсе паказаныя працы па арганізацыі лясной дасьледчай справы: і ўтвараць базы для многалетніх стацыянарных прац, і вельмі паступова набываць абсталяваньне, і клапаціцца аб падрыхтоўцы маладых вучоных-дасьледчыкаў, і ў магчымых разьмерах весьці дасьледчую працу.

Пры такіх умовах, пакуль няма яшчэ ні даволі моцных мясцовых баз, ні патрэбнага абсталяваньня, — навуковыя працаўнікі нашай лясной станцыі зьвязаны ў выбары тэм для дасьледчай працы.

Пакуль што прыходзіцца часта брацца не за тыя тэмы, якія трэба лічыць найбольш своечасовымі, найбольш асноўнымі, а за тыя, якія з грашовага і матар'яльнага боку зьяўляюцца даступнымі для выкананьня.

Да такіх, параўнальна „танных", дасьледчых прац і адносяцца фэналягічныя назіраньні. Гэтым і тлумачыцца той факт, што Лясная Дасьледчая Станцыя Беларусі змагла іх арганізаваць параўнальна рана, у самым пачатку свайго існаваньня. Тут вымагаецца толькі добрая кваліфікацыя навуковага працаўніка, а абсталяваньня і рабочай сілы на гэта патрэбна мінімум.

Ужо ў 1924 годзе ўдалося арганізаваць сыстэматычныя назіраньні і над дрэўнай расьліннасьцю Дэндралягічнага Саду і Ляснога Гадавальніка ў Горках. У 1926 годзе такія самыя назіраньні арганізаваны на Жорнаўскім лясным дасьледчым вучастку. Дзеля недахопу навуковых працаўнікоў і жыльлёвых памяшканьняў на Вяляціцкім і Горацкім лясных дасьледчых вучастках сыстэматычныя лесафэналягічныя назіраньні па вызначанай праграме ўдалося арганізаваць толькі з 1928 г.

Леса-фэналягічныя назіраньні нельга, аднак, адносіць да навукова-дасьледчай працы другой чаргі. Калі-б наша Лясная Дасьледчая Станцыя пачала сваю працу і пры нармальных умовах, дык і тады фэналягічныя назіраньні над лясной расьліннасьцю трэ' было арганізаваць у першую чаргу, таму што, папершае, яны дазваляюць найлепш ар'ентавацца пры азнаямленьні з леса-расьліннымі ўмовамі краю, па-другое — яны зьяўляюцца найбольш тонкім мэтадам вывучэньня біякліматычных умоў краю, па-трэцяе — мясцовы фэналягічны матар'ял патрэбен пры пастаноўцы шмат якіх дасьледаў і дасьледваньняў па лесазнаўстве і лесаводзтве і, па-чацьвёртае—гаму што фэналягічныя назіраньні зьяўляюцца дасьледваньнямі доўгатэрміновымі, — трэба ў кожным выпадку сьпяшацца з іх арганізацыяй. Вядома, што для атрыманьня сярэдніх фэналягічных дат і вялічынь патрэбна ад 10 да 20 год штогодных назіраньняў, якія праводзяцца па пэўнай праграме і адным мэтадам, у адным пэўным месцы над аднымі і тымі самымі відамі, а дзе гэта магчыма—над аднымі і тымі самымі індывідуумамі. Кожны прапушчаны год роўна на год аддаляе нас у даным выпадку ад наступленьня так важнага і пажаданага дзесяцілецьця, і Цэнтральная Лясная Дасьледчая Станцыя Беларусі лічыла гэта другім матывам да таго, каб арганізацыю леса-фэналягічных назіраньняў — прынамсі ў даступным для выкананьня разьмеры, аднесьці да групы першачарговых прац.

Навуковыя працаўнікі ЦЛДСБ у часе леса-фэналягічных назіраньняў карыстаюцца кароткай інструкцыяй, складзенай загадчыкам Аддзелу Лесазнаўства, Дагляду і Высечкі і размножанай гэктаграфічна. Гэта-ж праца мае сваей мэтай, па-першае, выявіць сутнасьць лесафэналягічных назіраньняў і клясыфікаваць іх, па-другое, дапамагчы навуковым працаўніком, якія так ці інакш маюць дачыненьне да такіх назіраньняў, у выбары рацыянальнай тэхнікі назіраньняў, па-трэцяе, вызначыць праграму назіраньняў і, па-чацьвёртае, сыстэматызаваць і зафіксаваць вынікі фэналягічных назіраньняў, якія праводзіліся ЦЛДСБ у 1924, 1925, 1926 і 1927 гг.

## I

Фэналягічныя назіраньні маюць як чыста навуковае, так і практычнае значэньне. Яны даюць магчымасьць вызначыць працягласьць, час наступленьня пачатку і канца вэгетацыйнага пэрыяду і пэрыяду зімовага пакою для кожнага віду расьлін, вызначыць для данай мясцовасьці час наступленьня тых стадый разьвіцьця і жыцьця расьліннага ці жывёльнага віду, якія маюць навуковае ці практычнае значэньне. Імі карыстаюцца для вывучэньня залежнасьці жыцьця расьліны ад мэтэаралягічных і кліматычных фактараў. Так, пры дапамозе фэналягічнага і адпаведнага мэтэаралягічнага матар'ялу азначаюць тыя сумы тэмпэратур (сярэдніх сутачных), ці максымальных сутачных) якія патрэбны для наступленьня пэўных фаз у жыцьці расьліннага віду. Сыстэматычна праведзенымі фэналягічнымі назіраньнямі цяпер вывучаюць т. зв. біяклімат і мікраклімат данай краіны ці раёну. Яны таксама даюць магчымасьць паводле зусім выразных адзнак у прыродзе вызначыць наступленьне пэрыядаў году: раньняй вясны, вясны, лета, восені, зімы з іх падзеламі. Фэналягічныя ізаліній даюць дакладнае ўяўленьне аб напрамку ходу вясеньняга, летняга і інш. пэрыядаў у данай краіне. Сярэднія фэналягічныя вялічыні вызначаюць статыку біяклімату. Адхіленьні ад сярэдніх вызначаюць дынаміку біяклімату, ў прыватнасьці яго ўстойлівасьць і г. д. Фэналягічныя назіраньні зьяўляюцца бязумоўна патрэбнымі пры навукова-дасьледчых працах па фізыялёгіі і біялёгіі рась-

лін. Такія чыста практычныя пытаньні, як магчымасьць ці немагчымасьць узгадаваньня ў данай мясцовасьці пэўнага новага віду расьліны, вырашаюцца таксама ў пэўнай ступені фэналягічнымі назіраньнямі. Імі цалкам вырашаецца пытаньне аб часе збору насеньня, аб працягласьці пэрыяду сэзонных работ, напрыклад, лесакультурных, лесазагатоўчых, лесатранспартных і г. д.

Фэналягічныя назіраньні вядуцца батанікамі, заалёгамі, мэтэаралёгамі, лесаводамі, аграномамі, памалёгамі, сэлекцыянэрамі і інш. Ува ўсіх гэтых выпадках розныя ня толькі групы аб'ектаў, якія выклікаюць зацікаўленасьць у назіраньні, але шмат у чым розьняцца і тыя мэты, якія ставяцца такімі назіраньнямі, а таксама і тыя мэтады, якімі пры гэтым карыстаюцца. Зразумела, што і праграмы назіраньняў таксама павінны быць у розных выпадках рознымі.

Не зважаючы на гэта, не зважаючы на вышэйпаказанае вялікае навуковае і практычнае значэньне фэналягічных назіраньняў, не зважаючы ўрэшце, на іх распаўсюджанасьць,—у нас да гэтага часу няма ні плянавай арганізацыі фэналягічных назіраньняў, ні распрацаванай мэтодыкі іх, ні даволі спэцыялізаваных праграм для гэтых назіраньняў. Да гэтага часу яшчэ ў нас фігуруюць праграмы і справаздачы агульна-фэналягічнага характару, якіх зусім даволі для простага, часам нават аматарскага азнаямленьня з жыцьцём прыроды, але якіх не даволі для строга навуковай іх апрацоўкі, асабліва для апрацоўкі з спэцыяльнымі мэтамі.

Гэтымі абставінамі тлумачыцца той факт, што амаль кожны арганізатар фэналягічных назіраньняў мімаволі пачынае сваю працу так, як быццам да яго фэналёгія нічога або амаль нічога ня выпрацавала такога, каб ён мог выкарыстаць. Кожны нанова ўкладае праграму назіраньняў, вядзе па ёй працу і друкуе справаздачу, даныя якой вельмі цяжка параўняць са справаздачай іншага працаўніка фэналёгіі, які праводзіў назіраньні адначасна з першым, або ў іншым месцы або над іншымі відамі. Гэтым-жа трэба вытлумачыць і той факт, што фэналёг-пачынальнік часта бывае недарадным, робіць вялікія памылкі і або адзначае ў сваіх дзеньніках толькі тое, што рэзка кідаецца ў вочы кожнаму і ня выклікае вялікай зацікаўленасьці, або, наадварот, награмаджаецца дэталямі сваей праграмы і featнастайнасьцю зьяў у прыродзе настолькі, што не даводзіць сваю працу да канца.

Уся злучнасьць зьвестак аб тых фэналягічных назіраньнях, якія да гэтага часу праводзіліся, кажа за тое, што т. зв. „агульна-фэналягічныя назіраньні“, якія рэгіструюць падрад усе, што сустракаюцца на шляху назіральніка, зьявы прыроды, бяз строга прадуманай і папярэдня распрацаванай дэтальнай праграмы, у сучасны момант нікога ня могуць задаволіць. Фэналёгія, створаная Кетле і Фрытшэм, якая лічыцца часткай мэтэаралёгіі, павінна аддзяліцца ад апошняй і распрацоўваць свае мэтады і свае праграмы, дапасаваныя да попыту такіх прыкладных навук, як аграномія, лесаводзтва, памалёгія, сэлекцыя, прыкладная батаніка, прыкладная заалёгія і г. д. Фэналягічныя назіраньні павінны праводзіцца толькі ў абавязковай сувязі з мэтэаралягічнымі, але мэтодыка іх і праграмы павінны распрацоўвацца кожнай з вышэйпаказаных навук самастойна, асобна для сябе, дапасавана да сваіх патрэб. Фэналёгія павінна дыфэрэнцыравацца і адпаведнымі сваімі часткамі зьліцца з тымі дысцыплінамі, якія адчуваюць у ёй патрэбу.

З гэтага пункту погляду ў сучасны момант мы можам гаварыць аб *лесаводна-фэналягічных* або, яшчэ больш агульна, аб *леса-фэналягічных назіраньнях*,

## II.

Леса-фэналягічныя назіраньні паводле свайго зьместу падзяляюцца на 3 групы: 1) *фіта-фэналягічныя,* 2) *заафэналягічныя* і 3) *фэналягічныя назіраньні лесагаспадарчага характару.*

Першыя выяўляюцца ў рэгістраваньні часу наступленьня пэўных фаз разьвіцьця і жыцьця расьлін, у даным выпадку пераважна дрэўных і куставых, а з травяністых толькі тых, якія маюць істотнае значэньне ў жывым глебавым акрыцьці пад дрэвастанамі. Другія (энтама-фэналягічныя, маммаліа-фэналягічныя, орніта-фэналягічныя)—рэгіструюць істотныя зьявы з жыцьця жывёл, якія засяляюць лес. Спаміж гэтай групы назіраньняў асабліва важнае значэньне для лясной гаспадаркі маюць назіраньні над цыклямі разьвіцьця шкодных для лесу шасьціножак. Трэцяя група абымае сабой назіраньні, напрыклад, над працягласьцю пэрыяду ўсталенай і надзейнай зімовай саннай дарогі, найлепшага пэрыяду лесапрацовак, часу цяжкага для лесазагатовак (напр., з прычыны вельмі глыбокага сьнегу), часу пачатку сплаву і г. д. Сюды-ж трэба аднесьці і запісы аб часе, калі нельга дастаць рабочых для работ у лесе напр., з прычыны пачатку ў сялян сенакосу, жніва і г. д.

Першую групу, г. зн. *леса-фіта-фэналягічныя назіраньньні* з мэтадалягічнага, праграмнага і тэхнічнага боку выгадна падзяліць на 3 роды назіраньняў паводле аб'екту дасьледваньня: 1) *фэналягічныя назіраньні над дрэўнымі і куставымі відамі* (*дэндра-фэналягічныя*), *2) Назіраньні над тымі відамі травяністай расьліннасьці, якія маюць тое ці іншае значэньне ў жывым глебавым акрыцьці пад лесам ці на лесасеках* (*гэрба-фэналягічныя назіраньні*) *і* 3) *Назіраньні над фазамі разьвіцьця грыбоў, галоўным чынам над тымі з іх, якія выклікаюць хваробу дрэва ў лесе* (*міко-фэналягічныя назіраньні*).

Група *заа-фэналягічных назіраньняў у лесе* складаецца ў сваю чаргу з 3-х родаў назіраньняў: 1) *энтама-фэналягічных* (над ляснымі шасьціножкамі) 2) *орніта-фэналягічных* (над ляснымі птушкамі) і 3) *маммалія-фэналягічных* (над сысунамі ў лесе). Назіраньні другога і трэцяга віду пажадана праводзіць у дасьледчых лясьніцтвах і ў лясных заказьніках у першую чаргу над тымі, птушкамі і сысунамі, якія выклікаюць ці паляўнічую, ці лесаводную зацікаўленасьць.

*Леса-фэналягічныя назіраньні над дрэўнымі і куставымі відамі* зьяўляюцца найбольш пашыранымі назіраньнямі пры лясных дасьледчых установах. Паводле сваіх заданьняў і характару аб'ектаў яны могуць быць даволі align рознастайны. Дзеля выпрацоўкі нармальных праграм, дзеля разгляду тых умоў, якія павінны захоўвацца пры выбары аб'ектаў для назіраньня і з мэтай распрацоўкі мэтодыкі як правядзеньня назіраньняў, так і апрацоўкі матар'ялу — можна клясыфікаваць гэты род назіраньняў на наступныя 5 відаў назіраньняў:

1) *Назіраньні над асобнымі індывідуумамі дрэўных і куставы відаў.*

2) *Назіраньні над дрэвастанамі.*

3) *Назіраньні ў лясным гадавальніку над пасадачным матар'ялам, які ўзгадоўваецца.*

4) *Назіраньні паглыбленай і звужанай спэцыялізацыі* (напр., над аднэй толькі фазай жыцьця ці разьвіцьця дрэўнага віду, але затое больш дэтальнае вывучэньне гэтай фазы, чымся гэта робіцца пры звычайных фэналягічных назіраньнях: апад насеньня, дасьпяваньне пладоў і насеньня і г. д.).

5) *Фіта-фэна-мэтрычныя назіраньні.* Да гэтага віду назіраньняў

мы адносім фэналягічныя назіраньні, зьвязаныя з пэрыядычнымі памерамі таго ці іншага органу жывой расьліны ў працягу вэгетацыйнага часу.

Суадносіны паміж групамі, родамі і відамі леса-фэналягічных назіраньняў можна ўявіць сабе ў выглядзе ніжэй-паданай схэмы клясыфікацыі леса-фэналягічных назіраньняў.

Як відаць з гэтай схэмы клясыфікацыі, мы маем 10 відаў леса-фэналягічных назіраньняў. Лясныя дасьледчыя ўстановы павінны мець для кожнага з гэтых відаў асобныя праграмы і інструкцыі для выкананьня гэтых праграм.

Скласьці адну агульную праграму для большасьці відаў леса-фэналягічных назіраньняў, такую, каб яе ўжывалі абсалютна на ўсіх лясных дасьледчых установах Саюзу ССР, — вельмі трудна з прычыны вельмі вялікай тэрыторыі Саюзу і вельмі рознастайных лесарасьлінных умоў. Даволі параўняць у гэтых адносінах, напрыклад; Уральскую вобласьць і Крым, Беларусь і Далёкі Ўсход, лясы поўначы і лясы Туркестану. Перш за ўсё розьняцца тыя аб'екты назіраньняў, якія маюць у кожным асобным краі асноўнае лесаводнае і лесагаспадарчае значэньнэ. А вывучэньне якраз такіх аб'ектаў і мае найбольшае мясцовае значэньне.

Аднак ісьці па шляху ўкладаньня толькі мясцовых праграм і інструкцый было-б зусім нерацыянальна. Сыстэматычна сабраны ў працягу шмат гадоў фэналягічны матар'ял, калі ён адзначаецца навуковай верагоднасьцю і сабраны ў запісы, выгодныя для навуковай апрацоўкі, мае ня толькі мясцовае значэньне, але і вялізарнае значэньне ў маштабе, які выходзіць нават за межы самай вялікай па тэрыторыі аднэй дзяржавы.

Дзеля гэтага найбольш было-б правільна для леса-фэналягічных праграм і інструкцый распрацаваць такія агульныя палажэньні і прынцыпы, якія-б ужываліся і былі-б абавязковымі для леса-фэналёгаў усіх краін і якія, як патрэбны аб'яднальны грунт, увайшлі-б ува ўсе краёвыя і мясцовыя, больш дэталізаваныя праграмы і інструкцыі. Без дэталізаваных і спэцыялізаваных мясцовых (краёвых) праграм і інструкцый лясная дасьледчая справа таксама абыйсьціся ня можа.

Для ляснoй дасьледчай справы цікавы, зразумела, свае, спэцыяльныя, г. зн. *леса-фэналягічныя* назіраньні, свае інструкцыі і праграмы, свае аб'екты назіраньня. Але пры распрацоўцы „сваіх“ праграм і інструкцый абавязкова трэба захоўваць сувязь з тымі прынцыпамі, праграмамі і інструкцыямі, якія ўважаюцца агульна прызнанымі для фэналягічных назіраньняў не спэцыяльнага, а агульнага характару і якія прыняты кампэтэнтнымі арганізацыямі для Саюзу ССР. (напр., праграма, выпрацаваная фэналягічнай камісіяй пры „Обществе Любителей Мироведения“) і для ўсіх дзяржаваў (Міжнародная праграма фэналягічных назіраньняў). Гэту сувязь трэба падтрымаць перш за ўсё далучэньнем да нашых спэцыяльных праграм тых аб'ектаў назіраньня, якія, хоць і не выклікаюць лесагаспадарчай і леса-дасьледчай зацікаўленасьці, але заўсёды фігуруюць у праграмах агульна-фэналягічных назіраньняў. Напрыклад: зацьвітаньнь мала цікавых для лесавода Tussilago farfara, Galanthus nivalis (там, гдзе ён знаходзіцца), Ribes rubrum, Syringa vulgaris, Cáltha palustris, Hedera helix (там, ідзе ён ёсьць), паяўленьне гракоў, шпакоў, вясковай ластаўкі, першае кукаваньне зязюлькі, першая песьня салаўя, паяўленьне пчол на кветках і інш. Па-другое, паказаная сувязь падтрымліваецца і тады, калі мясцовы лесафэналёг не абмяжуецца назіраньнем толькі галоўных прадстаўнікоў мясцовых відаў дрэў і кустоў, але будзе запісваць хаця-б некаторыя фазы разьвіцьця (асабліва важна: раскрываньне пучкоў, зацьвітаньне

# Клясыфікацыя лесафэналягічных назіраньняў



і агульная зьмена афарбоўкі лісьцяў) будзе запісваць і для тых відаў, якія рэдка сустракаюцца ў данай мясцовасьці, і якія маюць суцэльнае (ці натуральнае) пашырэньне або ў больш паўднёвай, або ў больш паўночнай краіне.

Усё гэта дасьць магчымасьць выкарыстаць апублікаваны фэналягічны матар'ял лясных дасьледчых станцый ня толькі ў спэцыяльных лесаводных і леса-гаспадарчых адносінах але і для больш агульных фэналягічных апрацовак агульна-фэналягічных арганізацый.

## III.

Спыняючыся ў далейшым на групе леса-фіта-фэналягічных назіраньняў і толькі на назіраньнях над дрэвамі і кустамі, трэба адзначыць, па-першае, што правільная арганізацыя іх пры ўсякім заданьні, але пры больш-менш шырокім маштабе, прадстаўляе значныя труднасьці і, падругое, што ад выканаўцы гэтых назіраньняў вымагаецца добрая падрыхтоўка.

Што апошнія два палажэньні правільныя—можна бачыць хаця-б з наступнага факту.—У Баварыі на працягу 12 год у 50—60 лясьніцтвах праводзілі фэналягічная назіраньні пад кіраўніцтвам прафэсара Эбэрмайера паводле уложанай ім інструкцыі[1]) 1868 году. Пры апрацоўцы дастаўленага з лясьніцтваў на працягу 12 год матар'ялу аказалася, што, дзякуючы памылкам і няпоўнаму выкананьню назіральнікамі правіл інструкцыі, добрую палову матар'ялу нельга было скарыстаць. Каб уратаваць і дапоўніць надзейную палову, прышлося пазьней арганізаваць новыя бесьперапынныя назіраньні ў працягу новых 10—12 год. Толькі пасьля гэтага можна было зрабіць навуковую апрацоўку матар'ялу і то ня зусім поўную і, паводле слоў К. Круга, не пазбаўленую ад агаворак[2]).

На труднасьці сваячаснай і вольнай ад памылак рэгістрацыі ўсіх фаз разьвіцьця дрэўных парод у расейскай практыцы паказвае прафэсар В. П. Весялоўскі ў сваей справаздачы аб фэналягічных назіраньнях у Бранскім дасьледчым лясьніцтве за 1910 г.[3]) і прафэсар Н. П. Кабранаў у такой-жа справаздачы па Марыупальскім дасьледчым лясьніцтве за 1912 год[4]).

Больш-менш шырокае правядзеньне лесаводна-фэналягічных назіраньняў вымагае як ад кіраўніка, так і ад выканаўцы-назіральніка траты даволі значнага часу і вялікай увагі.

Як і пры ўсякай дасьледчай працы, перш, чым прыступіць, хаця-б у самым скромным разьмеры, да лесаводна-фэналягічных назіраньняў,—трэба дакладна азначыць мэту і прызначэньне назіраньняў. Гэтым выяўляецца характар, маштаб і мэтад працы. Далей трэба з вялікай увагай выбраць аб'екты назіраньня. Пасьля трэба выпрацаваць праграму назіраньняў і паводле апошняй падрыхтаваць фармуляры (блянкі) для запісаў.

Мэтай лесаводных фіта-фэналягічных назіраньняў можа быць: 1) вывучэньне біалягічных уласьцівасьцяй асобных відаў дрэўнай расьліннасьці, 2) вувучэньне жыцьця дрэвастанаў, 3) жаданьне дэтальна і дакладна высьветліць толькі такія мамэнты ў жыцьці віду ці дрэвастану, якія зьяўляюцца асабліва важнымі для лесаводнай тэхнікі (напрыкад, пачатак і канец

---

[1]) Ganghofer, "Das forstliche Versuchswesen". II Band. S. 45.

[2]) Karl Crug. „Die phaenologischen Elemente für Fichte, Tanne, Fohre, Lärche, Buche, Stiel—und Traubeneiche". Allgemeine Forst—unb Jagdzeitung. Juni 1925. S. 255, 256.

[3]) Труды по лесному опытному делу в России Выпуск XXIX. 1911. стр. 22.

[4]) Труды по лесному опытному делу в России. Выпуск XLVIII. 1913. стр. 129.

дасьпяваньня, час ападу насеньня на зямлю і інш.), 4) вывучэньне ўплыву на жыцьцё віду, адмены ці расы, палажэньня (вышыні над узроўнем мора, напрамку схілу), глебы-грунту, клімату, рэльефу і іншых умоў месца вырастаньня, 5) вывучэньне ўплыву таго ці іншага ўмешваньня чалавека ў жыцьцё лесу. Урэшце фэналягічныя назіраньні ў той ці іншай ступені часта служаць мэтадам пры спэцыяльна лесаводных дасьледваньнях.

Аб'ектамі назіраньняў служаць або 1) асобныя экзэмпляры дрэваў і кустоў, або 2) дрэвастаны ў цэлым.

Праграма назіраньняў, тая ці іншая яе дэталізацыя, мэтодыка працы і ўмовы, якія павінны быць захаваны пры выбары аб'ектаў назіраньня, залежаць ад тэй мэты, дзеля якой назіраньні арганізуюцца.

Дэтальны разгляд праграм і ўмоў выбару аб'ектаў для галоўнейшых гатункаў лесаводна-фіта-фэналягічных назіраньняў, а таксама некаторыя мэтадалягічныя паказаньні мы падамо ніжэй. А агульнымі вымаганьнямі, якія мы павінны ставіць у адносінах да кожнай праграмы фэналягічных назіраньняў, трэба лічыць наступнае: Па-першае, праграма не павінна быць і надмерна вялізнай. Яна павінна зьмяшчаць у сабе толькі тыя фазы і тыя моманты, якія лёгка ўлаўліваюцца і могуць быць зафіксаваны дакладнай датай або лічбавай велічынёй іншага парадку. Па-другое, яна павінна пэўна і дакладна адпавядаць пастаўленаму заданьню, а ня быць расьцяглай і туманнай. Па-трэцяе, дзеля прадукцыйнасьці працы вельмі карысна адлучэньне ў самастойныя дасьледчыя працы з сваімі асобнымі праграмамі тых назіраньняў, якія зьвязаны з вымерамі, ад тых, якія вядуцца на вока. У мэтазгоднасьці апошняга мяне пераконвае мая асабістая 10-цілетняя практыка па правядзеньні фэналягічных назіраньняў першага і другога тыпу.

## IV

## Назіраньне над асобнымі індывідуумамі дрэў і кустоў.

Назіраньні над асобнымі індывідуумамі дрэў і кустоў да гэтага часу зьяўляліся амаль адзіным відам назіраньняў над дрэўнай расьліннасьцю. Гэты род назіраньняў абавязковы пры вывучэньні біялягічных уласьцівасьцяй віду і пры вывучэньні сувязі паміж сэзоннымі зьявамі ў жыцьці віду і мэтэаралягічнымі фактарамі. Спаміж праведзеных і ўжо апублікаваных назіраньняў гэтага роду мы маем вельмі цэнны фэналягічны матар'ял. Да гэтых назіраньняў трэба аднесьці фэналягічныя назіраньні лясных дасьледчых станцый у Нямеччыне, пачатыя Эбэрмайерам з 1869 году. У нас найбольш доўгімі і найбольш абшырнымі такога роду назіраньнямі зьяўляюцца назіраньні прафэсара Д. Н. Кайгарадава, які памёр у 1923 годзе, далей—назіраньні прафэсара В. А. Поггенполя і нашых дасьледчых лясьніцтваў. Усе яны надзвычайна цэнны, як фэналягічны матар'ял, але з пункту погляду спэцыяльна лесаводнай фіта-фэналёгіі маюць недахопы, якія перашкаджаюць у іх апрацоўцы і ў паглыбленым скарыстаньні. Назіраньні праф. Кайгарадава, наколькі мне вядома, яшчэ ня ўсе апублікаваны. Але яны датычацца толькі зацьвітаньня дрэўных і кустовых парод. У XXXI выпуску „Известий Петроградского Лесного Института“ (1917 г.) апублікавана надзвычайна цікавая табліца праф. Кайгарадава: „Зацветанне древесных и кустарных пород в парке Петр. Лесного Института“ (паводле старога стылю) за 37 год (з 1880 да 1916 г.) для 35 відаў. На жаль, мы тут не знаходзім такіх важных для нашай

лясной гаспадаркі парод, як елка і бяроза, хоць і сустракаем Azalea pontica L. і Myrica gale L. Зусім няма зьвестак аб умовах, у якіх гадаваліся тыя экзэмпляры, якія падлягалі назіраньню (ступень заценснасьці, узрост). Назіраньні праф. Поггенполя, якія зьяўляюцца выключнымі па сваей бязумоўнай верагоднасьці, публікаваліся асобнымі артыкуламі да рэволюцыі ў расейскім і ў нямецкім друку. Яны не зьяўляюцца выключна лесаводнымі, бо галоўная ўвага дасьледчыка, прынамсі ў першых апублікаваных працах, была зьвернута на сельска-гаспадарчыя расьліны. У інтарэсах як лесаводнай, так і агранамічнай фіта-фэналёгіі, трэба горача пажадаць, каб прафэсару Поггенполю ўдалося як найхутчэй надрукаваць выкананыя апошнія апрацоўкі сваіх надзвычайна дакладных і вельмі мчогалетніх назіраньняў.

Фіта-фэналягічныя назіраньні дасьледчых лясьніцтваў зьяўляюцца чыста лесаводнымі, якія праводзіліся дасьледчымі ўстановамі, а не ў парадку індывідульнай зацікаўленасьці і асабістай пабочнай працы, і таму можна было-б чакаць ад іх большай плянавасьці і пэўнай праграмнай вытрыманасьці. Аднак гэтага няма. Ні ў самым пачатку арганізацыі фэналягічных назіраньняў па лясьніцтвах, ні ў бліжэйшыя да гэта пачатку гады ня было выпрацавана агульных для дасьледчых лясьніцтваў праграм гэтых назіраньняў і інструкцый. У выніку гэтага кожнае лясьніцтва вяло назіраньні паводле сваей асобнай праграмы. Справаздачы аб фэналягічных назіраньнях адно лясьніцтва друкуе ў выглядзе дзеньніка, другое—у выглядзе табліц, трэцяе—ужывае мяшаны спосаб. Атрымаўся матар'ял, які трудна ўсвоіць, мала прыгодны для далейшай распрацоўкі. Працаўнікі дасьледчай справы з кожным годам стараліся выправіць ненармальнасьць такога становішча, і ў выніку прац галоўным чынам праф. В. І. Іванова і праф. Н. П. Кабранава ў апошнія перад вайной гады ў некаторых дасьледчых лясьніцтвах фіта-фэналягічныя назіраньні праводзіліся ўжо паводле падрабязна і дасканала распрацаваных праграм. У далейшым усё-ж трэба гэтыя праграмы пераглядзець і выпрацаваць на іх аснове адну нармальную праграму, даступную і, як мінімум, абавязковую для ўсіх нашых дасьледчых лясьніцтваў.

Рэгулярныя справаздачы фэналягічных назіраньняў дасьледчых лясьніцтваў друкаваліся, пачынаючы з 1909 году, у выпусках „Трудов по Лесному Опытному Делу“, прысьвечаных агляду пагоды за даны год[1]).

Пераходзячы да тых умоў, якія павінны захоўвацца пры выбары аб'ектаў для назіраньня, насамперш трэба зьвярнуць увагу на тое, што пры больш-менш падрабязнай праграме тыя экзэмпляры, якія падлягаюць назіраньню, павінны быць з'сярodкаваны на невялікай плошчы. У прыродным лесе колькасьць парод пры невялікім вучастку, зразумела, будзе невялікая. Усё-ж такі важна ў даным выпадку захапіць назіраньнямі галоўныя леса-творчыя ў даным месцы пароды. На іх павінна быць зьвернута галоўная ўвага. Гавару аб гэтым таму, што часта фэналягічныя назіраньні праводзяць над тым, што больш блізка, больш даступна, больш яскрава кідаецца ў вочы, а не над тымі дрэвамі, якія складаюць аснову нашай лясной гаспадаркі. У справаздачах і фэналягічных зводках заўсёды фігуруе традыцыйны бэз, а запісы аб хвоі, елцы, дубе, асіне і інш. часта вызначаюцца вялікай непаўнатой, а часам і зусім іх няма. Калі ў назіральніка часу мала, дык лепш вызначыць невялікую колькасьць дрэваў, але, па-першае, дрэваў найбольш пашыраных у данай

[1]) Выпускі: XXII за 1909 г. XXIX за 1910 г., XXXIX за 1911 г., XLVIII за 1912 г. LI за 1913 г., LVI за 1914 г.

мясцовасьці лясных парод, а па-другое, імкнуцца да таго, каб запісы адносна гэтай невялікай колькасьці дрэваў былі бязумоўна дакладнымі.

Фіта-фэналягічныя назіраньні над вялікай колькасьцю дрэваў і кустоў можна праводзіць толькі ў дэндралягічных садох.

Для назіраньня трэба ўзяць па 2 экзэмпляры кожнага віду, а лепш—па 3. Вядома, гэтыя 2—3 экзэмпляры павінны быць аднолькавага веку і расьці ў аднолькавых ўмовах. Аднаго экзэмпляру мала, бо ў працягу вэгетацыйнага пэрыяду ён можа пацярпець ад розных прычын, захварэць, аказацца ў якіх-небудзь адносінах нятыповым, выключным, і ў такім выпадку магчыма прыдзецца ў канцы працы, выкінуць яго з ліку назіральных аб'ектаў.

Век назіральных экзэмпляраў усіх парод павінен быць прыблізна аднолькавым. Наступленьне фаз разьвіцьця розных відаў дрэўнай расьліннасьці можна параўновываць толькі ў тым выпадку, калі назіраліся экзэмпляры, якія не яскрава розьніліся адзін ад другога ў веку. У маладым веку кожная дрэўная парода адзначаецца большай жыцьцячыннасьцю, чымся ў сярэднім ці старым веку. Маладыя дрэўцы ўвесну раней распускаюць лісьце, чымся старыя, а ўвосень ськідаюць іх пазьней. Напрыклад, ў Дэндралягічным Садзе Беларускай Акадэміі С. Г. (Горы-Горкі) у 1925 г. на саракалетнем клёне востралісным масавы лістапад наступіў 12 кастрычніка а на двухлетнем толькі 25 кастрычніка. Пры выбары веку трэба аддаць перавагу дрэвам з сярэднім векам. На старых экзэмплярах і маладых можна спыніцца толькі ў надзвычайным выпадку або пры назіраньнях з асабліва спэцыяльнымі заданьнямі.

Таксама павінна быць аднолькавым паходжаньне (насеннае, парасьцевае, ад зразкоў) усіх экзэмпляраў тых парод, якія падлягаюць назіраньню.

Неабходна аднолькавасьць умоў рэльефу, дзе разьмешчаны дрэвы і кусты, выбраныя для назіраньня, і аднолькавасьць ступені асьветленьня кожнага з іх.

Глеба-грунтовыя ўмовы таксама пажадана мець аднолькавымі і, у кожным выпадку, калі можна дапусьціць некаторую розьніцу, дык толькі тыповую для нармальнага ўзгадаваньня асобна кожнай дрэўнай пароды.

Недапушчальна правядзеньне фэналягічных назіраньняў над дрэвамі і кустамі, якія растуць пры рэзка штучных абставінах, напрыклад: каля сьцен будынкаў, на вуліцах гораду, пры дарогах, у жываплоце, які падстрыгаецца і г. д.

У аднапнёвых відах трэба весьці назіраньні асобна над мужчынскім і жаночым экзэмплярам.

Калі назіраньні над асобнымі экзэмплярамі дрэўнай расьліннасьці праводзяцца ў лесе і экзэмпляры вызначаюцца ў дрэвастанах, дык яны павінны выбірацца з дрэваў ІІ-й клясы Крафта, у дрэвастанах лепшых банітэтаў, сярэдняй дабрыні і сярэдняй паўнаты.

Ува ўсіх выпадках трэба выбіраць экзэмпляры зусім здаровыя і нармальна разьвітыя.

Калі назіраюцца штучна разьведзеныя дрэвы і кусты, дык вельмі важна ведаць, адкуль было атрымана для разьвядзеньня насеньне ці саджанцы.

Выбраныя, згодна ўсіх вышэйпаказаных умоў, экзэмпляры для назіраньняў найлепш занумараваць алейнай фарбай і пад адпаведнымі нумарамі трэба занесьці ў сшытак для запісу назіраньняў. Павінна быць зроблена апісаньне з паказаньнем для кожнага занумараванага экзэм-

пляраў месца знаходжаньня, характару глебы, умоў асьвятленьня, веку, стану здароўя, клясы паводле Крафта, калі экзэмпляр выбраны ў дрэвастане і г. д. Назіраньні праводзяцца і запісы робяцца ў працягу ўсяго вэгетацыйнага пэрыяду па кожным пэўным экзэмпляры асобна. Нельга адну фазу разьвіцьця (напр., паяўленьне лісьцяў) назіраць на адным дрэве, а другую (дапусьцім, цьвіценьне ці дасьпяваньне насеньня) на другім. Але пры гэтым назіральнік сочыць і за суседнім экзэмплярам данага віду і правярае, ці зьяўляецца занумараваны экзэмпляр тыповым сярэднім адносна наступленьня фаз разьвіцьця,

Вынікі назіраньняў аднаго году ўжо маюць практычнае значэньне, але каб на аснове фэналягічных назіраньняў зрабіць якіясь строга навуковыя вывады,—аднаго году мала. Мэтэаралягічныя фактары некаторых частак вэгетацыйнага пэрыяду ў асобныя гады часам так рэзка розьняцца ад сярэдніх велічынь для данай мясцовасьці, што прыкметна ўплываюць больш-менш ненармальна і на разьвіцьцё расьліннасьці (засуха, выключны збытак дажджоў, выключна сьцюдзёная вясна і інш.). Дзеля гэтага выводзіць сярэднія фэналягічныя вялічыні для пэўнага расьліннага віду і параўноўваць гэтыя сярэднія вялічыні з такімі-ж іншых відаў, або іншых месц можна толькі тады, калі існуе матар'ял фэналягічных назіраньняў, сабраны ў працягу шмата годоў. Дзеля дакладнай параўнальнасьці часу наступленьня фэналягічных фаз і мэтэаралягічных элемэнтаў данага месца-фэналягічныя назіраньні, якія паўтараюцца з году ў год, павінны праводзіцца над аднымі і тымі самымі экзэмплярамі.

Дзеля чыста практычных выгад карысна на назіральным вучастку вызначыць пэўны маршрут для рэгулярнага наведваньня дрэў і кустоў, якія падлягаюць назіраньню. У сшытку для запісаў карысна ўсе занумараваныя экзэмпляры разьмясьціць у тым парадку, у якім яны ідуць усьлед па гэтым маршруце. Гэта ў значнай ступені аблягчае назіраньне, дае вялікую эканомію ў патрэбным для назіраньня часе і гарантуе ад пропускаў назіральных аб'ектаў.

Наступленьне пэўных фаз разьвіцьця расьлін звычайна пры пэўным навыку і блізкім знаёмстве з марфалёгіяй і фізыалёгіяй росту частак данага расьліннага віду лёгка ўлаўліваецца вокам, і дзеля гэтага фэналягічныя назіраньні можна весьці бяз усякіх прыладаў. Але пры назіраньнях над дрэвамі значнай вышыні выгадна, а часта і неабходна карыстацца біноклем, або падзорнай трубой, ужываць кручок на палцы для прыгінаньня галін ці сучкарэз у выглядзе ножніц, насаджаных на шост, для зразаньня галін. Выгадна карыстацца зробленым спэцыяльна для гэтай мэты прыборчыкам, які складаецца з маленькіх ножніц-сучкарэза і невялікага мэталёвага кручка, насаджаных на портатыўны стрыжань; гэты стрыжань у сваю чаргу складаецца з 3-х пустых медных трубак, якія лёгка рассоўваюцца пры карыстаньні і ўсоўваюцца адна ў другую для пераносу ў выглядзе кія пры значных пераходах ад аднаго дрэва да другога або пры звароце да дому пасьля назіраньняў. Ня варта злоўжываць з рэзаньнем парасткаў і галінак з назіральнага экзэмпляру і толькі ў надзвычайным выпадку можна гэта рабіць. Пры назіраньнях над высокімі кустамі і сярэдняй вышыні дрэвамі аказваюцца выгаднымі складаныя пераносныя драбіны лёгкай канструкцыі. Пры назіраньні некаторых фэналягічных элемэнтаў на высокіх дрэвах (напрыклад цьвіценьне елкі, якая мае кветкі апасьля шышкі амаль заўсёды толькі ў верхняй трэці кроны) вельмі прыгоднымі зьяўляюцца вышкі, хаця-б самай простай канструкцыі, якія стаяць поруч з выбранымі для назіраньняў экзэмплярамі дрэў.

Спаміж іншых пытаньняў мэтодыкі фэналягічных назіраньняў варта разгледзець пытаньне аб тым, у якой частцы кроны трэба весьці назіраньні, і як часта трэба наведваць выбраныя для назіраньня дрэвы.

З літаратуры вядома, што некаторыя фазы жыцьця дрэва (напрыклад, лістапад) наступаюць раней у верхняй частцы кароны, пазьней у ніжняй. Бліжэйшае азнаямленьне з гэтай зьявай над вялікаю колькасьцю відаў і над індывідуумамі рознага веку аднаго і таго самага віду прывяло нас да такіх высноўкаў, што гэта законамернасьць далёка больш складаная, чымся перш здавалася. Напрыклад, шмат на якіх дрэўных пародах у раньнім веку (1 і 2-летніх сеянцаў) лістапад, наадварот, пачынаецца зьнізу і паступова падымаецца да верхавінкі ствоіка. На некаторых пародах у веку 20—25 год лістапад пачынаецца амаль адначасна і зьнізу і зьверху, пасоўваючыся да сярэдзіны кроны. Пытаньне наступленьня фаз разьвіцьця ў залежнасьці ад вэртыкальнай часткі кроны вымагае вывучэньня і статыстычнага і біалягічнага на матар'яле рознага веку і рознай ступені зацененасьці. Практычна-ж можна прыняць за правіла: для параўнальнасьці фэналягічных даных даваць перавагу назіраньням над сярэдняй часткай кроны.

Ёсьць паказаньні (напр., Энглера), што ў зацененай частцы кроны пучкі раскрываюцца і лісьцё распускаецца крыху раней, чымся ў адкрытай і асьветленай частцы. На гэтай аснове некаторыя аўтары (Р. А. Тітоў [1]) і некаторыя іншыя) раюць праводзіць назіраньні асобна для паўднёвага боку кроны, асобна для паўночнага, усходняга і г. д. На аснове нашай практыкі мы гэтага раіць ня можам, бо гэта лішне ўскладняе працу і не выклікаецца ніякай патрэбай. Справа ў тым, што запраўды пры рознай зацененасьці і асьветленасьці наступленьне такіх фаз, як раскрываньне пучкоў, распусканьне лісьцяў, пачатак цьвіценьня і інш. у розных частках кроны бывае розначаснае. З пункту погляду біалёгіі віду, асабліва біалёгіі дрэвастану, з пункту погляду значэньня мікраклімату ў жыцьці дрэвастанаў,—гэта пытаньне зьяўляецца вялікім і вельмі важным. Але яно падлягае вывучэньню шляхам спэцыяльна для гэтага арганізаваных назіраньняў і дасьледваньняў. А ўскладняць ім масавыя лесаводна-фітафэналягічныя назіраньні над значнай колькасьцю асобных экзэмпляраў дрэўнай расьліннасьці—нерацыянальна. Як ужо гаварылася, тут, наадварот, трэба імкнуцца да таго, каб выбраць экзэмпляры з аднолькавай ступеняй асьветленасьці і, па магчымасьці з аднолькавымі іншымі ўмовамі ўзгадаваньня. Кожны-ж асобны экзэмпляр павінен быць адкрытым з усіх бакоў як мага аднолькава. А ў гэтым выпадку розьніцца ў часе наступленьня фаз разьвіцьця на паўночнай чвэрці кроны, паўднёвай і г. д. практычна амаль няпрыкметна І ў такіх выпадках (з усіх бакоў роўнамернай адкрытасьці кроны) асобныя назіраньні па паземных частках кроны ня маюць значаньня. У няпэўных выпадках (на дрэўных відах, якія роўна распускаюцца, часам усё-ж такі прыкметна розьніца ў разьвіцьці паўднёвай і паўночнай часткі кроны) можна раіць весьці запісы для заходняй часткі кроны. Калі-ж пры ўсім жаданьні не ўдалося знайсьці дрэва або куста з роўнамерна асьветленай кронай і нехаця прышлося спыніцца на экзэмпляры, на якім частка кроны з яскрава рознай адкрытасьцю і зацененасьцю, дык у такім выпадку больш правільна будзе праводзіць назіраньні над адкрытай часткай кроны незалежна ад таго, да якой часткі сьвету яна зьвернута.

[1]) И. Титов, „Фенологические наблюдения, их производство и обработка по цифровой системе". М. 1913 г.

Калі назіраньнямі ахопліваецца значны лік відаў, дык заўсёды трапляюцца дрэвы і кусты, якія вельмі рана кратаюцца ў рост (напр., вярба, ляшчына, воўча ягада). У такіх выпадках пры скарочанай праграме назіраньня трэба пачынаць увесну, тады, калі сьнег яшчэ ляжыць у дрэвастанах і гайкох, а канчаць пасьля ападу лісьця на самых спозьненых у гэтых адносінах дрэвах або кустох. Калі-ж праграма ахоплівае і такія фазы, як апад насеньня, дык, папраўдзе кажучы, лесаводныя фіта-фэналягічныя назіраньні праводзяцца ў працягу круглага году, бо апад насеньня, напр., на хвоі і елцы, адбываецца і тады, калі ўвесну дрэвы крануліся ўжо ў рост. Інтэнсыўнасьць працы па назіраньнях, зразумела, у розны час неаднолькавая. З таго дня, як крануліся ў рост тыя віды, якія найраней распускаюцца і найраней цьвітуць, і прыблізна да часу дасьпяваньня насеньня лёмавых, выбраныя для назіраньня экзэмпляры трэба наведваць штодзенна. Асабліва гэта неабходна рабіць у працягу першай паловы гэтага пэрыяду, калі расьліннасьць надзвычайна буйна разьвіваецца пасьля зімовага адпачынку, калі літаральна кожны дзень прыносіць шмат чаго новага, асабліва пасьля цёплага дажджу, у яркія сонцам дні і пасьля цёплай ночы. На працягу другой паловы данага пэрыяду дапушчальна наведваньне назіральных дрэваў і кустоў праз дзень. Пасьля гэтага для рэгістратара звычайных фэналягічных назіраньняў пачынаецца зацішша. Аб'екты назіраньня можна наведваць дзён праз пяць. З пачаткам дасьпяваньня насеньня бярозы і пладоў кустоў (бружменю, бузіны, воўчай ягады,. жоўтай акацыі і інш.) увага назіральніка ўзмацняецца, неўзабаве зноў паяўляецца патрэба ў назіраньнях праз дзень, а ўвосень з часу дасьпяваньня пладоў клёну звычайнага. пачатку зьмены на некаторых відах колеру лісьцяў да поўнага канца лістападу на усіх выбраных для назіраньня экзэмплярах—зноў трэба весьці назіраньні штодзенна. Падрыхтоўка да зімовага пакою ў дрэвах праходзіць таксама энэргічна, як і разьвіцьцё пасьля веснавога прабуджэньня.

Нельга абыйсьці моўчкі яшчэ аднэй драбніцы, якая часта мае істотнае значэньне ў справе верагоднасьці праведзеных назіраньняў. Кожнаму назіральніку трэба настойліва раіць ніколі і ні ў чым не спадзявацца на сваю памяць, а ўсе назіраньні запісваць у кніжку не адходзячы ад аб'екту назіраньня.

Праграма лесаводных фіта-фэналягічных назіраньняў можа быць поўнай і скарочанай. Поўная павінна зьмяшчаць у сабе ўсе тыя стадыі разьвіцьця, якія без вялікай труднасьці можна зафіксаваць дакладнай датай і якія маюць істотнае значэньне ў жыцьці віду, адмены ці расы. Некаторыя аўтары ўносяць у праграмы фэналягічных назіраньняў і такія моманты ў жыцьці дрэўных расьлін, якія трудна падлягаюць азначэньню або вызначэньне якіх зьвязана з пашкоджаньнем экзэмпляру, які назіраецца, напрыклад: пачатак руху соку, пачатак чыннасьці каранёвай сыстэмы. Такія пытаньні трэба выключаць з праграмы фіта-фэналягічных назіраньняў над паасобнымі экзэмплярамі дрэваў і кустоў, таму што тут асабліва важна высьцерагацца ўсялякіх пашкоджаньняў і ўсялякіх парушэньняў нармальнага разьвіцьця індывідуума, а таксама вельмі важна для вывучэньня біалёгіі віду праводзіць назіраньне ў працягу як мага больш доўгага раду год над адным і тым самым экзэмплярам, калі гэты экзэмпляр акажацца нармальным і тыповым.

Часам у праграме зьмяшчаюцца пытаньні, вырашэньне якіх патрабуе пэрыядычных ці, прынамсі, аднаразовых, вымераў таго ці іншага органу. Да такіх пытаньняў належаць: пачатак росту верхавіннага і бакавых парасткаў, канец іх росту, канец росту лісьцяў, велічыня гадавога

персьценя, даўжыня гадавога паростка. Пэрыядычныя вымеры паросткаў, лісьцяў і інш. на ўсіх аб'ектах назіраньня вельмі ускладняюць працу назіральніка, а вымер лісьцяў, у прыватнасьці, з мэтай вызначэньня заканчваньня іх росту на даным дрэве зьяўляецца вельмі трудным і з мэтадалягічнага і з практычнага боку. Таўшчыня гадавога персьценя і даўжыня гадавога паростка ў даным выпадку ня могуць быць скарыстачы пры распрацоўцы фэналягічнага матар'ялу, бо гэта можна зрабіць пры аналізе ствола з улікам прыросту праз кожны год. Для аналізу ствола заўсёды можна выбраць дрэва, якое ў працягу больш-менш доўгага раду гадоў знаходзілася ў нязьменных умовах росту. Дэтальны аналіз такога ствола (праз кожны год) дае магчымасьць улавіць, напр., залежнасьць бягучага прыросту ад некаторых мэтэаралягічных элемэнтаў. Сорак ці пяцьдзесят дрэваў розных відаў, выбраных для фэналягічных назіраньняў, хаця-б і з захаваньнем усіх вышэйпералічаных умоў выбару,—заўсёды будуць чым-небудзь розьніцца адно ад другога (у векам, былой калісь прыгнечанасьцю і інш.). Гэтыя розьніцы ня могуць сапсаваць параўнальнага матар'ялу фэналягічных назіраньняў па такіх фазах, як наступленьне цьвіценьня, дасьпяваньне пладоў, ападзеньне лісьцяў, але амаль ніколі не дадуць магчымасьці для ўсіх відаў назіральных аб'ектаў параўняць таўшчыню гадавых персьценяў, ці даўжыні гадавых паросткаў. Гэтыя меркаваньні, а таксама інтарэсы прадукцыйнасьці ў працы змушаюць выказацца за вылучэньне назіраньняў над ростам частак дрэва, якія вымагаюць пэрыядычных ці адначасовых вымераў, у асобныя дасьледчыя працы паводле спэцыяльна для іх складзеных праграм, як ужо гаварылася аб гэтым у III разьдзеле.

Пры немагчымасьці прызначыць для фэналягічных назіраньняў даволі часу—праводзяць іх па скарочанай праграме. Яна можа ахапіць толькі тыя галоўнейшыя моманты ў жыцьці дрэва, якія пры апрацоўцы звычайна зьвязваюць з адпаведнымі мэтэаралягічнымі элемэнтамі і якія маюць першараднае практычнае значэньне.

У цэснай сувязі з праграмамі назіраньняў стаіць пытаньне і аб спосабах рэгістрацыі фэналягічных назіраньняў.

Самым простым і найвыгаднейшым для далейшай апрацоўкі матар'ялу спосабам рэгістрацыі зьяўляецца запіс у ведамасьць з вэртыкальнымі і паземнымі графамі дат адпаведных пэўным фазам разьвіцьця дрэваў. У вэртыкальных графах разьмяшчаюцца назвы тых фаз, якія рэгіструюць, а ў паземных—радавая і відавая назва аб'екту назіраньня і яго нумар. Апрача такой ведамасьці бывае карысна весьці і невялікі дзёньнік-чарнавік, куды запісваюцца дадатковыя зьявы з жыцьця прыроды наогул і з жыцьця аб'ектаў назіраньня, у прыватнасьці, якія не ахопліваюцца ці не прадбачацца ў пытаньнях праграмы назіраньняў. Таму што фэналягічныя, запісы прыходзіцца рабіць і пад дажджом, дый наогул праз доўгі вэгетацыйны пэрыяд, сшытак з назіраньнямі парадкам знашываецца, а запісы могуць сьціраццa і робяцца неразборчывымі,—то карысна адначасна завесьці чыставую ведамасьць, якая захоўваецца ў памяшканьні і ў якую час-ад-часу трэба пераносіць вынікі назіраньняў. Такая ведамасьць і зьявіцца гатовай справаздачай па праведзеных назіраньнях. Матар'ял такой ведамасьці выгодны для ўсялякіх параўнаньняў, для ўсялякай далейшай апрацоўкі ў сувязі з апрацоўкай адпаведных мэтэаралягічных фактараў (узор ведамасьці фэналягічных назіраньняў паданы ніжэй).

Некаторыя фэналёгі робяць запісы сваіх назіраньняў толькі ў выглядзе дзеньніка і ў выглядзе дзеньніка падрыхтоўваюць і апублікоў-

ваюць свае справаздачы. Раіць гэта ні ў якім разе нельга. Матар'ял такіх фэналягічных дзеньнікаў па сваім зьмесьце і рэдакцыі атрымліваецца настолькі стракаты, настолькі перагружаны выпадковымі зьвесткамі, якія ня могуць быць навукова апрацаваны, і з такой колькасьцю пропускаў у зафіксаваньні асноўных назіральных фаз жыцьця выбраных аб'ектаў,— што асноўныя заданьні, дзеля якіх праводзіліся назіраньні, рызыкуюць застацца забытымі, а галоўныя пытаньні праграмы назіраньняў застаюцца без адказаў. Прыкладам такіх запісаў і справаздач могуць служыць назіраньні Гуртка Аматараў Прыродазнаўства пры былым Маскоўскім Сельска-Гаспадарчым Інстытуце. Справаздачы аб гэтых назіраньнях друкаваліся на працягу некалькіх год у часопісе „Лесопромышленный Вестник". У справаздачы за месяц верасень 1913 году, напрыклад, бачым[1]):

„23—IX. Сільны лістапад клёну, ясеню; тое самае было і ў наступны дзень.
24—IX. На дубовай алеі агульнае пажаўценьне лісьцяў.
25—IX. Масавы лістапад лёмавых. Бярозы на Маскоўскім шасэ ўсе жоўтыя. Ясені там-жа за суткі зусім агалелі. Звычайныя клёны таксама стаяць голыя. Пэрсыдзкі бэз, Syringa villosa. асыпаў да 50% сваіх лісьцяў, зусім зялёных.
26—IX. Кляновая алея зусім агалела" і г. д., і г. д.

Зьвестак падаецца шмат, але скарыстаць іх абсалютна нельга. Дату заканчэньня лістападу ясеню (толькі якога-ж ясеню?) вызначыць можна, але вызначыць час такога важнага фэналягічнага элемэнту, як напр., агульная зьмена афарбоўкі лісьцяў таго-ж самага ясеню, паводле даных усяго дзёньніка „Из жизни природы под Москвою"—нельга. А дзень наступленьня агульнай зьмены афарбоўкі лісьцяўа на індывідууме, які падлягае назіраньню, прынята лічыць канцом вэгетцыйнага пэрыяду для яго. Нельга вызначыць часу наступленьня галоўнейшых фаз і для ўсіх іншых дрэваў. „25—IX назіраўся масавы лістапад лёмавых" (якога віду лёмавых? С. М.) Але калі гэты лістапад пачаўся, калі ён кончыўся—не даведаешся з усіх старонак дзёньніка. Такія дзёньнікі, якія рэгіструюць выпадкова і бяссыстэмна і нават ня фазы разьвіцьця расьлін, а абрыўкі фаз, ня маюць ніякай навуковай вартасьці, і траціць час на такія назіраньні—ня варта.

Падобнага характару фэналягічныя запісы, якіх ніхто і ніколі ня зможа выкарыстаць пры ўсім жаданьні гэта зрабіць, знаходзім мы ў некаторых справаздачах па дасьледчых лясьніцтвах. Так, па адным з дасьледчых лясьніцтваў у аглядзе пагоды за вэгетацыйны пэрыяд 1912 г. падаецца такі дзёньнік:

„31—III пучкі арэшніка моцна набракаюць.
3—IV крычыць сава, набракаюць пучкі рабіны, бярозы (адзінкава), крушыны (якой? С. М), брызьліны (якой? С. М.); набраклі кветкавыя пучкі арэшніка; лятуць зломкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

22—IV крычыць зязюлька, адзінкава пыліць арэшнік; усюды пыліць вольха звычайная."[2]).

Агляд усяго дзеньніка паказвае, што назіраньні праведзеныя ў гэтым годзе ў даным лясьніцтве над выпадковымі дрэвамі і кустамі,

[1]) „Из жизни природы под Москвою. Лесопромышленный Вестник, № 44 за 1913 г., стар. 517.

[2]) Туды по Лесному Опытному Делу в России. Выпуск XLVIII. СПБ. 1913. стар. 27.

запісы рабіліся ў выпадковыя тэрміны; для аднаго дрэва паказана сярэдзіна якой небудзь фазы, для іншага пачатак тэй самай фазы. Аўтар справаздачы (С. Краснапольскі) ў заключэньні сам робіць вывад, што „прыведзеныя даныя толькі да некаторай ступені параўнальны з данымі папярэдняга году“[1]) і падае паважную прычыну гэтага, але ўсё-жтакі ні для лесаводзтва, ні для фэналёгіі такія справаздачы нічога не даюць і няма ніякай магчымасьці параўноўваць іх з якімі-небудзь данымі. Непараўнальна больш цэнны быў-бы матар'ял, калі-б з прычыны нястачы часу назіральнік лясьніцтва зусім прапусьціў крык савы і зязюлькі (выпадкова і адзінкава зарэгістраваны [2]), а прасачыў і дакладна ўлавіў пачатак і канец усіх фаз разьвіцьця хаця-б аднаго дрэва, якое зьяўляецца тыповай пародай для данага лясьніцтва.

Яшчэ адзін прыклад, як ня варта рабіць і апублікоўваць фэналягічныя запісы. У 1925 г. „22 мая—цьвіце барбарыс. Раскошны выгляд мае елка, аздобленая чырвонымі шышкамі“. (стар. 5, т. І Прац Навуковага Таварыства па В. Б. 1926 г.) З такіх запісаў нічога навуковага і практычнага ня выведзеш. Барбарыс таксама цьвёў і 16 і 24 мая ў 1925 г. А калі фэналёг-назіральнік запіша, што ў 1925 г. барбарыс звычайны *пачаў цьвісьці* 13 мая, меў *поўнае цьвіценьне* 16 мая, а *канец цьвіценьня* меў 26 мая (так запраўды і было там, гдзе аўтар цытаванай выпіскі назіраў, г. зн. каля Горак),—дык гэта ўжо будзе мець навуковае значэньне. Можна вылічыць працягласьць цьвіценьня, колькі ўжыта цяпла для зацьвітаньня барбарысу; з параўнаньня з іншымі расьлінамі мы даведваемся, якія віды зацьвітаюць раней, барбарысу якія пазьней і г. д.

Трэба заўсёды памятаць, што асноўным заданьнем фэналягічных назіраньняў зьяўляецца—рэгістрацыя таго дня, калі даная фаза разьвіцьця або жыцьця расьліны (ці жывёлы) па-першае, *пачалася*, па-другое, калі яна *ў пэрыядзе найбольшага разьвіцьця* і па-трэцяе, калі яна *скончылася*.

Вельмі стройную сыстэму рэгістрацыі і спосабу правядзеньня фэналягічных назіраньняў прапануе І. А. Тітов.[3]) Сутнасьць яе зьяўляецца ў тым, што аўтар яе прабуе слоўныя выразы фаз ці стадый разьвіцьця расьліны замяніць лічбавымі знакамі. Сыстэму І. А. Тітава можна назваць пяцярычнай. Увесь цыкль разьвіцьця расьліны ён падзяляе на пяць асноўных схэматычных фаз і азначае іх лічбамі: 1, 2, 3, 4, 5.

Лічба 1 азначае першую фазу, якая ахоплівае сабой пачатак жыцьцячыннасьці і разьвіцьцё вэгетацыйных частак расьліны.

2—другую фазу: утварэньне і разьвіцьцё генэрацыйных частак.

3—трэцюю фазу: цьвіценьне.

4—стадыю пладаваньня.

5—стадыю ўміраньня і заміраньня.

Кожную асноўную фазу І. А. Тітов дзеліць у сваю чаргу на 5 частак або больш-менш дробных фаз і азначае гэтыя дробныя фазы дзесяцічным знакам. Гэты знак прыпісваецца да лічбы, што выражае асноўныя фазы.

Агулам сыстэма мае наступны выгляд:

„1. —*Пачатак жыцьцячыннасьці. разьвіцьцё вэгетацыйных частак.*

1. 1—Пачатковае і адзінкавае прарастаньне насеньня. Пачатак жыцьцячыннасьці каранёвых сыстэм і рух соку ў дрэве.

---

[1]) Труды по Лесному Опытному Делу в России. Выпуск XLVIII СПБ 1913, стар. 28

[2]) Навуковае значэньне мела-б толькі першае і апошняе кукаваньне.

[3]) И. А. Титов—„Фенологические наблюдения, их производство и обработка по цифровой системе“. Москва. 1913.

1. 2—Набраканьне, рост і раскрываньне лісьцявых пучкоў. Масавае прарастаньне насеньня; пачатак паяўленьня ўсходаў — але зялёных лісьцяў яшчэ няма.
1. 3—Першае паяўленьне хлёрафіляносных частак—зялёных пучкоў, зялёных лісточкаў, якія яшчэ ня зусім распусьціліся, і зялёных усходаў.
1. 4—Стадыя лісьцяраспусканьня.
1. 5—Стадыя росту сьцяблоў, лісьцяў і парасткаў.
2.—*Утварэньне і разьвіцьцё генэрацыйных частак*: пупышак, кветкавых пучкоў. Выкідваньне каласоў, мяцёлак (збожжавых і асок.)
2. 1—Пачатак фазы: кветкавыя пучкі і пупышкі ў зачатковым стане і часта яшчэ завінутыя ў акрыцьцёвыя лісьці і лускі; мяцёлкі, калосьсі знаходзяцца яшчэ ў трубачках; адзінкавыя кветкавыя пучкі дрэўных расьлін „крануліся“—пачалі набракаць.
2. 2—Разьвіцьцё сфармаваных пупышак; выплываньне з похваў каласоў, мяцёлак (збожжавых, асок). Раскрываньне кветкавых пучкоў на дрэвах.
2. 3—Масавае ўтварэньне пупышак: масавае выкіданьне мяцёлак, калосьсяў і раскрываньне кветкавых пучкоў.
3. *Цьвіценьне.*
3. 1—Адзінкавае цьвіценьне (першыя кветкі).
3. 2—Далейшая стадыя расьцьвітаньня.
3. 3—Масавае расьцьвітаньне, разгар цьвіценьня.
3. 4—Адцьвітаньне. Асыпаньне кветак. Утварэньне плодазавязі.
3. 5—Канец цьвіценьня. Наліваньне пладоў і насеньня.
4.—*Стадыя плодаваньня. Дасьпяваньне і асыпаньне пладоў насеньня.*
4. 1—Пачатак дасьпяваньня.
4. 2—Далейшая стадыя дасьпяваньня.
4. 3—Масавае дасьпяваньне.
4. 4—Асыпаньне і аблятаньне пладоў і насеньня.
4. 5—Ніводнага плоду або насеньня не засталося на расьліне.
5.—*Стадыя ўміраньня і заміраньня.*
5. 1—Адміраньне пладавальных частак: стрэлак парасонікаў, калосьсяў, мяцёлак і інш.
5. 2—Зьмена афарбоўкі лісьцяў.
5. 3—Лістапад. Адміраньне травянога лісьця і сьцяблоў. Сьмерць аднагадовых расьлін“.

---

Таму што вышэйпаданая пяцярычная схэма, даведзеная да дзесятага знаку ўсё-ж такі не ахоплівае некаторых істотных момантаў у жыцьці расьлін, асабліва расьлін дрэўных, то для некаторых падфаз аўтар схэмы ўводзіць далейшае драбленьне да сотага і нават часам тысячнага знаку. Так, падфаза 5. 2—зьмена афарбоўкі лісьцяў—дапаўняеццатакім падзелам:

„5. 21—Пачатак зьмены афарбоўкі лісьцяў.
5. 22—Прамежная стадыя.
5. 221—10%/₀% пажаўцелых лісьцяў“.
5. 222—20%/₀% пажаўцелых лісьцяў
і г. д.
5. 23—Агульная зьмена афарбоўкі лісьцяў.

Падфаза 5. 3—Лістапад; адміраньне травянога лісьця і сьцяблоў; сьмерць аднагадовых расьлін—дапаўняецца наступнай дэталізацыяй:

„5. 31—Пачатак васеньняга лістападу.

5. 32—Далейшая стадыя лістападу.
5. 321—10 %% апалых лісьцяў.
5. 322—20 %% апалых лісьцяў.
5. 323—30 %% апалых лісьцяў“
і г. д.
5. 33—Няма ніводнага жывога ліста,—канец лістападу.

Падобнае разьвіцьцё схэмы ёсьць у падфаз: 1. 4, 1. 5, 2. 2, 3. 4, 4. 2, 4. 4.

Аўтар сыстэмы думае, што яна мае наступныя перавагі: 1) дае эканомію ў часе, бо лічбавыя азначэньні лягчэй і шпарчэй запісваюцца, чымся слоўныя выразы фаз, 2) сыстэма аднолькава дапасавана як да зельляватай, так і да дрэўнай расьліннасьці, як да паасобнага індывідуму, так і да масы асобнікаў данага віду; 3) сыстэма можа быць прыстасавана да назіраньняў спэцыяльнага характару; 4) лічбавы матар'ял, які атрымліваецца, зьяўляецца аднародным і параўнальным; 5) палягчаецца апрацоўка матар'ялу і 6) лічбовае азначэньне фаз дае магчымасьць вырысоўваць крывыя поўнага цыклю жыцьця расьліны і фэналягічных суадносін у згуртаваньнях і фармацыях. Для доказу апошняй перавагі аўтар падае ў сваей працы даволі цікавую крывую „суадносіны фаз на вучастку поймавага лугу для 29/VI 1913 г.“, „Крывую для стадыі зацьвітаньня флёры на сфагнавым балоце і на баравых пяскох“ і мала цікавую „Крывую жыцьцёвага шляху для Ledum palustre L.“ Пры складаньні другой крывой лічбавае азначэньне фаз ня мела ніякага значэньня. Першая і трэція крывыя лёгка атрымоўваюцца пры звычайным падзеле восі абсцысаў ці восі ардынат на вучасткі, якія адпавядаюць стадыям разьвіцьця расьліны, і такім чынам таксама лёгка атрымліваюцца і бяз лічбовага азначэньня фаз.

З іншымі перавагамі, якія аўтар бачыць у сваей сыстэме, таксама цалкам пагодзіцца нельга. Некаторая стройнасьць можа яшчэ атрымацца пры прыстасаваньні схэмы да зельлевых аднолетніх расьлін, напр., збожжавых, у якіх запраўды ход разьвіцьця адпавядае паступовасьці, прадугледжанай схэмай І. А. Тітава і для якіх запісы могуць абмяжавацца дзесяцічным знакам. Але для дрэваў і кустоў, з якіх шмат цьвітуць раней, чымся паявіцца лісьце, а некаторыя сваё насеньне расьсеіваюць далёка пазьней, чымся закончыцца лістапад (апад старой хвоі), схэма ўнясе толькі блытаніну, а вырысоўка крывых жыцьця дрэва паводле схэмы І. А. Тітава нічога не дабавіць да паглыбленьня ў вывучэньні біялёгіі нашых лясных парод [1]). Лесаводныя фіта-фэналягічныя назіраньні паглыбленага, спэцыяльнага характару, як мы пабачым далей, патрабуюць ня толькі сваіх спэцыяльных праграм, але і сваіх асобных мэтадаў назіраньня, і таму ўсякая агульная схэма для іх няпрыгодна.

Пяцярычная схэма, як штучная, не зьвязана з якой небудзь пэўна законамернай зьявай прыроды і дзеля гэтага не зьяўляецца вытрыманай да канца. І запраўды, 1-я фаза мае 5 падфаз, таксама 3-я і 4-я. 2-я фаза мае ўжо толькі 3 падфазы, а 5-я канчаецца падфазай 5, 33, лічбай, спэцыяльна прыдуманай для лістападу дрэваў.

У агуле цыфравая сыстэма І. А. Тітава зьяўляецца ні чым іншым, як шыфрам для азначэньня стадый разьвіцьця расьлін і шыфрам, які не спрашчае фэналягічныя запісы, а ўскладняе як запісы, так і іх апрацоўку. А думка І. А. Тітава аб вырысоўваньні крывых поўнага цыклю жыцьця расьліны і крывых фэналягічных суадносін для расьлінных згуртавань-

[1]) Труднасьць зьмясьціць у адну схэму разьвіцьцё аднолетніх расьлін і дрэваў з кустамі і змусіла аўтара прадоўжыць, спэцыяльна для стадый разьвіцьця дрэваў і кустоў, свае лічбавыя азначэньні да вялізарных тысячных знакаў.

няў зьяўляецца цэннай і заслугоўвае далейшай распрацоўкі, але дапасавальна да фэналягічнага матар'ялу таблічных запісаў з дакладнымі датамі наэтупленьня пэўных фаз.

I так існуе 3 спосабы запісаў фіта-фэналягічных назіраньняў: 1) у выглядзе дзеньніка, 2) пры дапамозе ўмоўных знакаў (у тым ліку мэтад Тітава) і 3) шляхам запаўненьня адпаведнымі датамі загадзя падрыхтаванай табліцы.

Самым простым і надзейным зьяўляецца трэці спосаб. Цэнтральная Лясная Дасьледчая Станцыя Беларусі ім і карыстаецца на ўсіх сваіх лясных дасьледчых вучастках. Сутнасьць яго зьмяшчаецца, каротка кажучы, у наступным. Загадзя прыгатаўляецца сшытак з табліцамі, якія маюць вэртыкальныя і паземныя графы (лепш карыстацца табліцамі друкаванымі). Зьверху, г. зн. супраць вэртыкальных граф упісваюцца назвы тых фаз разьвіцьця, у адносінах якіх будуць назіраць час пачатку, сярэдзіны і канца разьвіцьця. Зьлева, г. зн. супраць паземных граф упісваюць радавыя і відавыя назвы тых расьлін, якія будуць служыць аб'ектам назіраньняў. Назіральніку ў такім выпадку застаецца толькі сачыць за сваімі аб'ектамі і своечасна паставіць даты ў адпаведныя клеткі, утвораныя перасячэньнем вэртыкальных і паземных граф, калі даная фаза пачалася, у поўным разьвіцьці, кончылася. Атрымоўваецца вялікая эканомія ў часе, выгада пры параўнаньні ходу разьвіцьця розных відаў за вэгэтацыйны пэрыяд, прастата і нагляднасьць пры апрацоўцы матар'ялу. Вельмі важна і тое, што ў гэтым выпадку назіральнік забясьпечаны ад пропуску якой небудзь фазы разьвіцьця ў звычайна значнай колькасьці аб'ектаў назіраньня. Назіральнік у працягу самага кароткага часу можа праглядзець у сшытку з такімі табліцамі усе свае расьліны і ўсе тыя фазы, якія ён павінен зафіксаваць. Не атрымліваецца перагрузкі памяці, што немінуча пры запісах шляхам храналягічных дзеньнікаў.

Дата, якая ўстаўляецца ў адпаведную клетку, складаецца з лічбы дня, якая азначаецца арабскай цыфрай і месяца, азначанага рымскімі цыфрамі.

Існуе ўмоўны, міжнародны спосаб азначэньня дат, але, думаецца, ён перавагі ня мае. Выяўляецца ён у тым, што заместа дня і месяца пішуць парадкавы лік дня ад пачатку году. Напрыклад: заместа 3--III пішуць 62, заместа 15—V—135 і г. д. Пры пераводзе такіх вялічынь на больш простыя для нашага ўяўленьня лічбы месяца можна карыстацца наступнай таблічкай (для непераступнага году):

| | |
|---|---|
| Студзень | — 31 |
| Люты | — 59 |
| Сакавік | 90 |
| Красавік | —120 |
| Май | 151 |
| Чэрвень | 181 |
| Ліпень | 212 |
| Жнівень | 243 |
| Верасень | 273 |
| Кастрычнік | 304 |
| Лістапад | 334 |
| Сьнежань | 365 |

Так, напр., 74 = 15-III, 113 = 23-IV. Да̄рэчы будзе адзначыць, што азначэньне „23—IV ня менш зьяўляецца міжнародным, чымся азначэньне „113“.

Узор ведамасьці—табліцы, прыняты для запісу фэналягічных назіраньняў, якія праводзяцца Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыяй Беларусі можна бачыць на стар. 94—95.

---

**Праграма фэналягічных назіраньняў над асобнымі індывідуумамі дрэўных і куставых відаў**, прынятая Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыяй Беларусі складаецца з рэгістрацыі наступных момантаў:

1. Пачатак выразнага набраканьня пучкоў.
2. Раскрыцьце ліставых пучкоў.
3. Раскрыцьце кветкавых пучкоў.
4. Паяўленьне першых лісьцяў.
5. Наступленьне поўнага абліставаньня
6. Пачатак цьвіценьня.
7. Поўнае цьвіценьне.
8. Канец цьвіценьня.
9. Ступень цьвіценьня.
10. Ступень утварэньня плодазавязі.
11. Паяўленьне на паростках новых пучкоў.
    - 11-а Новыя пучкі паявіліся, але ледзь прыкметны.
    - 11-б Новыя пучкі вырасьлі амаль што да нармальнай велічыні, але афарбоўка іх яшчэ ненармальна.
    - 11-в Новыя пучкі набылі нармальную велічыню, форму, афарбоўку і выгляд лусак.
12. Пачатак дасьпяваньня пладоў ці насеньня.
13. Масавае дасьпяваньне пладоў ці насеньня.
14. Канец дасьпяваньня пладоў ці насеньня.
15. Пачатак натуральнага ападу сьпелых пладоў ці насеньня.
16. Найбольшы апад сьпелых пладоў ці насеньня.
17. Канец ападу пладоў ці насеньня.
18. Ступень ураджайнасьці пладоў ці насеньня.
19. Пачатак васеньняй зьмены афарбоўкі лісьцяў.
20. Усеагульная зьмена афарбоўкі лісьцяў.
21. Пачатак васеньняга лістападу.
22. Масавы (найбольшы) лістапад.
23. Канец лістападу.
24. Пачатак адзервяненьня паросткаў.
25. Канец адзервяненьня.
26. Працягласьць вэгетацыйнага пэрыяду з адзнакай яе датамі.
27. Працягласьць вэгетацыйнага пэрыяду, азначаная колькасьцю дзён.

Ведамасьць Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі складаецца з пералічаных 27 клетак + 11б і 11в, якія павінен запоўніць назіральнік (гл. стар. 96—97)

Сюды варта было-б дадаць у самым пачатку праграмы яшчэ адну фазу, яна звычайна існуе ў праграмах для фэналягічных назіраньняў: *пачатак руху соку*. Але таму што гэты момант звычайна назіраецца ў нас толькі на бярозе і клёне звычайным, то ў ведамасьці ЦЛДСБ ён не зьмяшчаецца. Каб не рабіць лішнюю графу, якая ведама, што будзе пустой супраць пераважнай колькасьці відаў,—зручней і прасьцей даты пачатку рух соку у бярозе і клёне запісваць у ўвагах да фэналягічнай табліцы.

Апроч паказаных 27 + 11б і 11в граф наша ведамасьць мае яшчэ 4 графы з наступнымі загалоўкамі: I—чарговы №; II—назва віду дрэва ці куста; III—месцазнаходжаньне, век, дыямэтр, вышыня, ступень асьветленасьці. У гэту графу запісваецца плоць аб'екту назіраньня, калі від рознапнёвы. IV—№ экзэмпляра па маршруце (у лічніку) і яго номер індывідуальны (у назоўніку). Маршрутны № дзеля чыста тэхнічнай выгады можа мяняцца з бегам часу, а індывідуальны № павінен з году ў год заставацца нязьменным. Толькі ў тым выпадку ён зьмяняецца, калі аб'ект назіраньня дзеля якіх-небудзь прычын замяняецца новым экзэмплярам (зразумела, таго самага віду).

Вызначэньне моманту наступленьня некаторых фаз сустракае ў практыцы назіральніка-фэналёга пэўныя труднасьці. Трэба мець на ўвазе, што тут няўхільна прыходзіцца лічыцца з памылкай, у лепшым выпадку, на 1 дзень. У кожным разе для большасьці фаз лёгка дасягнуць і неабходна дасягаць таго, каб дакладнасьць назіраньня не давала памылкі больш чымся на 1 дзень.

Ува ўсіх трудных для вызначэньня якой-небудзь фазы выпадках найлепш вырашаецца пытаньне многалетняй практыкай назіральніка і веданьнем марфалёгіі паросткаў, пучкоў, лісьцяў, кветак, веданьнем біалёгіі і іншых дэндралёга-батанічных уласьцівасьцяй дрэўных відаў. Дасканала выложыць тое, што лічыць за *пачатак, поўнае разьвіцьцё і канец* кожнай фазы—вельмі трудна. Прышлося-б гаварыць аб многіх відах асобна, лішне многа напамінаць з дэндралёгіі. Коратка можна падаць наступнае тлумачэньне.

**1. Пачатак выразнага набраканьня пучкоў.** Час наступленьня набраканьня пучкоў можна заўважыць ці па павялічэньні аб'ёму іх, ці па пачатку рассоўваньня пучковых лусачак.

У першым выпадку адзнаку трэба прыстасаваць да таго дня, калі павялічэньне аб'ёму назіральнік азначае без усялякіх сумляваньняў. Абсалютна неабходна штодня ўважліва аглядаць пучкі на розных галінах таго дрэва, якое падлягае назіраньню, інакш не ўлаўліваецца дакладна ні павялічэньне аб'ёму пучкоў, ні рассоўваньне лусачак. Калі зьвяртаюць больш увагу на апошнюю зьяву, дык трэба ўлавіць самы пачатак рассуваньня лусак. Само сабой разумеецца, што ў відах, якія маюць пучкі з аднэй лусачкай, як вярба, плятан усходні, а таксама ў відах, пучкі якіх „голыя", г. зн. зусім бяз лусачак (напр., Rhamnus Frangula L., Viburnum Lantata L., Colutea orientalis Lam., Lycium barbarum L.),—ня прыходзіцца чакаць рассуваньня лусак, а трэба ўлавіць уважлівым назіраньнем павялічэньне пучкоў. У відах з скрытымі пучкамі (Philadelphus coronarius L., род Ephedra, у Periploca graeca L., Robinia Pseudoacacia L., род Tamarix, род Gleditschia, Potentilla fruticosa L., Genista tinctoria L. і інш.) час набраканьня пучкоў можна азначыць па пачатку высоўваньня пучкоў вонкі.

Дзеля дакладнага, беспамылковага азначэньня гэтай фазы назіральнік-фэналёг павінен дэтальна вывучыць пучкі ў зімовым стане усіх тых відаў дрэваў і кустоў, якія вызначаны для назіраньня. Апрача вывучэньня патрэбна і наведваньне ў канцы зімы ўсіх занумараваных для назіраньня экзэмпляраў, каб асьвяжыць у памяці марфалёгію пучкоў кожнага віду і каб прывучыць сваё вока да ўлаўліваньня зьмены іх аб'ёму. Гэтым зімовым наведваньнем назіральнік павінен скарыстацца і для таго, каб пасьля на кожным дрэве і кусьц'ку ён лёгка адрозьніваў пучкі кветкавыя ад пучкоў ліставых і пучкоў, якія пазьней даюць паростак. Гэта абавязкова патрэбна для верагоднага зафіксаваньня наступных трох

фаз разьвіцьця тых дрэваў і кустоў, якія зацьвітаюць да паяўленьня на іх лісьця або аднача́сна з распусканьнем лісьцяў.

2. **Раскрыцьце ліставых пучкоў.** За час раскрыцьця ліставых пучкоў трэба лічыць той дзень, калі лусачкі пучка аддзяліліся адна ад дугой (часам ня зусім) і ў большасьці ліставых пучкоў паяўляюцца зялёныя кончыкі лісточкаў.

3. **Раскрыцьце кветкавых пучкоў.** Лусачкі пучкоў ужо аддзяліліся адна ад другой і адагнуліся вонкі хаця-б і ў нязначнай ступені. Ня ўсе, зразумела, віды дрэваў маюць кветкавыя пучкі. Яны знаходзяцца на такіх відах, як Ulmus, Fraxinus, Acer, Prunus, Elaeagnus, Hippophae, Tamarix tetrandra і інш., але іх няма на тых відах, на якіх кветкі паўляюцца на маладых паростках новага году, напр., на дубе, Morus, Spiraea, Tilia, Ligustrum, Tamarix Pallassii, Tamarix gallica і інш. Ёсьць і трэцяя група ў гэтых адносінах, на якой кветкі паўляюцца на паростках рознага веку: напр., на Juglans regia жаночыя кветкі паяўляюцца на верхавіне парostку новага году, а мужчынскія каткі сядзяць на прошлагодніх паростках.

4. **Паяўленьне першых лісьцяў.** Разуменьне крыху расьцяжнае. Рознымі аўтарамі азначаецца розна: то пачатак зазеляненьня, калі дрэва ці куст быццам пакрыліся зялёнай дымкай з тае прычыны, што з пучкоў пачалі разьвінацца лісточкі (паводле Інструкцыі Цэнтр. Бюро Краязнаўства), то проста „паяўленьне зялёнай дымкі на дрэвах“, (паводле Д. Н. Кайгарадава), то „момант паяўленьня ў 3—4 месцах першых, нармальна-згладжаных ліставых пласткоў“ (В. А. Поггенполь), то той момант, калі „ліст настолькі разьвінецца, што верхні бок яго пластка прыме паземнае палажэньне“ (В. І. Іваноў).

„Дымку“ не на ўсіх дрэўных відах можна заўважыць сваячасна, хаця *ледзь прыкметнае* зазеляненьне кроны зьяўляецца ў некаторых выпадках добрай адзнакай (для бярозы, напр.). Трэба ўсё-ж такі бліжэй прыглядацца да аб'екту назіраньня заўсёды, а ў даным выпадку да лісьцяў. Больш пэўнай зьяўляецца характарыстыка фазы, даная праф. В. І. Івановым. Хаця ці варта толькі чакаць, для ўсіх дрэўных і кустовых відаў калі пласток прыме паземнае палажэньне. Мы лічым за наступленьне данай фазы той дзень, калі маладыя зялёныя лісточкі настолькі прыкметны на галінках, што спаміж іх назіральнік можа знайсьці некалькі штук маленькіх, зразумела, такіх, якія яшчэ не разьвіліся, але ўжо выразна напамінаюць форму лісьцяў данага віду. Гэта на ліставых. На іглястых—днём паяўленьня першых лісьцяў лічаць той дзень, калі маладыя іголкі пачнуць адлучацца адна ад другой сваімі верхнімі часткамі.

5. **Наступленьне поўнага абліставаньня.** Гэты момант таксама цяжка ўлаўліваецца. Яго азначаюць, як той дзень, калі больш паловы лісьця данай расьліны распусьцілася. Добрай прыметай можа служыць тое, што пры аглядзе на некаторай адлегласьці дрэва збоку стала прыкметным, што лісьцё разьвілося і ўжо закрыла прасьветы паміж галінамі кроны, а сама крона толькі што (учора ці сягоньня) прыняла тыповы для данага віду свой летні габітус.

6. **Пачатак цьвіценьня.** На большасьці відах заўважваецца вельмі лёгка. Гэта першы момант першых нармальна раскрытых вяночкаў, паяўленьне слупка і пачатак выступаньня пылку з пыльнікаў тычачак. Для катковых суквецьцяў (на бярозе, мужчынскія на вольсе, мужчынскія на ляшчыне, на дубе) гэты момант азначаюць, як дзень, калі каткі ўжо пухкія, кветкавыя акрыцьці ўжо разышліся, тычачкавыя ніткі ўжо вольныя, а пыльнікі ўжо гатовы лопацца, сям-там ужо лопнулі і пачалі пыліць.

На відах з аднародавымі кветкамі (хвоі, елкі, ельніцы, дубу, бярозы, вольхі, ляшчыны і інш.) звычайна лягчэй гэта фаза азначаецца па мужчынскіх кветках. Калі назіральніку ўдаецца зусім дакладна вызначыць, што на адным і тым самым экзэмпляры віду з аднародавымі кветкамі мужчынскія і жаночыя кветкі раскрываюцца выразна не адначасна, то гэту зьяву трэба праверыць на іншых экзэмплярах таго самага віду і адзначыць гэты факт у ўвагах да табліцы запісаў, дакладна сфармуляваўшы тое, што ўдалося назіральніку ўлавіць.

Адносна азначэньня моманту пачатку цьвіценьня такіх відаў, як віды роду Corylus, існуюць спрэчкі. Справа ў тым, што, напр., на Corylus Avellana L. (ляшчына) лычкі слупкоў выходзяць з пучкоў дні на 2 раней, чымся мужчынскія каткі зробяцца пухкімі, раскрытымі, кветкавыя акрыцьці мужчынскіх кветак разлучанымі, тычачкавыя ніткі вольнымі, а пыльнікі гатовымі лопнуць і пачаць пыліць. Паводле міжнароднай праграмы фэналягічных назіраньняў момантам пачатку цьвіценьня Corylus Avellana лічыцца паяўленьне чырвоных слупкоў, якія вышлі сваімі рыльцамі з пучкоў, а паводле праграмы „Общества Любителей Мироведения“ (у Ленінградзе) і паводле праграмы украінскай —пачатак пылкаваньня мужчынскіх кветак. Пры сваіх назіраньнях для Corylus Avellana і падобных відаў пачаткам цьвіценьня мы лічым дзень раскрыцьця мужчынскага катка, мужчынскіх кветкавых акрыцьцяў, разлучэньне тычачкавых нітак і пачатак паяўленьня на пыльніках пылкоў, і гэту дату заносім у графу № 6. Паяўленьне слупкоў таксама адзначаем і запісваем гэту дату або у ўвагах, або ў графу 6-ю, але ў выглядзе назоўніка.

Для рознапнёвых відаў (асіна, топаль, вярба, Acer Negundo, ялавец звычайны і нек. інш.), як ужо мы казалі, усе назіраньні вядуцца асобна над мужчынскімі і асобна над жаночымі экзэмплярамі, і тут для назіральніка вельмі важна аднесьціся з асаблівай увагай да вызначэньня дня пачатку цьвіценьня. На каліне цьвіценьне назіраецца на сярэдніх плоданосных кветках суквецьця, а не на крайніх—яны заўсёды бязродавыя.

7. **Поўнае цьвіценьне.** Пры штодзенным наведваньні расьлін час вызначаецца лёгка. Гэта момант, калі ўсе адзнакі цьвіценьня на выбраным для назіраньня экзэмпляры і, зразумела, на ўсіх ці пераважнай большасьці суседніх экзэмплярах таго самага віду найбольш рэзка выяўлены (заўсёды трэба правяраць, каб аб'ект назіраньня вёў сябе тыпова), калі, напр., найбольшае пылкаваньне на хвоі, найбольшая колькасьць сьвежых, якія яшчэ не асыпаюцца, пялёсткаў на Prunus'ах і г. д., калі няма яшчэ адзнак адцьвітаньня.

8. **Канец цьвіценьня.** Гэта фаза характэрна тым, што ападаюць пялёсткі, спыняецца пылкаваньне, вянуць генэрацыйныя часткі мужчынскіх кветак і пасьля цалкам мужчынскіх каткоў, спыняюцца чыннасьць мёднікаў і наведваньне іх шасьціножкамі.

9. **Ступень цьвіценьня.** Ацэньваецца на вока паводле пяцібальнай сыстэмы: 5—поўнае цьвіценьне, 4—добрае, 3—сярэдняе, 2—дрэннае, 1—вельмі дрэннае, 0—абсалютная адсутнасьць цьвіценьня.

10. **Ступень утварэньня плодазавязі.** Ацэньваецца паводле той самай сыстэмы.

11. **Утварэньне новых пучкоў на паростках.** Моманты паяўленьня і разьвіцьця новых пучкоў вельмі трудна ўлаўліваюцца. Але, побач з фазай адзярвяненьня паросткаў, зьмены афарбоўкі лісьцяў і іх ападу,—гэты момант зьяўляецца характэрным для вывучэньня ступені прыстасаванасьці данага віду да мясцовых кліматычных умоў.

Дзеля гэтага яго варта было-б увесьці ў праграмы.

Звычайна новыя пучкі ледзь прыкметнага памеру і залёнага колеру паяўляюцца вельмі рана, усьлед за разьвіцьцём лісьцяў. Але рост і дасьпяваньне пучкоў праходзіць розна на розных відах, прынамсі, на некаторых.

Для палягчэньня назіраньня гэтага фактару і пакуль што ў выглядзе досьледу мы падзяляем яго на 3 стадыі: 11а—новыя пучкі паявіліся, але ледзь прыкметны; 11б—новыя пучкі выраслі амаль да нармальнай велічыні, але не набылі яшчэ нармальнай афарбоўкі; 11в—новыя пучкі набылі нармальную велічыню, форму, афарбоўку і характар лусак.

**12. Пачатак дасьпяваньня пладоў ці насеньня.** Як для пладоў з мякацю, так і для сухіх пладоў гэты момант вызначаецца, паводле нашай практыкі, без асаблівых труднасьцяй. Характэрным зьяўляецца набываньне новай афарбоўкі, тыповай для плоду данага віду і зьмена структуры мякаці ці сухога акрыцьця. Але ўсё-ж такі трэба знадворныя адзнакі праверыць і тым, наколькі ўжо нармальна дасьпела насеньне і наколькі ўжо нармальна будова насеньня. Ненармальнае і толькі выабражальнае дасьпяваньне, напрыклад, зьмена афарбоўкі з прычыны хваробы расьліны, пашкоджаньне расьліны ці плоду шасьціножкамі, сухменьню, замаразкамі, градам і інш.—ня прымаецца на ўвагу.

**13. Масавае дасьпяваньне пладоў ці насеньня і**

**14. Канец дасьпяваньня пладоў ці насеньня,** зьяўляюцца момантамі толькі колькаснага парадку пры ўмовах, паказаных у пункце 12-м.

**15. Пачатак натуральнагаападу пладоў ці насеньня.** Пры штодзённым ці праз дзень наведваньні аб'ектаў назіраньня вызначаецца лёгка. Карысна расчышчаць для гэтага пляцоўкі ці агараджваць іх. Зноўтакі ненатуральны апад і апад недасьпелых пладоў і насеньня ня прымаецца на ўвагу. Гэта варта толькі адзначыць у ўвагах.

**16. Найбольшы апад пладоў ці насеньня і**

**17. Канец ападу пладоў ці насеньня** зьяўляюцца ня толькі падфазамі фазы № 15, але і момантамі практычна вельмі важнымі для лясной гаспадаркі. Мэтадалягічнай труднасьці тут звычайна не сустракаецца. Бываюць толькі перашкоды бытавога парадку.

**18. Ступень ураджайнасьці пладоў ці насеньня** ацэньваецца паводле той самай 5-бальнай сыстэмы, як і ступень цьвіценьня і ступень утварэньня плодазавязі.

**19. Пачатак васеньняй зьмены афарбоўкі лісьцяў.** Адзнака гэтага моманту звычайна не сустракае труднасьці. З ненатуральным, хваравым і выпадковым, наогул без пары пажаўценьнем лісьцяў пры ўважлівых адносінах да назіраньняў—зблытаць трудна. Праўда, наступленьне гэтай фазы бывае часам занадта павольным, але адзначаць яе трэба тым днём, калі гэта зьява ясна пачалася. Палягчаюць і ўпрыгожваюць гэты род назіраньняў тыя рознастайныя і прыгожыя колеры і тоны, якія ўласьцівы розным відам. Зьмена афарбоўкі лісьцяў ігластых адносіцца да старой хвоі за выключэньнем мадрыны.

**20. Агульная зьмена афарбоўкі лісьцяў.** Фаза, якая мае выключнае значэньне ў фэналёгіі. Дзеля гэтага адзначаецца з надзвычайнай дакладнасьцю: з такой-жа дакладнасьцю, як і момант раскрыцьця пучкоў. Звычайна не чакаюць таго дня, калі абсалютна ўсе лісьці на даным дрэве зьменяць сваю афарбоўку, а фіксуюць той дзень, калі можна лічыць, што большая палова лісьцяў выбранага для назіраньня экзэмпляра (і на большасьці суседніх экзэмплярах таго самага віду ці тэй самай адмены) ужо прыняла новую афарбоўку, якая розьніцца ад нармальнай зялёнай.

**21. Пачатак васеньняга лістападу.** Пры азначэньні дня трэба мець на ўвазе ўсё тое, што было сказана эдносна ападу пладоў ці насеньня. Рэгістраваць толькі пачатак натуральнага лістападу. Трэба заўважыць, што ён пачынаецца ледзь прыкметна. Зрываюцца і лятуць адзінкавыя лісьці. Трэба зарэгістраваць усё-ж не без пары адзінкава-выпадковы апад, а выразна васеньні, хаця-б ён часам і раней быў, чымся паводле календара. На іглыстых, апад лісьцяў адносіцца да старой хвоі, за выключэньнем мадрыны.

**22. Масавы (найбольшы) лістапад** вызначаецца звычайна лёгка пры штодзённым наведваньні аб'ектаў назіраньня.

**23. Канец лістападу.** Таксама момант, які вызначаецца бяз труднасьці. Ня трэба толькі чакаць таго дня, каб на даным экзэмпляры ці на даным відзе апалі самыя апошнія адзінкавыя лісьці. Часам адзінкавыя лісьці балтаюцца на дрэве і пасьля канца лістападу.

**24. Пачатак адзервяненьня парасткаў** і

**25. Канец адзервяненьня парасткаў** азначаюцца ня зусім лёгка. Трэба яшчэ распрацаваць мэтодыку і ўдасканаліць тэхніку выяўленьня гэтых момантаў. За пачатак адзервяненьня трэба прыняць той момант, калі парасткі выразна з травяністага стану вышлі каля сваёй асновы. А за канец—калі гэта зьява зусім выразна выявілася на працягласьці ўсяго парастку, да самай яго верхавіны і ў пераважнай большасьці парасткаў.

**26 і 27. Працягласьцю вэгетацыйнага пэрыяду** звычайна лічыцца лік дзён ад раскрыцьця ліставых ці кветкавых пучкоў (якія раней раскрыліся) да агульнай зьмены афарбоўкі лісьцяў. У нашым выпадку, такім чынам, ад фазы № 2 ці № 3 да фазы № 20.

Дадатковую (у нашай праграме яна дадатковая) фазу: *пачатак руху соку* азначаюць ці на пнёх сьсечаных у працягу апошняй зімы дрэваў, ці шляхам параненьня дрэва, ці загадзя сьвідрам прасьвідроўваюць у стволе канал, да якога падстаўляюць шкляную судзіну са стрэшкай зьверху ад дажджу (і сьнегу) і шляхам штодзённых назіраньняў дакладна ўлаўліваюць момант пачатку гэтага працэсу.

---

Выкладзеная праграма зьяўляецца праграмай поўнай, праграмай для лясных дасьледчых устаноў, якія праводзяць назіраньні вядомым арганізаваным шляхам. У такіх выпадках зьмяншаць яе, на наш погляд, ня варта.

Для лясных устаноў не дасьледчага характару і для працаўнікоў, якія бяруцца за выкананьне назіраньняў у парадку індывідуальнай навуковай працы, можна ў разе патрэбы раіць скарачэньне, пры якім пакідаюцца пытаньні: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 20, 21, 22, 23, 26, 27. Пры большым скарачэньні назіраньні праводзяць па пытаньнях: 2, 3, 4, 6, 7, 8, 15, 16, 17, 20, 21, 22, 23, 26, 27. Пры яшчэ большым скарачэньні трэба пакінуць пытаньні: 2, 3, 4, 6, 15, 16, 17, 18, 20, 27 і, урэшце, у апошнім выпадку: 2, 3, 4, 6, 20, 27.

## V.

## Назіраньні над дрэвастанам.

Фэналягічныя назіраньні над дрэвастанам служаць для больш глыбокага біялягічнага вывучэньня ўжо не асобных відаў, а жыцьця дрэвастану ў цэлым. Пытаньне аб назіраньнях над дрэвастанам паднята В. І. Івановым (гл. яго артыкул „Фенологические наблюдения в насажде-

В зависимости от характера задания измереня можно производить через 10, 5, 3 и 1 день. В те дни вегетации, когда данный вид особенно буйно нарастает (а такие дни у каждого вида бывают свои и очень резко выявляются) нарастание можно уловить и при измерениях по несколько раз в сутки и даже, в лесу или в питомнике, при помощи обыкновенной миллиметровой линейки (напр., нарастание верхушечного побега в длину) [1]).

IX.

Приводимые дальше таблицы являются результатом феноюгических наблюдений при Центральной Лесной Опытной Станции Белоруссии. При организации и производстве этих наблюдений по возможности стремились придерживаться принципов, изложенных в настоящей статье.

Моими помощниками, сотрудниками и наблюдателями были: в Горках в 1924 году ученый лесовод *Д. О. Манцевич*, в 1925 году ученый лесовод *М. Н. Щеглова*, в 1926 и 1927 г.г. ученый лесовод *С. М. Бруев*, на Жорновском лесном опытном участке ученый лесовод *Н. М. Яковлев*.

*Проф. С. П. Мельник.*

---

## Forstliche phänologische Beobachtungen.

(Zusammenfassung).

Phänologische Beobachtungen sind in allgemeinphänologische und speciellphänologische einzuteilen.

Die *allgemeinphänologischen Beobachtungen* besitzen ihr kleines und ihr grosses Programm mit einer Aufzählung der Objekte der Beobachtung aus dem Pflanzen- und Tierreiche, sowie aus meteorologischen Erscheinungen. Die hauptsächlichste Aufgabe der allgemeinphänologischen Beobachtungen besteht vor Allem in der Erforschung des Bioklimas einer Gegend, aber nicht in der der beobachteten Objekte.

*Die speziellen phänologischen Beobachtungen* enthalten in sich als hauptsächlichste Aufgabe die Erkenntniss der Beobachtungsobjekte. Die allernächsten Aufgaben und Programme derselben müssen je nach dem Gebiete, auf welches sie sich beziehen, verschieden sein. Sie sind notwendig, sowohl für die Landwirtschaft, als auch für die Forstwirtschaft, für Obst-und Gemüsezucht, für Zuchtwahl der Planzen, für angewandte Botanik, als auch für angewandte Zoologie u. s. w.

Indem der Verfasser alle Arten forstphänologischer Beobachtungen berücksichtigt im Interesse einer Ausarbeitung von Programmen und Arbeitsmethoden, teilt er alle forstphänologischen Beobachtungen in folgende drei Gruppen ein:

*I. Forstphythophänologische Beobachtungen,*

*II. Forstzoophänologische Beobachtungen.*

*III. Forstphänologische Beobachtungen wirtschaftlichen Charakters* d. h. solche, bei welchen, zum Beispiel, die Zeit des Einsetzens von Forskul-

[1]) Могу сослаться на мою работу: „Лесоводственные фитофенометрические наблюдения в Горецком дендрологическом питомнике“ („Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскай Гаспадаркі“, том II, 1926).

turarbeiten im Walde, die Zeit des Beginnes der Flössung und dergleichen registriert werden.

Die Forstzoophänologischen Beobachtungen teilt der Verfasser in folgende drei Ordnungen ein:

1. *Enthomophänologische* Beobachtungen (über Insekten im Walde),
2. *Ornithophänologische* (über die Vögel des Waldes),
3 *Mammaliophänologische* (über forstliche Säugetiere).

Die Forstphythophänologische Beobachtungen zerfallen in folgende drei Ordnungen:

1. *Dendrophänologicshe* d. h. Beobachtungen an Baum-und Straucharten,
2. *Herbaphänologische* d. h. Beobachtungen an Gräsern und Kräutern im Walde,
3. *Mykophänologische* d. h. phänologische Beobachtungen an Pilzen und Flechten, an den Bäumen und unter dem Bestande vegetirenden.

Seinerseits teilt Verfasser die Dendrophänologischen Beobachtungen in 5 Arten ein:

a) *Beobachtungen an einzelnen Individuen der Bäume und Sträucher,*
b) *Beobachtungen an ganzen Bestanden,*
c) *Beobachtungen in der Forstschule* am heranwachsenden Pflanzungsmateriale
d) *Beobachtungen einer eingehenden und beschränkten Specialisirung,* zum Beispiel, an einer Phase der Lebensdauer eines Gewächses (Samenabfall und dergleichen).
e) *Phythophänometrische Beobachtungen,* zu welchen Verfasser all' diejenige phänologische Beobachtungen rechnet, bei welchen sich periodische Messungen des einen oder des anderen Organes am lebenden Gewächse im Verlaufe der Vegetationszeit als notwendig erweisen.

Weiterhin werden in unserer Abhandlung die Programme für alle obenangeführten Arten der forstphythophänologischen Beobachtungen, welche von der Centralen Forstlichen Versuchsanstalt für Belarussi (in U. d. S. S. R.) begutachtet worden sind, angegeben.

Ferner werden forstphänologische Beobachtungen an einzelnen Exemplaren von Bäumen und Sträuchern im Gory-Gorkischen Dendrologischen Garten (bei der Belarussischen Staatlichen Akademie für Landwirtschaft) für die Jahre 1924, 1925, 1926 und 1927 und solche auf der Shornowkischen Forstlichen Versuchsparcelle (im Forstamt Lapitschy des Bobruiskischen Kreises in Belarussi) für die Jahre 1926 und 1927 und schlislich eine Tabelle über Beobachtungen an einzelnen Arten von Bäumen und Sträuchern in den Beständen derselben Shornowkischen Forstlichen Versuchsparcelle für das Jahr 1926 veröffentlicht (s. Seite 94, 95 s. f.).

*Prof. S. P. Melnik.*

# НАВУКОВЫЯ ПРАЦЫ
## Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі у 1926-27 г.

(Навуковая справаздача за 1926-27 г.)

Навукова-дасьледчая праца Аддзелу Лясной Гаспадаркі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя Леніна і Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі, якая знаходзіцца пры Аддзеле, ў справаздачным годзе складалася: 1) з выкананьня праграмных дасьледчых прац, 2) дзьвюх прац па спэцыяльным даручэньні Упраўленьня Лясамі Н.К.З. БССР (зьбіраньне матар'ялу і апрацоўка яго для ўкладаньня сартымэнтых і масавых табліц і табліц такс для лясоў БССР), 3) кіраўніцтва падгатойкай асьпірантаў і ўдзелам іх у некаторых дасьледчых працах і 4) з кансультацый, што даваліся Лясной Станцыяй лясьнічым Беларусі і некаторым установам у выглядзе адказаў на розныя спэцыяльныя пытаньні лясной гаспадаркі.

Трэба адзначыць, што апошняя дзейнасьць Лясной Станцыі (консультацыйная) зьяўляецца навіной для маладой лясной дасьледчай арганізацыі Беларусі. У справаздачным годзе яна выразна выявілася; колькасьць пытаньняў, якія былі атрыманы з месц і патрабавалі адпаведных навукова ўгрунтаваных адказаў і парад, была даволі значная. Як відаць, у бліжкай будучыне, разам з пашырэньнем кругу спэцыялістаў—мясцовых працаўнікоў, якія ведаюць аб існаваньні Лясной Дасьледчай Станцыі, аб яе структуры па яе дзейнасьці,—трэба чакаць значнага павялічэньня колькасьці запытаньняў, якія будуць патрабаваць адпаведных тлумачэньняў і парад па розных галінах лясной гаспадаркі у Беларусі. Дзеля навізны справы і нястачы тэхнічных працаўнікоў па дзелаводзтве пры Станцыі—дакладнай рэгістрацыі запытаньняў, якія надсылаліся, у гэтым годзе не праводзілася. Можна толькі сказаць, што ўсе яны датычыліся тэхнікі лесаводзтва. Яскрава вызначылася значная колькасьць запытаньняў па лесаводных мерапрыемствах барацьбы са шкоднікамі лесу (з пашкоджаньнем грыбнымі хваробамі і шасьціножкамі).

Асьпірантаў у справаздачным годзе было чацьвёра. Адзін з іх *(А. І. Чарненкоў)* працаваў па лесазнаўстве, другі *(Ф. П. Міхневіч)*—па лясной таксацыі, трэці *(Ф. І. Фамін)*—па лясной эканоміцы і чацьверты *(А. Ф. Галавач)*—па мэханічнай лясной тэхналёгіі. Два тэхнічныя навуковыя працаўнікі Станцыі (В. П. Сініцкі і З. П. Закрэўскі) падзялялі сваю працу з такім разьлікам, каб з новага апэрацыйнага году (з І/Х—1927 г.) магчыма было перавесьці іх на сыстэматычную працу па асьпіранцкай падрыхтоўцы.

Праграмныя дасьледчыя працы складаліся як з прац стацыянарнага характару, так і з прац, якія выконваліся ў парадку невялікіх

экспэдыцый і выезду ў лес асобных навуковых працаўнікоў Станцыі на патрэбны тэрмін. Працы першага парадку выконваліся пры адпаведных установах Станцыі: габінэтах, лясным дасьледчым гадавальніку ў Горках, Станцыі пробы ляснога насеньня ў Горках, лясным вэгетацыйным доміку ў Горках, пры Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку Аршанскай акругі, пры Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку Менскай акругі, пры Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку Бабруйскай акругі, у межах Горацкай лясной дачы Горацкага Дасьледчага Лясьніцтва.

Частка прац стацыянарнага характару выконвалася і па-заяснымі дасьледчымі вучасткамі Станцыі, але найчасьцей паблізу іх, напрыклад: у Жорнаўскім лясьніцтве (дасьледчыя высечкі), у Вяляціцкім лясьніцтве (досьледы па падсочцы хвоі), у Прылуцкай дачы Менскага Гарадзкога Лесу (сталыя пробныя пляцоўкі). Працы другога парадку, у выглядзе невялікіх экспэдыцый, праводзіліся за межамі ўстаноў Лясной Дасьледчай Станцыі (напрыклад: збор матар'ялу для ўкладаньня сартымэнтных табліц, матар'ялу для ўкладаньня такс, збор насеньня і інш.).

Усе навукова-дасьледчыя працы Станцыі праводзіліся на тэмы паводле праграмы, зацьверджанай для 1926-1927 году[1]), і ўсе яны былі аб'яднаны ў 5 груп, па колькасьці аддзелаў Станцыі

Адступленьне ад вызначаных для 1926-27 г. праграм былі нязначныя і толькі в тых выпадках, калі з прычыны нястачы ці скарачэньня крэдытаў даводзілася скарачаць працы шляхам зьмяншэньня колькасьці тэм для распрацоўкі.

Арганізацыя пяці аддзелаў Станцыі, закончаная ў папярэднім 1925-26 годзе, за справаздачны 1926-27 г. не падлягала ніякім зьменам ні ў структурных, ні ў праграмных адносінах.

Адчуваўся вельмі вялікі недахоп навуковых працаўнікоў пры аддзелах Станцыі і пры ўстановах, якія яе абслугоўваюць. Гэта выклікае надмерную перагрузку працай навуковага штатнага складу Станцыі, вельмі павольнае пасоўваньне прац па апрацоўцы ўжо нагрмаджонага навукова-дасьледчага матар'ялу, спазненьне з апублікаваньнем вынікаў гэтай апрацоўкі і часта проста-такі спыняе рэгістрацыю тых запісаў, якія пры доўгатэрміновых стацыянарных лясных досьледах абсалютна неабходны і якія па самай істоце справы не дапушчаюць ніякіх хібаў і перапынкаў.

Абсалютна неабходна павялічэньне ліку асыстэнтаў, бо ніводзін аддзел Станцыі ня можа нармальна працаваць без асыстэнтаў, неабходна лепшае забясьпячэньне навуковымі і тэхнічнымі працаўнікамі дасьледчых і іншых устаноў Станцыі.

Досьледы і навукова-дасьледчыя працы, якія выконаваліся ў справаздачным годзе, у далейшым падаюцца ў падзеле іх паводле аддзелаў Станцыі і ў тых групоўках тэм, якія, з прыкладу папярэдніх гадоў мелі месца і ў 1926-27 г.

## А.

## Па Аддзелу Лесазнаўства, Догляду і Рубак.

### I. Працы па вывучэньні дэндралёгіі і біялёгіі дрэўных парод Беларусі.

1. Працягнены збор анкетнага матар'ялу аб распаўсюджанасьці дрэўных і кустовых відаў у Беларусі.

[1]) Праграма надрукавана ў I томе „Матар'ялаў па Лясной Дасьледчай Справе БССР“, стар. 88—99.

2. Паводле ранейшай інструкцыі і ранейшай праграмы праводзіліся лесаводна фэналягічныя назіраньні над дрэвамі і кустамі ў трох пунктах Беларусі: у Горках—над 118 экзэмплярамі 104 відаў, на Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку—над 77 экзэмплярамі 65 відаў і на Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку. У Горках гэтыя назіраньні праводзяцца без перапынку з вясны 1924 году, на Жорнаўскім Вучастку пачаты з вясны 1926 г., а на Вяляціцкім Вучастку пачаты толькі ў справаздачным годзе.

3. Пачата вывучэньне марфалёгіі і біялёгіі дзьвюх сэзонна-дыморфных адмен елкі звычайнай: a) Picea excelsa var. chlorocarpa, Purk, і b) Picea excelsa var. erythrocarba, Purk. Увесну 1927 г. на дзялянках лесасекі 1927-28 г. у кварталах 39, 40 і 48 Горацкай лясной дачы выбраны па афарбоўцы жаночых кветак і колеры маладых шышак 30 дрэваў зялёнашышкавай елкі і 30 дрэваў чырвонашышкавай елкі. Дрэвы занумараваны і адмечаны кругамі ўмоўнага колеру алейнай фарбай на кары ствола. Пасьля сьсечкі дрэваў узімку 1927-28 г. шышкі, сабраныя з кожнага дрэва асобна, будуць адасланы ў Лябараторыю Дасьледваньня Ляснога Насеньня для дасьледваньня уласьцівасьцяў як самых шышак, так і насеньня, якое ў іх знаходзіцца. Пазьней насеньне павінна быць высеяна ў дасьледчым гадавальніку для адпаведных біялягічных дасьледваньняў. Частку зваленых ствалоў абедзьвух адмен елкі меркавалі перадаць Лесатэхналягічнаму аддзелу Станцыі для азначэньня мэханічных уласьцівасьцяў драўніны. Выяўлена існаваньне пераходных форм паміж паказанымі дзьвюма адменамі.

4 Паводле раней прынятай схэмы[1]) працягвалася ўтварэньне чыстых дрэвастанаў з чужаземных дрэўных парод і тых парод ССС, якія ня маюць натуральнага пашырэньня ў межах БССР, з мэтай вывучэньня іх натуралізацыі і акліматызацыі. Утварэньне дасьледчых плошчаў з паказанымі дрэўнымі пародамі ў справаздачным годзе праводзілася пры Жорнаўскім і пры Вяляціцкім Дасьледчых Вучастках.

Пры Горацкім Вучастку, у квартале №14 Горацкай дачы, на частцы паляны, якая была ў часовым сельска-гаспадарчым карыстаньні, з 6 да 10 чэрвеня 1927 г. пасьля апрацоўкі плугам глебы была зроблена пасадка наступных парод: a) Каштан конскі (Aesculus Hippocastanum L.). Высаджана 1.718 шт. аднагодніх саджанцаў і 207 шт. двухлетніх, а ўсяго 1.925 шт. Разьмяшчэньне 1,0×0.5 мэтра. Пасадка зроблена пад меч Колесава. Плошча пасадкі 1.044 кв. мэтры. Пасадачны матар'ял, як і ўсіх іншых высаджаных тут парод, узяты з Горацкага ляснога дасьледчага гадавальніка Станцыі. Насеньне было сабрана з дрэваў, якія знаходзяцца ў сядзібе Сел. Гасп. Акадэміі ў Горках. Па пераліку, зробленым 24 верасьня 1927 г., аказалася здаровых сеянцаў з ліку пасаджаных аднагоднімі 1.176 шт. (ці 68,4%), з ліку пасаджаных двухлетнімі—165 шт. (ці 79,7%), а ўсяго 1.341 шт. (ці 69.7%). Такім чынам, адпад у працягу першага пасьля пасадкі году быў роўны 30,3%.

b) Морва белая (Morus alba L.). Высаджана на плошчы 3.393 кв. мэтры 2.101 аднагодніх сеянцаў і 726 шт. двухлетніх, усяго 2 827 шт. Разьмяшчэньне 1.0 мэтр у радох і паміж радамі. Пасадачны матар'ял вырас у Горацкім дасьледчым гадавальніку. Насеньне для гэтага пасадачнага матар'ялу было сабрана ў г. Новачаркаску. Пасьля пераліку 24 верасьня 1927 г. аказалася здаровых з ліку сеянцаў, высаджаных адна-

[1]) Справаздача Станцыі за 1925-26 г. („Матар'ялы па Лясной Дасьледчай Справе БССР. Т.—I. Стар. 59 і 74, п. 7).

леткамі—усяго 546 шт. (ці 25,9%), а з ліку высаджаных трохлеткамі—601 шт. (ці 82,8%).

c) Клён амэрыканскі (Acer Negundo L.). На плошчы 1.026 кв. м. высаджана 960 шт. аднагалетніх сеянцаў і 510 шт. двухлетніх сеянцаў, усяго 1.470 шт. Разьмяшчэньне 1,0 м. $\times$ 0,5 м. Насеньне для аднагалетніх сеянцаў атрыманы ад Сэйтлерскага Гадавальніка (Крым), для двухлетніх—былі сабраны зімой 1924 г. у Маскоўскім Заалягічным Садзе. Пералік 24 верасьня 1927 г. даў 211 шт. (21,9%) здаровых экзэмпляраў з ліку высаджаных аднагалеткамі і 331 шт. (64,9%) з ліку высаджаных двухлеткамі.

d) Клён-явар (Acer Pseudoplatanus L). Высаджана на плошчы 400 кв. мэтраў 296 аднагалетніх сеянцаў і 101 трохлетніх сеянцаў, усяго—397 шт. Разьмяшчэньне—1,0 мэтр паміж радкамі і ў радкох. Насеньне зьбіралася ў Дэндралягічным Садзе Сел.-Гасп. Акадэміі ў Горках. Пералік 24 верасьня 1927 г. даў здаровых 84 шт. (28,4%) з ліку высаджаных аднагалеткамі і 76 шт. (75,2%) з ліку высаджаных трохлеткамі.

e) Побач з пасадкамі Acer Pseudoplatanus былі высаджаны 62 аднагалетнія сеянцы Acer pennsylvanicum L. (клён пэнсільванскі, радзіна—Канада). Сеянцы вырашчаны ў гадавальніку з насеньня, атрыманага ад Усесаюзнага Інстытуту Прыкладной Батанікі. Да моманту васеньняга пераліку з 62 высаджаных экзэмпляраў захавалася толькі 14 (32,6%).

f) На пляцоўцы ў 285 кв. мэтраў высаджаны 153 трохлетнія сеянцы Gleditschia triacanthos L і 54 аднагалетнія сеянцы акацыі белай (Robinia Pseudoacacia L). Сеянцы гледычыі ўзгадаваны з насеньня, сабранага ў сядзібе Данскога Сельскагаспадарчага Інстытуту (г. Новачаркаск). а сеянцы белай акацыі з насеньня, атрыманага ад Сэйтлерскага Гадавальніка (Крым). Разьмяшчэньне пры пасадцы: 1,0 мэтра паміж радкамі і паміж расьлінам ў радку. Да 24 верасьня 1927 г. аказалася здаровых сеянцаў гледычыі 119 экзэмпляраў (77,8%) і 8 экзэмпляраў акацыі белай (14,9%).

Нізкія процанты тых экзэмпляраў, якія захаваліся, трэба вытлумачыць тым, што, дзякуючы вільготнай і дажджлівай вясьне, пасадка рабілася занадта позна, калі высаджваныя сеянцы большасьці парод былі ўжо ў стане абліставаньня. Глеба ў час пасадкі была лішне вільготнай, што таксама не магло не адбіцца на тэхніцы пасадкі.

Параўнаньне колькасьці экзэмпляраў, якія захаваліся, па ўсіх вышэйпералічаных пародах выразна паказвае, што пры даных умовах Горацкай дачы, для даных парод пасадка 3-летнімі і 2 летнімі сеянцамі дала далёка лепшыя вынікі, чымся пасадка аднагалетнімі сеянцамі.

На Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку ўвесну 1927 г. на плошчы, узаранай увосень папярэдняга году, зроблена пасадка наступных чужаземных дрэўных і кустовых парод (гл. табл. I на стар. 241).

Для пасадкі экзотаў у наступным 1928 годзе падрыхтавана ўзворкай глеба на плошчы 1 гэктара.

На Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку, на лесасецы, якая была ў сел.-гасп. карыстаньні, у квартале № 48 увесну 1927 г. зроблены пасадкі наступных дрэўных відаў пад меч Калесава пры адлегласьці паміж радкамі 1,5 м. і ў радку 0,5 м. Адлегласьць паміж пляцоўкамі з асобнымі экзотамі зроблена ў 3 м. (гл. табл. II на стар. 242).

Паводле выпрацаванай намі схэмы дасьледчыя плошчы з экзотамі павінны занімаць $^1/_4$—$^1/_2$ гэктара, толькі ў надзвычайным выпадку 0,1 гэктара. Тут гэта патрабаваньне ня выканана з прычыны немагчымасьці атрымаць большай колькасьці насеньня. Cytisus'ы трапілі выпадкова, толькі як дэндралягічны матар'ял.

Табл. I. Пасадкі экзотаў на Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку.

| Чартовы № | Назва пароды | Плошча ў квадр. мэтр. | Адлегласьць у мэтрах: паміж радкамі | у радку | Лік радкоў | Колькасьць высаджаных экзэмпляр. | Узрост пасадачнага матар'ялу | Паходжаньне насеньня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Acer Nogundo L. . . . . . . | 6864,6 | 2 | 0,5 | 20 | 7140 | 2 л. | Лошыца, Менск. акругі |
| 2 | Acer Negundo L. var. californicum Kirchn. . . . . . . . . | 3217,5 | 2 | 1 | 10 | 1710 | 2 л. | |
| 3 | Acer Ginnala Maxim. . . . . | 2385,5 | 2 | 1 | 7 | 1220 | 2 л. | Ігнатычы, Менск. |
| 4 | Acer Pseudoplatanus L. . . . | 1025,0 | 2 | 1 | 10 | 510 | 2 л. | Менск |
| 5 | Acer Dasycarpum Ehrh. . . . | 1025,0 | 2 | 1 | 10 | 490 | 2 л. | Ад Ін-та Прыкл. Батанікі |
| 6 | Acer pennsylvanicum L. . . . | 1060,9 | 2 | 2 | 10 | 250 | 1 л. | Б. А. З. Ш. Філядэльфія |
| 7 | Acer tataricum L. . . . . . . | 845,5 | 2 | 1 | 9 | 405 | | |
| 8 | Robinia Pseudoacacia L. . . . | 3150,0 | 3 | 1,5 | 22 | 748 | | |
| 9 | Gleditschia triacanthos L. . . | 1050,0 | 3 | 1,5 | 7 | 357 | 2 л. | Сімфэрополь |
| 10 | Betula papyracea Ait. . . . . | 925,0 | 3 | 1,5 | 7 | 230 | 1 л. | Атр. ад Усесаюзн. Ін-та Прыкл. Батан. |
| 11 | Morus alba L. . . . . . . . . | 1750,0 | 2 | 0,75 | 17 | 1035 | 1 л. | Маск. губ. і Туркестан |
| 12 | Ptelea trifoliata L. . . . . . . | 568,7 | 2 | 0,75 | 8 | 350 | 1 л. | Ігнатычны, Менск. акругі |
| 13 | Cytisus Laburnum L. . . . . . | 392,0 | 2 | 0,75 | 7 | 266 | 1 л. | |
| 14 | Amorpha fruticosa L. . . . . | 450,0 | 2 | 0,5 | 4 | 400 | | таксама |
| | То же по 2 дарогам . . . . . | 788,0 | — | — | — | — | — | |
| 15 | Juglans cinerea L. . . . . . . | 1104,0 | — | 3 | 1 | 28 | 2 л. | Ад Ін-та Прыкл. Батанікі |
| 16 | Pterocarya caucasica C. A. Mey | 480,0 | — | 2 | 1 | 49 | 1 л. | таксама |
| | Разам . . . | 27082,5 | | | | 15188 | | |

5. На тэй самай лесасецы кварталу № 48 Вяляціцкай лясной дачы ўвесну 1927 г. засаджана 5 дасьледчых пляцовак двухлетнімі сеянцамі хвоі звычайнай, якія вырасьлі на Менскім гадавальніку Станцыі з насеньня, сабранага ў розных губэрнях СССР. Дадзеныя аб гэтых пасадках прыводзяцца ў табл. III на стр. 243.

6. Для далейшых лесаводных і дэндралягічных дасьледваньняў у справаздачным годзе зроблены пачатак закладкі вербавых і топалевых плянтацый на Вяляціцкім і Жорнаўскім Лясных Дасьледчых Вучастках.

На Вяляціцкім Вучастку плянтацыя заложана шляхам пасадкі зразкоў побач з пасадкамі экзотаў у квартале № 48 Вяляціцкай Лясной дачы. Зразкі ўзяты з Менскага гадавальніка. Высаджана наступная колькасьць зразкоў і ў наступным парадку ў натуры:

1. Populus canadensis Mnch . . . 184 шт.
2. Salix purpurea L. var. uralensis 364 „
3. Salix viminalis L. . . . . . . 112 „
4. Salix purpurea L. var. utilissima 387 „
5. Salix purpurea L. . . . . . . . 231 „
6. Salix longifolia Mühlb. . . . . 20 „

На Жарнаўскім вучастку на плошчы 0,28 гэкт. узаранага ў 1925 г. лугу ўвесну 1927 г. высаджана 1734 зразкі 9-ці відаў вярбы і 240 экзэмпляраў 2-х відаў топалю. Глеба перагнойна-тарфяністая на аглееным суглінку. Ведамасьць зробленых пасадак вярбы і топалю падаецца на стр. 243 (гл. табл. IV.)

**Табл. II. Пасадкі экзотаў на Вяляцiцкім Лясным Дасьледчым Вучастку**

| Чарговы № | НАЗВА ПАРОДЫ | Плошча ў квадратовых мэтрах | Лік радкоў | Колькасьць высаджаных сеянцаў | Узрост высаджаных сеянцаў | Паходжаньне насеньня |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Pinus Peuce Gris . . . . . . . . | 240 | 3 | 214 | 1 л. | Атр. ад Ін-ту Прыкл. Батанікі |
| 2 | Pinus Banksiana Lamb. . . . . . | 300 | 4 | 249 | 1 л. | таксама |
| 3 | Pinus ponderosa, Dougl. . . . . | 120 | 2 | 114 | 1 л. | таксама |
| 4 | Pinus ponderosa, var scopulorum Engelm. . . . . . . . . . . . | 60 | 1 | 28 | 1 л. | таксама |
| 5 | Cytisus Laburnum L. . . . . . . | 360 | 5 | 351 | 1 л. | Ігнатычы, Менск. акр. |
| 6 | Ptelea trifoliata L. . . . . . . . | 600 | 9 | 619 | 1 л. | таксама |
| 7 | Caragana frutescens D. C. . . . | 420 | 5 | 410 | 1 л. | таксама |
| 8 | Crataegus monogyna Jacq. . . . | 120 | 1 | 93 | 1 л. | таксама |
| 9 | Rhus Cotinus L. . . . . . . . . | 120 | 1 | 60 | 1 л. | таксама |
| 10 | Ribes sanguineum Pursch . . . . | 120 | 1 | 16 | 1 л. | |
| 11 | Acer tataricum L. (№ 29) . . . . | 300 | 3 | 245 | 1 л. | |
| 12 | Acer tataricum L. (№ 69) . . . . | 180 | 2 | 158 | 1 л. | Ігнатычы, Менск. акр. |
| 13 | Acer Pseudoplatanus L. . . . . . | 900 | 14 | 826 | 1 л. | таксама |
| 14 | Acer Negundo L. . . . . . . . . | 1260 | 20 | 1251 | 1 л. | таксама |
| 15 | Quaercus rubra L. . . . . . . . | 300 | 4 | 299 | 1 л. | Шыпяны, Мен. акр. |
| 16 | Morus alba L. . . . . . . . . . | 780 | 42 | 791 | 1 л. | Маск. губ. |
| 17 | Morus alba L. . . . . . . . . . | 660 | 10 | 660 | 1 л. | Туркестан |
| 18 | Cytisus nigricans L. . . . . . . | 120 | 1 | 102 | 1 л. | |
| | Разам . . . | 6960 | | 6486 | | |

Табл. III. Пасадка сеянцаў сасны звычайнай на Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку

| № дзялянкі | Колькасьць высаджаных экзэмпляраў двухлетніх сеянцаў сасны звыч. | Паходжаньне насеньня |
|---|---|---|
| 1. | 1472 | Данская акруга |
| 2. | 802 | Пензенская губ. |
| 3. | 780 | Гомельская акруга |
| 4. | 693 | Калуская губ. |
| 5. | 253 | Саратаўская „ |
| РАЗАМ | 4000 | |

Табл. IV. Пасадкі вярбы і топалю на Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку

| Чарговы № | ВІД | Лік пасаджаных зразкоў | Лік радкоў | Адлегласьць у мэтрах: Паміж радкамі | Адлегласьць у мэтрах: У родках | УВАГІ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | | | | | |
| 1. | Salix purpurea L. . . . . | 670 | 4 | 1.0 | 0.5 | Зразкі № 1—7 узяты з Менскага Лясного Гадавальніку Станцыі. № 8 і 9 з Жорнаўскага гадавальніку |
| 2. | Salix purpurea L. var. uralensis . . . | 330 | 2 | | | |
| 3. | Salix purpurea L. var. utilissima . . | 310 | 2 | | | |
| 4. | Salix purpurea L. v. Lambertiana W Koch. | 30 | 1 | | | |
| 5. | Salix viminalis L. . . . . . . . . | 190 | 2 | | | |
| 6. | Salix daphnoides Vill . . . . . | 100 | 1 | | | |
| 7. | Salix longifolia Mühlb . . . . . . | 44 | 1 | | | |
| 8. | Salix cinerea L. . . . . . . . . | 30 | 1 | | | |
| 9. | Salix fragilis L. . . . . . . . . | 30 | 1 | | | |
| | РАЗАМ . . . . | 1734 | 15 | — | — | |
| | II | | | | | |
| 1. | Populus canadensis Mnch . . . . . . | 211 | 3 | 1.5 | 0.75 | Пасадка зразкамі, узятымі з Менскага гадавальніку |
| 2. | Populus alba L. . . . . . . . . . | 29 | 1 | 1.5 | 1.0 | Пасадка ўкаранелымі атожылкамі ад карэньня |
| | РАЗАМ . . . . | 240 | 4 | — | — | |

Падрыхтоўка глебы для плянтацыі была наступная: узараньне вільготнага лугу ўвесну 1926 г., пасеў аўса, новае узараньне ўвосень 1926 г. апрацоўка культыватарам і бараной увесну 1927 г.

6'. У дэндралягічных садзіках пры сядзібах Горацкага, Вяляціцкага і Жорнаўскага Лясных Дасьледчых Вучасткаў высаджаны ўвесну 1927 г. некаторыя віды дрэваў і кустоў. У прыватнасьці, стары дэндралягічны садзік, які знаходзіцца пры сядзібе Жорнаўскага вучастку дапоўнены падсадкай наступных відаў: Thuja occidentalis, Quercus rubra, Acertataricum, Evonymus europaea, Evonymus verrucosa, Cornus Sanguinea, Elaeagnus angustifolia, Hippophae rhamnoides.

7. Працягвалася ўзгадаваньне экзотаў на гадавальніках для ўсіх трох дасьледчых вучасткаў.

Для Горацкага вучастку яны гадаваліся на цэнтральным дасьледчым гадавальніку каля г. Горак, для чаго быў прызначаны квартал № 16 гадавальніка. Тут, на плошчы градак у 332,8 кв. мэтр. увесну 1927 г. выканаíны пасевы 67 відаў дрэваў і кустоў. Частка насеньня для гэтага прыслана Інстытутам Прыкладной Батанікі, нажаль, вельмі мала.

На новазакладзеным гадавальніку пры Вяляціцкім вучастку высеяна на плошчы лех у 44 кв. м. 2,2 клгр. насеньня кедру сібірскага, атрыманага ад Вікудаўскага лясьніцтва Ішымскай акругі (Сібір), і на плошчы 38 м.—135 грам насеньня Pinus Banksiana, сабраных у дрэвастане гэтай хвоі, які знаходзіцца пры Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку.

На гадавальніку Жорнаўскага Вучастку, паводле пераліку, зробленага ўвосень 1927 г., знаходзіцца наступная колькасьць узгадаванага пасадачнага матар'ялу: іглàстых двухлетніх сеянцаў 5 відаў—89.485 шт. ліставых дрэўных 13-ці відаў 52.769 шт., якіх 44.140 шт. адналетніх сеянцаў і 8 629 двухлетніх сеянцаў; ліставых кустовых 9 відаў: 49.724 шт., з якіх адналетніх сеянцаў 23.799 шт., двухлетніх—24.895 шт. і трохлетніх 1.030 шт. Апроч гэтага, на Жорнаўскім гадавальніку прыкапана падрыхтаванага да пасадкі матар'ялу: 2.039 экз., з якіх 250 двухлетніх сеянцаў дрэваў, 750 экз. трохлетніх сеянцаў дрэваў, 695 шт двухлетніх кустоў і 344 экз. трохлетніх сеянцаў кустовых. Спаміж тых, якія туга прарастаюць—насеньне 13 відаў ліставых парод веснавога пасеву ў справаздачным годзе ня ўзышло. Паяўленьня ўсходаў трэба чакаць увесну 1928 г Усяго ў Жорнаўскім гадавальніку ў справаздачным годзе пад пасевамі было занята 3.575 кв. м., з якіх карыснай пасеўнай плошчы град было 803,1 кв. м, а іншыя—пад дарогамі, міжрадзьдзямі і папарнымі градамі.

8. На Горацкім дасьледчым гадавальніку квартал № 20 вызначаны для вывучэньня шпаркасьці росту ў маладым узросьце галоўнейшых нашых дрэўных парод. Пры адлегласьці радок ад радку ў 1,0 мэтр. высаджаны ўвесну 1927 г. наступныя віды аднàлетнім сеянцамі (гл. табл. V на стр. 245):

**Табл. V. Пасадкі на Горацкім Дасьледчым Гадавальніку**

| № раду, пачынаючы з заходняга боку кварталу | В І Д | Лік высаджаных сеянцаў | Адлегласьць паміж расьлінамі ў радку ў мэтр. | Лік расьлін пасьля асеньняга пераліку | Сярэдняя вышыня паводле вымераў увосень 1927 г. у см. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Pinus silvestris L. . . . . . | 63 | | 60 | 9.0 |
| 2. | Pinus Banksiana Lamb. . . . . | 63 | | 57 | 12.5 |
| 3. | Pinus Laricio Poir. . . . . . . | 63 | | 53 | 7.0 |
| 4. | Pinus montana Mill. . . . . . | 63 | | 28 | 4.7 |
| 5. | Picea excelsa Lk. . . . . . . | 64 | | 62 | 11.3 |
| 6. | Picea obovata Ledeb. . . . . . | 64 | | 51 | 5.3 |
| 7. | Quercus pedunculata Ehrh. . . | 64 | | 64 | 22.5 |
| 8. | Aesculus Hyppocastanum L. . . | 64 | | 64 | 18.4 |
| 9. | Fraxinus excelsior L. . . . . . | 64 | 0.3 | 64 | 13.1 |
| 10. | Fraxinus americana L. . . . . | 64 | | 63 | 23.2 |
| 11. | Carpinus Betulus L. . . . . . | 64 | | 51 | 16.0 |
| 12. | Acer platanoides L. . . . . . | 64 | | 64 | 14.2 |
| 13. | Acer Pseudoplatanus L. . . . . | 65 | | 64 | 20.0 |
| 14. | Acer Campestre L. . . . . . . | 65 | | 47 | 8.1 |
| 15. | Acer tataricum L. . . . . . . | 65 | | 63 | 26.6 |
| 16. | Acer Negundo L. . . . . . . | 65 | | 65 | 59.4 |
| 17. | Tilia cordata Mill. . . . . . . | 66 | | 38 | 20.6 |

9. У дадатак да закладзенага ў 1925-26 г. досьледу па завяльваньні асіны на корані (гл. т. I „Матар'ялаў па Лясной Дасьледчай Справе БССР", стар. 62 і 77, пункт 15) з мэтай высьвятленьня найбольш спагаднай для гэтай апэрацыі пары году, пачынаючы з 1 Красавіка 1927 г. 1-га дня кожнага месяца ў клетцы № 1 кварталу № 45 Горацкага вучастку аперсьцяняюцца па 3 асіны для далейшых назіраньняў за іх паступовым усыханьнем.

10. З мэтай пашырэньня і паглыбленьня пачатага ў мінулым годзе вывучэньня сэзонна-дыморфных адмен дубу чарэшчатага на Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку (у квартале № 69 Жорнаўскай дачы) на плошчы 8,5 гэкт' асобнымі знакамі выдзелены ўвесну 1927 г. ў час распусканьня лісьцяў і цьвіценьня дзьве адмены дубу, якія тут сустракаюцца: а) Quercus pedunculata Ehrh var. praecox Czern. і Quercus pedunculata Ehrh var tardiflora Czern.

## II Дасьледваньне біялёгіі лясных дрэвастанаў і тыпаў дрэвастанаў.

11. Навуковы супрацоўнік пры катэдры глебазнаўства В. І. Пашын далей праводзіў мэханічны і хэмічны аналіз глеб раменных тыпаў Горацкай дачы.

12. Для вывучэньня рэжыму грунтовых вод пад рознымі тыпамі яловай рамені, пад сумшарай, імшарай і на чыстым балоце праводзіўся штодзенныя назіраньні і вымеры ўзроўню стаяньня грунтовых вод, у наступных 15 вадамерных трубах, устаноўленых па лініі найбольш яскрава выяўленага рэльефу (55 . 906 — 49 . 402 м ад умоўнага пазему нівэліроўкі 1925 г.) у кварталах 44 і 45 Горацкага Лясного Дасьледчага Вучастку.

Табл. VI. Асноўныя вадамерныя трубы на Горацкім Лясным Дасьледчым Вачастку

| № трубы | № кварт. | № клеткі | Адзнака паверхні глебы ў метрах | Вышыня трубы над зямлёй (ў метрах) | Глыбіня трубы ў зямлі (ў метрах) | ТЫП ДРЭВАСТАНУ | АПІСАНЬНЕ ДРЭВАСТАНУ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 44 | 26 | 55.906 | 1,20 | 10,45 | Сьвежая рамень | Адноўл. высечка. 5 Ас. 4Б. 1 Верба (20 г.) Паўн. 0.8; I бан., 1 дабр. Падрост елкі 10 г. |
| 2 | 44 | 27 | 54.763 | 1,20 | 8,53 | Таксама | Лесасека 1921 г. Культура Елкі 4 г. Акрыцьцё травяное. |
| 3 | 44 | 27 | 53.780 | 1,20 | 9,07 | Таксама | 9 Е. 1 Ас. Адз. Кл. Д. (90—100 г.) Паўн. 0.7; I бан:, 2 дабр. Н—27 м. Д—35 см. |
| 4 | 44 | 39 | 53.245 | 1,20 | 8,75 | Таксама | Лесасека 1921 г. Культура елкі 4 г., акрыцьце травяное |
| 5 | 44 | 40 | 51.194 | 1,20 | 5,76 | Сьвежая рамень, пераход да вільготнай рамені | 9 Е. 1 Ас. Адз. Кл. Д. (90 г.) Паўн. 0,6 I бан., 2 дабр., Н—26 м Д—28 см. |
| 6 | 44 | 52 | 49.634 | 1,20 | 6,60 | Вільг. рамень | 6 Е. 4 Ас. Адз. Кл. (90 г.) Паўн. 0.6 I бан., 2 дабр. Н—26, Д—26 см. Глеба са збыткам увільгатненьнем |
| 7 | 44 | 53 | 49.458 | 1,225 | 1,35 | Сумшара | 9 Б. 1 Хв., Адз. Ас. (25-30 г.) III бан., 2 дабр паўн. 0,8 |
| 8 | 44 | 53 | 49.493 | 1,20 | 1,64 | Імшара | 6 хв. 4Б. (30 г.) IV бан. 2 дабр. Паўн. 0,7 |
| 9 | 44 | 65 | 49.562 | 1,21 | 1,80 | Таксама | Таксама |
| 10 | 45 | 17 | 49.506 | 1,20 | 2,25 | Балота | Мохаваебалота з адзінкавай карлікавай Хв. і Б. |
| 11 | 45 | 17 | 49.528 | 1,235 | 2,22 | Таксама | Таксама |
| 12 | 45 | 18 | 49.504 | 1.20 | 1.45 | Імшара | 10С (30 г.) паўн. 0,6, IV бан. 3 дабр. |
| 13 | 45 | 26 | 49.402 | 1,20 | 1,00 | Таксама | Таксама |
| 14 | 45 | 26 | 50.183 | 1,20 | 5,76 | Вільг. рамень | 7 Е, 3 Ас. Адз. Б. (80 г.) I бан. 2 дабр. Паўн. 0,7 |
| 15 | 45 | 27 | 49.506 | 1,22 | 1,70 | Імшара | 10С Адз. Б (45 г.) IV бан., 1 дабр. паўн. 0,8 |

13. З мэтай вывучэньня рэжыму верхаводкі ў кв. № 44 Горацкага Ляснога Дасьледчага Вучастку ў жніўні 1927 г. ўстаноўлена 9 шт. дадатковых вадамерных труб у тыпах сьвежай і вільготнай рамені па наступнай схэме:

Табл. VII. Вадамерныя трубы для вывучэньня рэжыму верхаводкі на Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку

| № трубы | Адлегласьць | Адзнака паверхні глебы | Вышыня трубы над зямлёй | Глыбіня трубы ў зямлі | Да якога генэтычнага пазему глебы даведзена труба | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У | м э т р а х | | | | |
| | | **А. Сьвежая рамень**[1] | | | | |
| 3 (асн.) | | 53.780 | 1.2 | 9.07 | — | — |
| 3 А | 15.1 | 53.673 | 1.0 | 2.00 | 0.5 м. у марэну | 0.5 м. ў C |
| 3 Б | 9.5 | 53.605 | 1.0 | 1.50 | Да марэны | да C |
| 3 В | 5.7 | 53.587 | 1.0 | 0.50 | Да паз. ілюв. ушч. | „ $B_2$ |
| 3 Г | 5.6 | 53.578 | 1.0 | 0.20 | Да падзолістага пазему | „ $A_2$ |
| | | **В. Вільготная рамень**[2] | | | | |
| 5 (асн.) | | 51.194 | 1.2 | 5.76 | — | — |
| 5 А | 15.0 | 50.891 | 1.0 | 2.10 | 0.5 м. у марэну | 0.5 м. ў C |
| 5 Б | 10.3 | 50.715 | 1.0 | 1.40 | Да марэны | да C |
| 5 В | 5.1 | 50.629 | 1.0 | 1.25 | Да аглеенага пяску | „ $B_1$ |
| 5 Г | 3.0 | 50.578 | 1.0 | 0.50 | Да пазему ілюв. ушч. | „ $B_2$ |
| 5 Д | 8.8 | 50.428 | 1.0 | 0.10 | Да падзолістага пазему | „ $A_2$ |

Штодзенныя назіраньні стану ўзроўню вады ўва ўсіх 9 трубах пачаты з 28 жніўня 1927 г.

14. У дадатак да штодзеннага вымеру ўзроўню грунтовай вады ў 15 асноўных вадамерных трубах на Горацкім вучастку з 1 жніўня 1927 г. арганізаваны вымер праз кожныя 10 дзён тэмпэратуры вады ў гэтых трубах.

15. Для вывучэньня *засяваньня суцэльных лесасек* у яловых дрэвастанах. у кв. кв. 44 і 45 Горацкага Ляснога Дасьледчага Вучастку былі ўстаноўлены 26 насеньнямераў наступных сэрый:

а) *Лесасека ідзе з N на S. Сьцяна лесу з W і O* (кв. 44, кл. 50 і 51). Устаноўлены два роналежныя рады (на адлегласьці 19,0 м. адзін

[1]) У тыпе сьвежай рамені (кв. 44, кл. 39) паміж асноўнымі вадамернымі трубамі № 3 і № 4 у дрэвастане складу 9Е 1Ас Адз. Кл. Д. [90—100 л.] I бан. 2 дабр. паўн. 0.7, з глебай падзолістай, нармальна ўвільготненым суглінкам на марэне.

[2]) У тыпе вільготнай рамені (кв. 44, кл. 52) паміж асноўнымі трубамі № 5 і № 6, у дрэвастане складу 9Е 1Ас Адз. Кл. (90—100 л.) I бан., 2 дабр., паўн. 0,6 иа глебе надзолістай, са збыткоўным увільгатненьнем, лёсападобным суглінку на марэне, прычым на кантакце з марэнай знойдзен слой аглеёнага пяску моцы 0.2 м.

ад другога ўпоперак лесасекі) з 7 насеньнямераў у кожным радзе: 1) для заходняй сьцяны лесасекі (насеньнямеры № 13 і 24), 2) на 9 мэтрах ад заходняй сьцяны (насеньнямеры № 17 і 23), 3) на 18 м. ад заходняй сьцяны (насеньнямеры № 16 і 22), 4) на сярэдзіне лесасекі (насеньнямеры № 12 і 21), 5) на 18 мэтрах ад усходняй сьцяны (насеньнямеры № 15 і 20), 6) на 9 мэтрах ад усходняй сьцяны (насеньнямеры № 14 і 19) і 7) ля ўсходняй сьцяны (насеньнямеры № 11 і 18).

b) *Лесасека ідзе з N на S. Сьцяна лесу толькі з W.* (кв. 45, кл. 15). Устаноўлен простастаўна да сьцяны лесу рад з 6 насеньнямераў: на адлегласьці 100 м., 80 м., 60 м., 40 м., 20 м. ад сьцяны лесу і ля самай сьцяны лесу (адпаведныя №№ насеньнямераў: 44, 43, 42, 41, 40 39).

c) *Лесасека ідзе з W на O. Сьцяна лесу толькі з N* (кв. 45, кл. 2). Устаноўлен простастаўна да сьцяны лесу рад з 6 насеньнямераў: на адлегласьці 100 м., 80 м., 60 м., 40 м. і 20 м. ад сьцяны лесу і ля самай сьцяны лесу (адпаведныя №№ насеньнямераў наступныя: 38, 37, 36, 35, 34 і 33).

16. *Вывучэньне натуральнага засяваньня пад полагам яловых і хваёвых дрэвастанаў* Горацкага Лясного Дасьледчага Вучастку праводзілася ў 1925-26 г. пры дапамозе 9 шт. насеньнямераў, устаноўленых групамі па 3 насеньнямеры ў кожнай клетцы: у кл. 54 кв. 44, у кл. 48 кв. 45 і ў кл. 36 кв. 45. Да гэтых 9 насеньнямераў, якія захавалі ранейшыя месцы ў дрэвастанах і свае ранейшыя чарговыя нумары, у справаздачным 1926-27 г. дадана для кожнай групы яшчэ па 3 новыя насеньнямеры, і назіраньні над засевам пад полагам дрэвастанаў праводзіліся, такім чынам ў гэтым годзе з насеньнямерамі наступных трох сэрый:

a) У тыпе сьвежай рамені (кв. 45, кл. 38) пад яловым дрэвастанам 100 год складу: 10Е, адз. Ас. I бан., паўн., 0.9—6 насеньнямераў (№№ 1, 2, 3, 27, 28 і 29) у розным палажэньні ў адносінах да крон суседніх дрэваў.

b) У тыпе сьвежай рамені (кв 44, кл. 51) пад яловым дрэвастанам 100 г. складу: 8Е, 1 Кл 1 Ас, Адз Д., I банітэту паўн. 0.5 – 6 насеньнямераў (№№ 7, 8, 9, 10, 25 і 26) у розным палажэньні ў адносінах да крон суседніх дрэваў і да натуральных вакон у полазе дрэвастану.

c) У тыпе сумшары (кв. 45, кл. 36) пад палогам 65-летняга хваёвага дрэвастану складу: 8 хв. 2Б., III баніт. з паўнатой 0.8 – 6 насаньнямераў (№№ 4, 5, 6, 30, 31 і 32), устаноўленых з захаваньнем тых самых умоў.

Штодзенныя назіраньні над насеньнямерамі, устаноўленымі як на суцэльных лесасеках, так і пад палогам дрэвастанаў, праводзіліся з 10 красавіка да 18 жніўня 1927 г. З прычыны ненасеннага году і мокрага надвор'я апад насеньня быў надзвычайна малым і нерэгулярным. Для елкі ён пачаўся 20-IV і закончыўся 29-VII, для хвоі пачаўся 5-VI і закончыўся 14-VII. Максімум ападу насеньня назіраўся для елкі ў маі, а для хвоі ў чэрвені. З усей колькасьці 44-х насеньнямераў, якія працавалі, 33 шт. былі драўляныя, плошчай у 1 кв. м., 6 шт драўляных, плошчай у 0,25 кв. м. і 5 шт. бляшаных тыпу Агіеўскага, плошч. 0,25 кв. м.

17. Для вывучэньня рэжыму моцы сьнегавога насьцілу як на суцэльных лесасеках, так і пад полагам дрэвастанаў featуrнага ўзросту, складу і паўнаты, а таксама і на лясных прагалінах і палянах, у лістападзе 1926 г. ў кв. кв. 44 і 45 Горацкага Лясного Дасьледчага Вучастку было ўстаноўлена 19 сьнегамерных рэек:

a) На суцэльнай лесасецы ў яловым дрэвастане з кірункам з N на S пры сьценах лесу з W і E і шырыні лесасекі ў 50 мэтраў (кв. 44, кл,

61 і 62) устаноўлена 9 рэек наступным чынам: рэйкі № 1 і № 2 пад полагам дрэвастану, які прылягае да лесасекі з захаду, складу 9Е, 1Ас, Аддз. Кл, Д. у веку 100 г, тыпу сьвежай рамені, I баніт., паўн. 0,7—на адлегласьці 40 м. і 15 м. ад лесасекі, рэйка № 3 у заходняй сьцяны лесасекі, рэйка № 4—у адлегласьці 10 м. ад гэтай сьцяны на лесасецы, рэйка № 5—на сярэдзіне лесасекі, рэйка № 6—на лесасецы на 10 м. ад сьцяны лесу з усходу, рэйка № 7—па ўсходнім краі лесасекі, рэйкі № 8 і № 9—пад палогам дрэвастану, аналягічнага вышэйапісанаму, які прылягае да лесасекі з усходу,—на адлегласьці 15 м. і 40 м. ад краю лесасекі.

b) Пад палогам дрэвастанаў ўстаноўлены наступныя рэйкі: рэйка № 10 ў ялова-асінавым маладняку 20 год бяз высечкі ліставых парод (кв. 45, кл. 31, пробн. плошч. № 1), рэйка № 11 у такім самым маладняку, дзе зроблена выбарка ўсіх ліставых парод (кв. 45, кл. 31, пробн. плошча № 4), рэйка № 12—пад палогам дрэвастану тыпу сьвежай рамені складу 8Е, 2Ас, Адз. Б, Хв. (80 г.), I баніт., паўн. 0,9 (кв. 45, кл. 38, стал. проб. плошч. № 1), рэйка № 13 у той самай клетцы ў дрэвастане вільготнай рамені складу 7Е, 2Ас, 1 Хв. Адз Б. (90-80 г.), I баніт, паўн. 0,6.

c) Рэйка № 14 стаіць на вялікай паляне, адкрытай з усходу і поўдня; гэту паляну скарыстоўваюць як сенакос (кв 45, кл. 15), рэйка № 16—на прагал не ў дрэвастане тыпу вільготнай рамені складу 9Е, 1Ас, АдБ (90—100 г.), I баніт., паўн. 0.6 (кв. 44, кл. 41), рэйка № 15 на ўвараным полі, якое прылягае да лесу з усходу.

d) Рэйка № 19, 17 і 18—устаноўлены каля дажджамераў адпаведна №№ 1, 2 і 3 (гл. далей).

Назіраньні над моцай сьнегавога насьцілу праводзілася па апісаных 19 рэйках штодзенна з 2/XII—1926 г. да 16 красавіка 1927 г. Апроч таго, з 1 лютага 1927 г. праз кожныя 10 дзён ля кожнай рэйкі азначалася шчыльнасьць сьнегу пры дапамозе вагавага сьнегамеру.

18. Для вывучэньня законамернасьці і колькасьці затрыманьня атмасфэрных ападкаў кронамі яловага дасьпяваючага дрэвастану на Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку ў лістападзе 1926 г. ўстаноўлены тры дожджамеры звычайнага тыпу з Ніфэравай аховай: дажджамер № 1—на адкрытым мейсцы, у сядзібе вучастку, рэшта два дожджамеры ў кл. 22-ой, кв 45 у дрэвастане тыпу вільготнай рамені складу 10Е, Аддз. хв. (65—75 г.), I бан., 2 дабр., паўн. 0 9, з сярэдн. Д—28 см. і сяр. Н—26 м. У апісаным дрэвастане дажджамер № 2 устаноўлены пад кронай елкі 70 год, з дыямэтрам 44 см. і вышынёй 25 м. на адлегласьці ад ствала роўнай 1/3 радыуса кроны дрэва, а дажджамер № 3 — у стыку трох суседніх крон елак, якія толькі зьлёгку датыкаюцца адна да другой. Вышыня верхняга краю ўсіх трох дажджамераў ад паверхні зямлі роўна 2,0 м. Назіраньні над дажджамерам № 1 пачаты 5 лістапада 1926 г., над дажджамерамі № 2 і № 3—27 лістапада таго самага году, праводзіліся штодзенна раніцою (7 гадз. раніцы) і далі ў справаздачным годзе вынікі, якія прыводзяцца ў табл. VIII на стар. 250).

Такім чынам за 12 месяцаў 1927 г. пад палогам яловага дрэвастану, які дасьпявае і блізкі да нармальнага выпала ў сярэднім 418,6 мм. ападкаў параўнаньні з 837,0 мм., якія выпалі на адкрытым мейсцы, ці ўсяго 50,0%.

19. Згодна выпрацаванай праграмы з мэтай дэталёвага вывучэньня воднага рэжыму ў розных тыпах дрэвастанаў Горацкага Лясного Дасьледчага Вучастку роўналежна з назіраньнямі над хістаньнем узроўню грунтавых вод пры дапамозе водамерных труб думалі пэрыядычна азначаць вільготнасьць глебы на рознай глыбіні і ў генэтычна розных глебавых паземах для кожнага тыпу дрэвастанаў, які вывучаецца.

**Табл. VIII.Назіраньні над атмасфэрнымі ападкамі на Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку**

| Дажджамер / месяцы | Колькасьць ападкаў; у мілімэтрах 1 | 2 | 3 | у %% 1 | 2 | 3 | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926 г. | | | | | | | |
| XII | 42,0 | 31,4 | 36,7 | 100,0 | 74,8 | 87,4 | Перавышэньне ападкаў, якоеназіралася ў зімовыя месяцы ў дажджамерах № 2 і № 3 у параўнаньні з дажджамерам № 1, трэба вытлумачыць тым, што пэрыядычна траплялі ў гэтыя дажджамеры камкі сьнегу, які награмаджаўся на галінах елак |
| 1927 г. | | | | | | | |
| I | 14.2 | 16,4 | 18,1 | 100,0 | 115,5 | 127,4 | |
| II | 13,1 | 8,6 | 8,6 | 100,0 | 65,6 | 65,6 | |
| III | 29,6 | 49,1 | 25,0 | 100,0 | 165,9 | 84,4 | |
| IV | 45,0 | 6,7 | 20,8 | 100.0 | 14,9 | 46,2 | |
| V | 163,8 | 41,9 | 73,5 | 100,0 | 25,5 | 44,8 | |
| VI | 94,8 | 34,5 | 56,3 | 100,0 | 36.4 | 59,3 | |
| VII | 92,0 | 21,3 | 47,0 | 100,0 | 23,1 | 51,1 | |
| VIII | 129,3 | 39,0 | 72,6 | 100,0 | 30,2 | 56,1 | |
| IX | 114,3 | 49,0 | 73,8 | 100,0 | 42,8 | 64,5 | |
| X | 68,0 | 31,0 | 39,1 | 100,0 | 45,6 | 57,5 | |
| XI | 62,0 | 44,4 | 42,5 | 100,0 | 70,2 | 68.5 | |
| XII | 10,9 | 9.2 | 8,7 | 100.0 | 84,4 | 79,8 | |
| Сума за год | 837,0 | 351,1 | 486,0 | 100,0 | 41,9 | 58,1 | |

З тае прычыны, што лета было вельмі багата ападкамі з частымі дажджамі, якія перасыцілі глебу вільгацьцю, у справаздачным годзе былі зроблены толькі арыентавальныя азначэньні вільготнасьці глебы 30—31 жніўня і 6—7 верасьня ў наступных месцах:

a) У тыпе сьвежай рамені пад палогам 120 летняга дрэвастану, I баніт., 2 дабр., складу 10Е, Адз. Кл. Д. Ас., поўн. 0,8, (кв. 44, кл. 25, пазем 55.5 м.).

b) У тыпе сьвежай рамені пад палогам 120-летняга яловага дрэвастану, I баніт, 2 дабр., складу 9Е, 1 Ас., Адз. Кл. Д., поўн. 0,4 (кв. 44, кл. 36, пазем 54,5).

c) У тыпе вільготнай рамені пад палогам 90-летняго яловага дрэвастану I баніт., 2 дабр., складу 6Е, 4 Ас., Адз. Кл., паўн. 06 (кв. 44, кл. 63, пазем 50,0 м.).

d) У тыпе сырой рамені пад палогам 80-летняга дрэвастану III баніт., 2 дабр., складу: 5Е, 5 Ас., Адз. Б. Вол.—г., паўн. 0,6 (кв. 44, ікл. 74, пазем 49,8 м.).

e) У тыпе сумшары пад палогам 25-летняга бярозавага дрэвастану III баніт., 2 дабр., складу: 9Б, 1 хв., Адз., Вол. паўн., 0,6 (кв. 44, кл. 74 пазем 49,7 м.).

f) У тыпе імшары пад палагам 30-летняга хваёвага дрэвастану IV бан., 3 дабр., складу 1 О С, Аддз. Б, паўн. 0,5 (кв. 44, кл. 88, пазем 49,6 м.).

g) На чыстым сфагнавым балоце, парослым рэдкай карлікавай хвояй і бярозай ніжэй V банітэту (кв. 45, кл. 25, пазем 49,6 м.).

h) На вялікай паляне, якая скарыстоўваецца як сенакос, на адлегласьці 150 м. ад лесу (тып вільготнай рамені; кв. 45, кл. 16, пазем 48,3).

i) Здалёк ад лесу, на задзярнелай старой ральлі (пазем 50,1 м.).

Узоры для дасьледваньня браліся на генэтычна розных глебавых паземах, у сярэднім да-глыбіні 2,3 м. Вільготнасьць азначалася ў %% да вагі глебы ў абсалютна сухім стане.

Вынікі дасьледваньня паказалі ненармальна збыткоўнае увільгатненьне верхніх паземаў глебы ўва ўсіх тыпах рамені, якое дасягае ў сьвежай рамені 120%, у вільготнай 150% і ў сырой 200%. У сумшары, у імшары і на балоце паверхня глебы была пакрыта вадой і вільготнасьць глебы можна было азначыць толькі пачынаючы з глыбіні 0,4 — 0,5 м., дзе яна дасягала велічыні ў 600% у той самы час, як пад раменьню вільготнасьць глебы на гэтай глыбіні ўжо зьніжалася да 25 — 29%. А сярэдняя вільготнасьць марэны, якая падсьцілае глебу на глыбіні каля 1,5 м, хісталася каля 15%.

20. Для вывучэньня размераў і характару ветравалу і буралому ў кв. кв. 43, 44 і 45 Горацкага Ляснога Дасьледчага Вучастку, пачынаючы з сьнежня 1926 г. у канцы кожнага месяца робіцца падрабязны падлік усіх ветравальных і бураломных дрэваў з паказаньнем іх месцазнаходжаньня, пароды, вышыні і дыямэтру ствала, румбу паданьня дрэва, лічачы ад камля да верхавіны, характару пашкоджаньня самага ствола і суседніх дрэваў. Працяглясьць досьледу разьлічана на некалькі год. З мэтай награмаджэньня большага матар'ялу да вышэйпаказаных трох кварталаў у адносінах пад'іку ў іх ветравалу і буралому са жніўня 1927 году далучаны сумежны з імі кв. 41 Горацкай дачы.

21. Для вывучэньня працэсу засяваньня ў баравых дрэвастанах 1 сакавіка 1927 г. ўстаноўлена 47 драўляных насеньнямераў з плошчай кожнага 1 кв. м. пры Вяляцiцкім Лясным Дасьледчым Вучастку ў кварталах № 38, 48, 49 і 59 Вяляцiцкай Лясной дачы. Схэма ўстаноўкі гэтых насеньнямераў наступная:

a) 25 насеньнямераў на лесасецы 1924—25 году, якая з абодвух бакоў мае сьцены хваёвага лесу. Насеньнямеры ўстаноўлены ў 2 рады, якія маюць кірунак упоперак лесасекі. У першым радзе 9 насеньнямераў, у другім—16. Адлегласьць паміж радамі—69 мэтраў.

b) 4 насеньнямеры ў дрэвастанах складу 8С, 2Е, паўнаты 0,9.

c) 4 насеньнямеры ў чыстым хваёвым дрэвастане з паўнатою 0 7.

d) 4 насеньнямеры ў чыстым хваёвым дрэвастане з паўнатой 0,5.

e) 4 насеньнямеры ў чыстым дрэвастане хвоі па балоце (імшара) з паўнатой 0,7.

f) 6 насеньнямераў у хваёва-яловым дрэвастане складу 6С, 4Е з паўнатой 0,7.

Падлік насеньня ў насеньнямерах і выемка іх адбываліся штодзенна. Вынутае з насеньнемера насеньне пасьля пераліку і запісу іх кладуцца ў асобны папяровы мяшэчак для далейшага іх дасьледваньня.

Практыка прыстасаваньня насеньнямераў паказала, што ў інтарэсах дакладнасьці дасьледваньня трэба абараняць насеньнямеры ад птушак драцянай сеткай.

22. З мэтай вывучэньня заляганьня сьнегавога насьцілу ў баравых тыпах дрэвастанаў пры Вяляцiцкім Лясным Дасьледчым Вучастку ў справаздачным годзе праводзіліся штодзенныя назіраньні па 12 сьнегамерных рэйках, устаноўленых, агулам, паводле схэмы, паказанай для яловых дрэвастанаў Горацкага Вучастку.

23. Назіраньні над узроўнем грунтавых вод у грудавых тыпах дрэ-

вастанаў, арганізаваныя з 1924—25 году на Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку, у Бабруйскай акрузе, праводзіліся і ў справаздачным годзе над усімі 27 вадамернымі трубамі. З 1-X—1926 г. да 1-XI—26 г. назіраньні праводзіліся праз 3 сутак, з 1-XI—26 г. да 1-V—27 г.—праз 5 сутак, з 1-V—1927 г. да 1-XI—27 г.—штодзенна і з 1-XI—27 г. да 1-XII—27 г.—праз 5 сутак. Дадаткова ў працягу 16 дзён (з 9-га да 23 мая) праводзіліся штодзенныя вымеры тэмпэратуры вады ў 13 трубах, а ў працягу 6 дзён жніўня (11—16—VIII)—вымяраўся ўзровень вады ўва ўсіх трубах 4 разы ў дзень: 1-шы вымер—звычайны дзенны, 2-гі—за 1 гадзіну да заходу сонца 3-ці — пасьля заходу сонца і 4-ты а 12 гадз. ночы. Пачынаючы з 6-XI—26 адначасна з вымерам узроўню вады ў трубах запісваўся і ўзровень вады ў рацэ па ўстаноўленай тут сталай рэйцы.

24. Узімку па лініі вадамерных труб Жорнаўскага Вучастку адбываліся назіраньні над таўшчынёй сьнегавога насьцілу па 4 рэйках.

25. Назіраньні над засяваньнем грудавых тыпаў дрэвастанаў раней практыкаваліся, як збор насеньня на расчышчаных пад дрэвастанам пляцоўках. У справаздачным годзе пляцоўкі паступова заменены драўлянымі насеньнямерамі разьмерам у 1 кв. мэтр. Такіх насеньнямераў у Жорнаўскім вучастку ўстаноўлена: 6 шт. 3-XI—1926 г., 12 шт.—14-II—1927 г., 6 шт.—6-IX—1927 г. Да канца справаздачнага году іх было пад дрэвастанамі 23 шт. (адзін украдзены).

26. Спэцыяльныя назіраньні на Жорнаўскім Вучастку былі арганізаваны ўвосень 1927 г над засяваньнем дубу летняга і дубу зімовага. Для гэтага пад палогам грудавога дрэвастану заложана 26 пляцовак на зямлі для збору жалудоў (з іх 24 шт. па 2 кв. м., 2—па 10 кв. м.) і ўстаноўлена 4 драўляныя насеньнямеры з прыймовай плошчай 0 25 кв. м. кожны. Назіраньнямі было ахоплена 22 экзэмпляры дубу, які рана цьвіце, і 25 экзэмпляраў дубу, які позна цьвіце. Пачынаючы з 14-IX—27 г. да 12-XI—27 г. пляцоўкі наведваліся штодзённа.

27. Паводле праграммы, складзенай Аддзелам Лесазнаўства, Догляду і Рубак ЦЛДСБ, на сродкі прызначаныя былым Васілевіцкім Лясным Тэхнікумам, асыстэнт А. Л. Новікаў праводзіў улетку 1927 г. абсьледваньне тыпаў дрэвастанаў Васілевіцкай лясной дачы (б. Рэчыцкай акругі).

Працягнены збор матар'ялу па тыпах яловых дрэвастанаў.

---

Да сыстэматычнага вывучэньня тыпаў дрэвастанаў Беларусі, прадугледжанага праграмай для справаздачнага году, Станцыя не магла прыступіць дзеля таго, што ня было дана крэдытаў на гэтыя працы, а бяз крэдытаў Станцыя не магла арганізаваць патрэбных для гэтых работ спэцыяльных дасьледчых партый.

## III. Дасьледваньне натуральнага аднаўленьня ў лясох БССР.

28. На ранейшых 12 сталых дасьледчых пляцоўках пад палогам грудавых дрэвастанаў Жорнаўскага Вучастку зроблены агульны пералік памаладзі.

29. На вучастку поля, якое прылягае да лесу і пакінута пад натуральны зарост лесу на Жорнаўскім Вучастку, зроблены пералік самасеву на 32 раней заложаных сталых пробных пляцоўках велічынёй па 2 кв. мэтры кожная.

30. У квартале № 105 Жорнаўскай дачы на лесасецы № 1 увосень 1927 г. заложана 6 сталых пробных пляцовак для ўліку ходу аднаўленьня. Велічыня кожнай пляцоўкі 100 кв. мэтраў.

31. У квартале № 70 Жорнаўскай дачы на палосах № 1 і № 2 паступовай высечкі заложана 20 сталых пробных пляцовак для падліку памаладзі. Велічыня кожнай пляцоўкі 100 кв. мэтраў.

32. Працягнена дасьледваньне натуральнага аднаўленьня на суцэльных лесасеках Горацкай дасьледчай дачы.

## IV. Досьледы па даглядзе за дрэвастанамі.

33. Пачата заснаваньне дасьледчых плошчаў па асьвятленьні дубу пры Жорнаўскім вучастку. Заснаваньне досьледу да канца не праведзена дзеля адсутнасьці сродкаў.

34. Абсьледвалася Горацкая лясная дача з мэтай выбару месц заснаваньня досьледаў па даглядзе за яловымі дрэвастанамі. Дзеля адсутнасьці сродкаў заснаваньне дасьледчых плошчаў пераносіцца на наступны год.

## V. Дасьледчыя рубкі

35. Паводле праграмы, выкладзенай у I томе „Матар'ялаў па Лясной Дасьледчай Справе Б. С. С. Р. (стар. 91—93, пункт 25) выканана рубка спосабам Карнакоўскага ў кв. 105 Жорнаўскай дачы иа дзьвюх палосах лесасекі № 1, 1926—27 г. Усе прадугледжаныя праграмай навуковыя абсьледваньні і запісы выкананы загадчыкам Жорнаўскага Ляснага Дасьледчага Вучастку. Дзеля адсутнасьці сродкаў у лясьніцтве лесасекі не агароджаны і своячасна ня вывезены з іх астаткі загатовак. Усё-ж такі ўвесну яны былі ачышчаны ад хламу і апошні зложаны для пералетваньня ў вялікія куты. Агнём лесасекі не ачышчаліся дзеля захаваньня памаладзі.

36. Паводле праграмы і схэмы, выкладзенай у тым самым томе „Матар'ялаў па Л. Д. С. Б.“ (стар. 89—91, пункт 24) у квартале № 70 Жорнаўскай дачы (у межах Жорнаўскага Ляснога Дасьледчага Вучастку) выканана запраектаваная першая стадыя паступовай вырубкі на паласе № 1. Высечка паказаных праграмай дрэваў і вывазка лесаматар'ялаў адбыліся ўзімку 1926—27 г. і часткай у пачатку вясны 1927 г. Увесну 1927 г. увесь хлам і дробныя астачы высечкі раскіданы роўным пластам па ўсей плошчы лесасекі. Прызначана для вырубкі паласа № 2 і адмечаны на ёй усе дрэвы, якія павінны быць высечаны ўзімку 1927—28 г. Асіна ў колькасьці 106 дрэваў на палосах № 1 і № 2 аперсьценявана ўвесну 1927 г.

37. Працягваліся работы на лесасеках дасьледчай вырубкі з розным кірункам лесасек і з рознай шырынёй лесасек у яловых дрэвастанах Горацкай дачы. Гэтым досьледам ахоплена ўся лесасека Горацкай дачы высечкі 1926—27 г. У працягу зімы вывозіліся дрэвы з лесасекі. Усё-ж такі частка дрэваў засталася непраданай і павінна быць абавязкова вывезенай ў пачатку зімы 1927—28 г. Схэма досьледу падана ў справаздачы за 1925—26 г. (стар. 78, пункт 25).

38. Абсьледваліся дрэвастаны Вяляцііцкай лясной дачы з мэтай выбраць прыгодныя кварталы і дрэвастаны для заснаваньня дасьледчых вырубак у хваёвых тыпах.

## VI. Праца ў лясным вэгетацыйным доміку

Вэгетацыйны мэтад дасьледваньня набыў ужо сталае становішча ў лясной дасьледчай справе. Як мэтад, які стаіць па сярэдзіне паміж чыста

лябараторным дасьледваньнем і дасьледчай працай у лесе, ён у цяперашні час настолькі патрэбны, што пры разьвязаньні некаторых пытаньняў лесазнаўства без яго зусім нельга абыйсьціся. Таму Аддзел Лесазнаўства, Догляду і Вырубак Ц. Л. Д. С. Б. з самага свайго ўзьнікнаваньне самым энэргічным чынам клапаціўся аб пабудове вэгетацыйнага доміку.

Гэту думку ўдалося ажыцьцевіць у справаздачным годзе. Увесну 1927 г. у лясным гадавальніку № 1 каля Горак (на тэрыторыі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі С. Г.) пабудаваны спэцыяльны лясны вэгетацыйны домік. Памер яго: даўжыня 12,4 м., шырыня 6,3 м, вышыня ад падлогі да верхняй абвязкі 3,1 м. Пры такіх памерах па плошчы ў доміку можна працаваць, маючы 600 вэгетацыйных судзін. Канструкцыя доміка, распрацаваная Загадчыкам Аддзелу Лесазнаўства, відна з далучаных тут фатаграфічных зьнімкаў № 1, 2 і 3 (гл. стар. 255—257). Такая канструкцыя доміка аказалася ўдалай. Дзякуючы добрай і заўсёды чыннай натуральнай вэнтыляцыі праз вялікую плошчу драцянай сеткі (унізе, у франтонах, пад дахам і у самым даху) тэмпэратура паветра і яго вільготнасьць унутры доміка зусім ня розьняцца ад тэмпэратуры паветра і вільготнасьці па-за домікам. Шматразовыя дакладныя вымеры, якія праводзіліся ў працягу доўгага часу, пацьвердзілі гэта.

Хоць пабудова доміку і зацягнулася занадта позна, усё ж такі ў справаздачным годзе былі пастаўлены 2 дасьледчыя працы, азначаныя ніжэй пад №№ 39 і 40.

39. Праца на тэму: „Уплыў генэтычна розных паземаў падзолістай з адзнакамі збыткоўнага увільгатненьня глебы тыпу вільготнай рамені на разьвіцьцё елкі мадрыны, дубу, бярозы і ліпы“. Заложана ў 105 вэгетацыйных судзінах.

Глеба ўзята ў маі м-цы ў 14 клетцы кварталу № 45 Горацкай дачы. Разрэз глебы ў гэтым месцы выяўляе наступныя паземы.

| | |
|---|---|
| $A_0$ — 0 — 5 см. | *Лясная подсьцілка* з напоўгнілых лісьцяў, іголак, галінак і інш. Цёмна-цынамонавага колеру. |
| $A_1$ — 6 — 12 см. | *Перагнойна-акумуляцыйны* пазем цемнавата-шэрага колеру. Лёссавая гліна лёгкая. |
| $A_2$ — 13 — 22 см. | *Элювіяльны* пазем жаўтавата-бялёса-шэрага колеру з дробнымі крапкаванымі арштэйнамі іржава-чорнага колеру ў ніжняй частцы і з гумознымі пацёкамі па ходах карэньняў. |
| $B_1$ — 23 — 40 см. | *Ілювіяльны* (*пераходны*) пазем вохрана-іржава-жоўтага колеру з бялёсаватымі ападзоленымі пацёкамі і з канцамі гумозных пацёкаў. У іржава-жоўтых вучастках дробныя арштэйны. Лёссавая лёгкая гліна плінчата-ліставатай структуры. |
| $B_2$ — 40 — 90-100 см | *Ілювіяльны* бура-іржава-чырвонага колеру пазем з рэзкімі зацёкамі з пазему $A_2$. Лёссавая лёгкая гліна плінчата-пласкаватай структуры. |
| C — 100 см. і глыбей. | Марэна цагляна-чырвона-іржавага колеру з махровымі чорна-цынамонавымі плямамі, з валунамі, ніжэй аглееная. На кантакце паземаў $B_2$ і C награмаджэньне валуноў. |

Тыповы глеевы пазем узяты ў клетцы 9-тай таго самага 45 кварталу. у тыпе „сумшара“.

Дзеля таго, што гэта першая праца вэгетацыйным мэтадам у практыцы лясной дасьледчай справы ў Беларусі, паданы ў кароткіх рысах

зьвесткі аб заснаваньні данага досьледу. Нарыхтаваная па паземах глеба дастаўлена з лесу да вэгетацыйнага доміку, гдзе была прасушана, стоўчана, прасеяна і даведзена да паветрана сухога стану. Азначана поўная (вагавая) вільгатаёмкасьць і гіграскапічнасьць. Азначалася вага глебы,



*Фатаграфія № 1.* **Лясны вэгетацыйны домік Цэнтральнай Ляснай Дасьледчай Станцыі Беларусі (1927 г.) (выгляд сьпераду)**

Phot. № 1. Glashaus für Vegetationsversuche der Centraler Forstlicher Versuchsstation von Belarussi (Vorderansicht),

патрэбнай для набіўкі судзіны. Пры набіўцы судзін вільготнасьць глебы даводзілася да 40% ад поўнай вільготаёмкасьці, таму што ў такім стане глеба ня пыліць, ня зьліпаецца, ня мажацца. Набіўка выяўляецца ў зьмяшчэньні ў судзіну глебы ценкімі пластамі пры роўнамерным ушчыльненьні іяе, каб яна пасьля ня асела.

Падрыхтоўка судзін была звычайная. Яна выяўлялася ў пакрыцьці судзін з знадворнага боку белай алейнай фарбай, у занумараваньні судзін, у пакрыцьці іх унутры ізаляцыйным пластам з дамаравага ляку, у нарыхтоўцы дранажу і закладаньні яго на дно судзіны. У якасьці дранажу ўжывалася бітае шкло і галька.



*Фатаграфія* № 2. Вэгетацыйны домік Ц.Л.Д.С.Б. (выгляд збоку).
Phot. № 2. Glashaus für Vegetationsversuche der Centraler Forstlicher Versuchsstation von Belarussi (Seitenansicht).

Судзіны, ужытыя для данага досьледу, цыліндрычнай формы з ацынкаванага зялеза, памерам у вышыню—25 см., па дыямэтры—18 см. унутры). Для другога досьледу (№ 40) судзіны зроблены таксама з ацынкаванага зялеза, але чатырохкутныя з зьлёгка закругленымі кутамі,



*Фатаграфія* № 3. Вэгетацыйны домік Ц.Л.Д.С.Б. Выгляд доміка ўнутры ў 1928 г.
Phot № 3. Glashaus für Vegetationsversuche der Centraler Forstlicher Versuchsstation von Belarussi (Innenansicht)

памерамі ў вышыню 40 см. (унутры), з паземным сячэньнем 23 см.×23 см.

Палівалі судзіны дыстыляванай вадой, па вазе, зьнізу, час ад часу і зьверху. Вільготнасьць глебы падтрымлівалася ў сярэднім у 60% ад поўнай вільготаёмкасьці, не падымалася вышэй 70% і ня спускалася ніжэй 50%. Разьлікі, зробленыя для набіўкі і паліўкі судзін, паданы ў наступнай табліцы:

| | $A_0$ | $A_1$ | $A_2$ | $B_1$ | $B_2$ | C | Глеевы пазем |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| №№ судзін | 1—15 | 16—30 | 31—45 | 46—60 | 61—75 | 76—90 | 91—105 |
| Вільгатаёмкасьць у %% | 102,48 | 60,80 | 31,39 | 24,70 | 24,96 | 18,41 | 29,05 |
| Гіграскапічнасьць у %% | 6,15 | 3,50 | 1,78 | 2.57 | 2,50 | 2,95 | 2,95 |
| Вага судзін з дранажом | 2,500 | 2,500 | 2,000 | 2,000 | 2,000 | 2,000 | 2,000 |
| Вага абсалютна сухой глебы ў судзіне | 3,300 | 6,500 | 7,909 | 8,000 | 8,500 | 9,000 | 8,000 |
| Вага паветрана-сухой глебы ў судзіне | 3,503 | 6,727 | 8,050 | 8,206 | 8,712 | 9,266 | 8,236 |
| Вага вады да 60% вільгатаёмкасьці | 2,029 | 2,371 | 1,490 | 1,185 | 1,273 | 0,994 | 1,394 |
| Вага вады да 40% вільгатаёмкасьці | 1,353 | 1,581 | 0,993 | 0,790 | 0,849 | 0,663 | 0,930 |
| Вага вады да 70% вільгатаёмкасьці | 2,310 | 2,766 | 1,738 | 1,381 | 1,485 | 1,160 | 1,627 |
| Вага вады да 50% вільгатаёмкасьці | 1,691 | 1,976 | 1,242 | 0,988 | 1,061 | 0,829 | 1,162 |
| Максімальная вага судзіны (вады да 70% вільг.) | 8,110 | 11,766 | 11,647 | 11,381 | 11.985 | 12,160 | 11,627 |
| Мінімальная вага судзіны (вады да 50% вільг.) | 7,491 | 10,976 | 10,969 | 10,988 | 11,349 | 11,829 | 11,162 |
| Сталая вага судзіны (вады да 60% вільг.) | 7,829 | 11,371 | 11,399 | 11,185 | 11,773 | 11,994 | 11,394 |
| Дранаж | Галька | Галька | Шкло | Шкло | Шкло | Шкло | Шкло з галькай |

У справаздачным годзе для дасьледваньня ўзяты: елка звычайная, мадрына сібірская, дуб чарэшчаты, ліпа сэрцалістевая і бяроза пушыстая. У далейшым мяркуем зрабіць той самы досьлед з іншымі пародамі, клёнам звычайным, ясенем,, асінай і інш.

Таму, што домік аказаўся гатовым вельмі позна і таму, што наогул пасеў ляснога насеньня ў вэгетацыйныя судзіны часта дае вынікі няўдалыя, то ў даным выпадку вырашана было ў судзіны не высяваць насеньне, а перасадзіць усходы, атрыманыя на градках.

Насеньне *елкі звычайнай* было сабрана з аднаго дрэва 28-I-26 г. у 41 квартале Горацкай дачы, высеяны ў градку 24-VI-27 г., дало адзінкавыя ўсходы 18-VII-27. Перасадка ўсходаў у судзіны зроблена 29-VII-27 г. па 5 экз. у судзіну.

Насеньне *мадрыны сібірскай* атрымана ад вуч. лесавода Д. Я. Манцэвіча ўлетку 1926 г. з насеньня, сабранага ў 1925 годзе, ў Таватуйскім лясьніцтве Сьвярдлоўскай акругі Уральскай вобласьці, высеяна 31-V-27 г.: першыя ўсходы дало 17-VI-27. Усходы высаджаны ў судзіны 31-VII-27 г. па 5 экз. у судзіну.

Насеньне *дубу* сабрана з аднаго дрэва каля сядзібы Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі С. Г. увосень 1926 г., узімку захоўвалася ў пяску ў склепе, высеяна 24-V-27, першыя ўсходы дало 18-VI-27. Усходы перасаджаны 30-VII-27 па 2 экз. у судзіну.

Насеньне *ліпы* сабрана ўвосень 1926 г., высеяна ўвосень 1926 г. Усходы перасаджаны 29-VII-27 па 5 экз. у судзіну.

Усходы *бярозы* (насеньне мясцовае) перасаджаны 30-VII-27 па 5 экз. у судзіну.

Паўторнасьць судзін для кожнай пароды і кожнага пазему ўзята патройная. У дзень перасадкі спэцыяльныя выкапкі і абмеры далі наступныя вялічыні, якія характарызуюць стан усходаў на градках.

| Пароды | Вага сырой масы у грамах аднага ўсхода ў сярэднім | | | Даўжыня надземнай часткі ў сярэднім аднаго усхода у мм. |
|---|---|---|---|---|
| | Сьцябло | Корань | Усяго усхода | |
| Дуб . . . . . . . . | 0,885 | 2,496 | 3,381 | 125 |
| Ліпа . . . . . . . | 0,108 | 0,058 | 0,166 | 40 |
| Мадрына . . . . . . . | 0,0597 | 0,0086 | 0,0683 | 34 |
| Елка . . . . . . . | 0,0360 | 0,0082 | 0,0442 | 26,6 |

Вышыня ўсіх сеянцаў у вэгетацыйных судзінах вымераны зараз-жа пасьля пасадкі і пасьля заканчэньня росту ўвосень, а таксама вымяралася пэрыядычна. Вяліся запісы і фэналягічнага парадку.

Генэтычна розныя паземы падзолістай глебы розна ўплываюць на рост і разьвіцьцё маладых расьлін аднаго і таго самага віду, а дасьледваныя 5 відаў таксама па рознаму рэагуюць на асобныя глебавыя паземы. Асабліва рэзка рэагуе бяроза, пасьля мадрына. Аднак такога кароткатэрміновага досьледу аказалася мала для кончатковых высноў і дзеля гэтага вырасьліваньне тых самых расьлін і ў тых самых судзінах будзе праводзіцца і ў працягу ўсяго наступнага вэгетацыйнага пэрыяду 1928 г., пасьля чаго вырасьліваныя двухлеткі пойдуць ужо ў апрацоўку. Правядзеньне вопыту даручана асьпіранту катэдры агульнага лесаводзтва, вучонаму лесаводу І. І. Дэікоўськаму. Здабыты ім матар'ял па двухгадовых сеянцах перадаецца яму-ж дзеля апрацоўкі і апублікаваньня ў „Матар'ялах па Лясной Дасьледчай Справе Беларусі“.

40. У якасьці другой працы ў вэгетацыйным доміку праводзіўся досьлед на тэму: „Уплыў некаторых стымулюючых матэрый на рост хвоі звычайнай, елкі звычайнай і вязу“.

Пытаньнем аб стымулянтах, якія усільваюць рост расьліны, за апошнія гады моцна цікавіліся ў замежжы, а часткай і ў нас у сельскагаспадарчай літаратуры. Пачатак гэтаму палажыў баўгарскі прафэсар Папоў, які быццам наткнуўся на такія некаторыя хэмічныя злучэньні, што калі ў іх рашчыне намачыць насеньне перад пасевам, дык павялічваецца і рост расьлін і іх ураджайнасьць. Праверкі некаторых нямецкіх вучоных не далі пэўных вынікаў. У кожным разе ў Нямеччыне ўжо некалькі год таму назад утварылася Таварыства, якое нарыхтоўвае спосабам Папова, рэклямуе і прадае стымулянты для сельска-гаспадарчых расьлін. Адрас таварыства: „Gesellschaft für Stimulation“—Berlin NW. 7, Schadowstrasse, 4—5. З каталёгу Таварыства відаць, што яно прапануе асобныя стымулянты для жыта, пшаніцы, ячменю, аўса, проса, кукурузы, рэпы, бульбы, канаплёў, стручковых расьлін.

З артыкулу д-ра Шпільмана („Сельскохозяйственная Жизнь“, 1925 г. № 18, стар. 29 — 31) я даведаўся, што ў Маскве ўтварылася ўжо „Общество по повышению урожайности путем активирования семян“

(старшыня праф. Н. І. Вавілаў, намесьнік праф. Э. А. Мэйер, сакратар праф. В. І. Пангало, арганізатар д-р Т. І. Шпільман).

У 1924 і 1925 г. г., калі на лясныя дасьледчыя працы сродкаў амаль што не давалася, я для сваіх вучняў і для сябе ўсільна распрацоўваў праграмы такіх дасьледчых прац, выкананьне якіх магчыма без затрат грашовых сродкаў або у кожным разе, пры затраце мінімума сродкаў. Апроч таго, запраўды ня простую цікавасьць выклікае пэрспэктыва вырасьціць, напр., за 5 год дрэва такой велічыні, якой, пры дагэтуль вядомых нам спосабах пасеву, пасадкі і дагляду, яно дасягае толькі ў 10 год. Я пастараўся сьпісацца з успомненым Таварыствам у Маскве, з д-рам Шпільманам і з нямецкім Gesellschaft für Stimulation. Ад таварыства ў Маскве і ад д-ра Шпільмана я ніякага адказу на свае лісты не атрымаў. А ад Бэрлінскага Gesellschaft für Stimulation атрымаў цэлую пачку літаратуры, рэклям, тлумачэньняў, прэйскурантаў і прапанову бясплатна выслаць узоры стымулянтаў, калі я згодзен у навуковых абставінах спрабаваць іх і апавясьціць грамадзянства аб выніках досьледу. Я, вядома, даў такую згоду і ў адказ на гэта атрымаў дарма пасылку з трыма стымулянтамі для „лясных дрэваў", як было напісана ў далучніку (№№ А, В, С,). Праўда, у тым-жа далучніку было сказана: „Мы пасылаем Вам з свайго набору 3 розныя сродкі стымуляваньня, але мы не маглі папярэдна з пэўнасьцю высьветліць, якое з трох сродкаў уплывае найлепш". І далей: „зробленыя намі прабаваньні пакуль абмежаваліся яловым і хваёвым насеньнем. Мы вельмі віталі-б, калі-б Вы спрабавалі з ліставымі дрэвамі".

Перапіска, атрыманьне і інш. падрыхтавальная праца цягнуліся доўга і толькі ў 1927 г. аказалася магчымым прыступіць да спрабаваньня стымулянтаў як нямецкага вырабу паводле рэцэпту Папова, так і некаторых іншых. Досьлед праводзіцца трыма спосабамі: 1) у вэгетацыйным доміку, 2) у апаратах для прарашчваньня насеньня і 3) на градках у гадавальніку.

У вэгетацыйным доміку прабуецца ўплыў стымулянтаў на елку, хвою і вяз. У градках—на хвою, елку, мадрыну сібірскую, вяз, жоўтую акацыю і бярозу. У апаратах прарошчана пасьля апрацоўкі стымулянтамі насеньне хвоі звыч., хвоі крымскай, елкі звыч., бярозы гузаватай.

Стымулянты прабаваліся наступныя:

1) А (нямецкі паводле Папова) пры намачваньні насеньня ў працягу 12 гадз., 24 гадз. і 36 гадз.
2) В пры 12, 24 і 36 гадз. намачваньні.
3) С пры 12, 24 і 36 гадз. намачваньні.
4) $MnSO_4$ пры 12, 24 і 36 гадз. намачваньні ў 1% рашчыне,
5) $MnSO_4$ „ 12, 24 і 36 „ „ ў 3% „
6) $MnCl_2$ „ 12, 24 і 36 „ „ „ 1% „
7) $MnCl_2$ „ 12, 24 і 36 „ „ „ 3% „
8) Гідрахінон пры 12, 24 і 36 гадз. намачваньні ў 1% рашчыне.
9) KCl пры 12, 24 і 36 гадз. намачваньні ў 1% рашчыне.
10) KCl „ 12, 24 і 36 „ „ „ 3% „

Для параўнаньня высеяна насеньне:
11) Намочанае ў дыстыляванай вадзе ў працягу 12, 24 і 36 гадзін.
12) Насеньне сухое.

Для набіўкі вэгетацыйных судзін глеба ўзята ўрадлівая і добрых фізычных уласьцівасьцяў, каб ня было ўплыву недахопу пажыўных матэрый для выращчваных расьлін. Поўная вілагатаёмкасьць 38,6%. Гі-

граскапічнасьць 3,17%. У судзіны высаджваліся або ўсходы або праросслае насеньне.

Дзеля таго, што вынікі атрымаліся нявыразныя, апрацоўку матар'ялу прышлося адлажыць да 1928 году, калі будзем мець двухлетнія сеянцы.

У якасьці папярэдняга выснаўку ўжо можна сказаць, што наш досьлед ужываньня стымулянтаў для лясных дрэваў агулам пацьвярджае вынікі аналягічнага досьледу з сельска-гаспадарчымі расьлінамі, праведзенага ўжо прафэсарам Цімір. С.-Г. Акадэміі С. Г. Жагалавым, які нядаўна памёр (гл. „Научно-агрономический журнал, 1927 г. № 2).

У пэўнай меры можна стымуляваць прарастаньне насеньня, але мы вельмі далёка ад такога стымуляваньня росту расьліны спосабам намачваньня насеньня, якое ўжо цяпер мела-б практычнае значэньне.

## VII. Іншыя працы.

З дасьледчых прац, якія не ўвайшлі ў гэты агляд, ў справаздачным годзе, як і ў папярэднім, праводзіліся мэтэаралягічныя назіраньні, бо бяз іх немагчыма весьці навуковую апрацоўку лесаводзтвенных дасьледзаньняў. Мэтэаралягічная станцыя на Жорнаўскім вучастку за справаздачны год набыла ртутны чашачны баромэтр, псыхромэтр Аўгуста, мінімальны тэрмомэтр і тэрмомэтр на паверхні глебы. Не хапае максімальнага тэрмомэтру і баромэтру-анэроіда.

Арганізаваны ў справаздачным годзе прасьцейшыя мэтэаралягічныя назіраньні на Горацкім і Вяляціцкім вучастках.

На Горацкім вучастку каля дажджамеру № 1, паказанным у пункце 18 гэтай справаздачы, на сядзібе вучастку ў першых днях жніўня 1927 г. устаноўлена ангельская псыхрамэтрычная будка, а 25 жніўня 1927 года ўстаноўлен флюгер Вільда. Тэрміновыя назіраньні 3 разы на дзень праводзяцца над тэмпэратурай паветра з 4-VIII—27, над кірункам, сілай ветру і захмаранасьцю з 27-VIII—27.

На Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку таксама з гэтага году вядуцца штодзенныя мэтэаралягічныя назіраньні, якія паводле палажэньня належаць да мэт. станцыі III разраду, над выпадзеньнем агадкаў па дажджамеру з 6 лістападу 1926 г.

## В.

## Па Аддзелу лясных Культур і Лесамэліарацый.

Дасьледчыя працы Аддзелу Лясных Культур і Лесамэліарацый паводле справаздачы загадчыка Аддзелам праф. А. В. Касьцяева і асыстэнта К. Ф. Мірона, выяўляліся ў 1926—27 г. ў наступным:

### I. Вывучэньне збору і схову ляснога насеньня.

4. Увосень 1926 г. быў зроблены збор гаспадарчым спосабам насеньня для Горацкага Дасьледчага Ляснога Гадавальніка, пры чым было сабрана насеньне наступных парод: дубу чарэшчатага (Quercus pedunculata), конскага каштану (Aesculus hyppocastanum), клёну звычайнага (Acer platanoides), явару (A. pseudoplatanus), палявога клёну (A. Campestre), татарскага клёну (A. tataricum), сэрцалістай ліпы (Tilia cordata), ясеню амэрыканскага (Fraxinus americana) і некаторых іншых.

Насеньне зьбіралася большай часткай на тэрыторыі Акадэміі, толькі жалуды каля 500 кіляграмаў прышлося сабраць з асобных дрэваў на палёх вёскі Тосна, за 4 кілямэтры ад Горы-Горак.

2 Жалуды і конскі каштан у частцы, якую меркавалі пакінуць на пасеў у гадавальніку ў весну 1927 г., пасьля прасушкі іх у працягу чатырох тыдняў на вышках, былі запяскованы ў звычайных драўляных скрынках. Прычым, з дасьледчай мэтай, для вызначэньня больш мэтазгоднай таўшчыні пласту жалудоў і таўшчыні пяшчанай праслойкі, апошняй давалі ў розных скрынках розныя разьмеры: ад 2,22 да 13,33 сант. (ад $^1/_2$ да 3-х вяршкоў) таўшчыня праслойкі для каштану была ўзята ў $4^1/_2$ сант. Апроч таго і жалуды і каштаны роўнамерна зьмешваліся з пяском, а таксама было пакінута 4 клгр. кожнай пароды бяз усякага пяскаваньня. Пясок бралі жоўты, дробны, з палёў. Тэмпэратура ў склепе, дзе захоўваліся запяскаваныя жалуды і конскія каштаны, вымяралася штодзенна, пачынаючы з 27 кастрычніка 1926 г. і канчаючы 30 красавіком 1927 г. і ў самы сьцюдзёны час (студзень) не апускалася ніжэй —1,3°С, складаючы ў сярэднім за гэты месяц—0,4°С. Найбольш высокая тэмпэратура ў склепе назіралася ў лістападзе і даходзіла да 7,5°С.

## II. Досьледы і дасьледваньні ў Горацкім Лясным Дасьледчым Гадавальніку.

3. Увосень 1926 г. быў зроблены пасеў насеньня наступных пород: летняга дубу, конскага каштану, явару, звычайнага, палявога і татарскага клёнаў, сэрцалістай ліпы, амэрыканскага ясеню, хвоі звычайнай - Pinus silvestris (з Чавускага Лясьніцтва Магілеўскай акругі), елкі звычайнай—Picea excelsa (з Горацкага лясьніцтва) і хвоі крымскай—P. Laricio v. taurica (з Алушцінскага лясьніцтва).

Васеньнія пасевы ставілі перад сабой, галоўным чынам, два заданьні. З аднаго боку, мелася на ўвазе ўплыў запраўкі пасеўных бароздаў розным матар'ялам (перагнойнай зямлёй, пяском і сугліністай глебай) на паяўленьне ўсходаў і іх далейшы рост на насеннай градцы. З другога боку, пажадана было спрабаваць уплыў насьцілу градак розным матар'ялам (жытняй саломай, лясным мохам, яловымі лапкамі і яловым пілавіньнем) на перазімаваньне засеяных градак і наступнае прарастаньне насеньня. Поруч з гэтым, для параўнаньня, некалькі градак з адпаведнымі пародамі былі пакінуты без усялякага насьцілу на зіму, як гэта рабілася ў беларускіх умовах некаторымі нашымі лесаводамі-практыкамі.

Пасевам насеньня звычайнай хвоі і звычайнай елкі мелася на ўвазе высьветліць магчымасьць атрыманьня добрых вынікаў па васеньніх пасевах замест звычайна практыкаваных веснавых, а пасевам насеньня крымскай хвоі, апроч вышэйсказанага, яшчэ і пераканацца наколькі нагул дапушчальны ў БССР васеньні пасеў такой паўднёвай дрэўнай пароды, як крымская хвоя.

Васеньнія пасевы з некаторымі перапынкамі адбываліся ў кварталах 6, 7, і 12 у прамежку часу з 11 кастрычніка да 24 лістапада ўключна, прычым тэмпэратура ў дні працы была заўсёды вышэй 0°С, значна хістаючыся і дасягаючы ў некаторыя дні да 8,4°С.

4. Частка градак з аднагоднімі сеянцамі крымскай хвоі пасеву 5 чэрвеня 1926 г. (квартал 12), з мэтай забесьпячэньня ад магчымых пашкоджаньняў марозамі, была прыкрыта пластам моху, а другая частка для параўнаньня пакінута бяз ніякага прыкрыцьця Тое самае было зроблена і ў іншых кварталах з больш познымі пасевамі крымскай хвоі (2, 3, і 4 чаргі). Папярэдна перад прыкрыцьцем градкі з крымскай хвояй ачышча-

лiся ад экзэмпляраў, заражоных грыбком Fusarium i расадным грыбком (Moniliopsis Aderhaldii Ruhe).

5. З васеньняй працы трэба яшчэ адзначыць двухразовы збор (у кастрычнiку) на розных насенных градках чарвяка (Athous niger i Agriotes lineatus), прычым колькасьць яго супроць летнiх месяцаў панiзiлася i на многiх градках яго нават не аказвалася.

Сюды-ж трэба аднесьцi i правядзеньне канавы памiж кварталамi 4 i 8, з мэтай зьнiшчэньня дранавальнага ўплыву (праз каранёвую сыстэму) дрэўных парод, якiя растуць у кв. 4, на насенныя градкi кв. 3, якiя прылягаюць да яго.

6. У працягу ўсей зiмы, як толькi ўсталяваўся сьнежны насьцiл, штодзенна а 13 гадз., ня выключаючы i дней адпачынку, праводзiлiся вымеры сьнежнага насьцiлу, а ў апошнюю трэць зiмы—i азначэньне шчыльнасьцi сьнегу.

7. Веснавыя работы на лясным гадавальнiку пачалiся на адзiн месяц раней (15 красавiка 1927 г.) супраць мiнулага году, а да пасеваў было прыступлена 26 красавiка ў кварт. 6. Пасеў пачаўся з сiбiрскага кедру, атрыманага з Тавалжанскай дачы Iшымскай акругi Уральскай вобласьцi i сабранага там у апошнiя днi жнiўня 1926 г. Атрыманыя ўзiмку кедравыя арэшкi былi запескаваны ў скрынках i захоўвалiся ў склепе. Перад пасевам арэшкi былi разьбiты на тры часткi. Адна з iх была высеяна бяз ўсякай апрацоўкi, другая партыя арэшкаў была высеяна пасьля намачваньня насеньня у звычайнай вадзе ў працягу 24 гадзiн i, урэшце, трэцяя партыя была высеяна пасьля 24-гадзiннага намачваньня i пасьля невялiкай абрэзкi кончыкаў звужанай часткi арэшкаў. Усяго было засеяна кедравымi арэшкамi ў квартале 6—пяць цэлых градак i некалькi радоў 6-й градкi. Гэтай працай была паўторана аналягiчная праца, выкананая ўлетку 1926 году, а таму што яна была праведзена ў больш спагадных умовах, а iменна: зусiм сьвежым, значыцца, добрай усходжасьцi насеньнем, а самы пасеў быў зроблены ў раньнюю вясну, калi было даволi глебавай вiльгацi,—дык i можна было чакаць максiмальнага эфэкту ад успомненага дасьледчага пасеву.

8. Зараз-жа пасьля пасеву кедравых арэшкаў быў зроблен пасеў на аднэй градцы ў кв. 6 насеньня крымскай хвоi, збору зiмы 1925—26 г.

Пасьля гэтага пасеву быў суцэльны пасеў на двук квадратных мэтрах у кв. 8 насеньня чорнай вольхi, уласнага збору канца зiмы 1926—27 году, з прыкрыцьцем яловымi лапкамi.

9. У кварталах 13 i 17 быў зроблен пасеў насеньня звычайнай елкi з Горацкага лясьнiцтва з усходжасьцю 70% i пасьля насеньня тэй самай пароды, атрыманага з розных месц Горацкага раёну, але align рознай усходжасьцi, пачынаючы з 50% i канчаючы 85%. Гэтымi пасевамi думалi вызначыць па аналёгii з данымi Haak'a для звычайнай хвоi пэўныя суадносiны i для елкi памiж % усходжасьцi, ў прарашчвальнiку Лiбэнбэрга i % усходаў, якiя паяўляюцца з гэтага самага насеньня ў прыродных умовах на насеннай градцы.

Незалежна ад гэтага ставiўся досьлед i на глыбiню запраўкi насеньня, прычым былi прыняты наступныя градацыi глыбiнi 1, $1\frac{1}{2}$ i 2 сантымэтры. Пытаньне гэта ў апошнi час зноў пачало абгаварвацца ў нямецкай спэцыяльнай лiтаратуры (Dengler, Rubner) i заслугоўвае належнай увагi i для беларускiх умоў.

Апроч таго, роўналежна з закранутымi пытаньнямi ставiўся досьлед з пакiданьнем некаторых засеяных градак бяз прыкрыцьця, у той час як iншыя градкi мелi прыкрыцьце з пiлавiньня ў 1 сант. таўшчынi.

10. У квартале 17 быў зроблены на 14 градках пасеў насеньня звычайнай хвоі, атрыманага з Цэльскага лясьніцтва Бабруйскай акругі, збору зімы 1926—27 году і высокай усходжасьці (звыш 90%). Пасеў апрача праверкі даных Наак'а для пэўнай высокай усходжасьці меў на мэце яшчэ і пытаньні, як і пры пасевах елкі, адносна глыбіні запраўкі (1, $1^1/_2$ і 2 сантымэтры), уплыву пакіданьня некаторых градак бяз прыкрыцьця і значэньня апрацоўкі насеньня перад пасевам сьвінцовым сурыкам; прычым некаторая частка насеньня заставалася пасьля апрацоўкі сурыкам ня высеянай у працягу 48 гадзін.

11. У тым жа кв. 17 было засеяна 5 градак сібірскай мадрыны збору 1926—27 году, атрыманай з Бэлімбаскага лясьніцтва Уральскай вобласьці. Усходжасьць была прынята прыблізна ў 50% і досьлед быў пастаўлены як на глыбіню запраўкі (2 і 3 сантымэтры), так і на няўжываньне на 2-х градках прыкрыцьця.

Поруч з гэтым павінна была быць вызначана залежнасьць ліку ўсходаў на насеннай градцы ад велічыні ўсходжасьці насеньня ў прарашчвальніку

12. У самым пачатку чэрвеня (3 і 4-VI) быў зроблены на 16 градках кв. 14 пасеў жалудоў дубу, розным спосабам запескаваных на зіму, прычым былі адмечаны баразёнкі, у якіх сяяліся жалуды таго ці іншага спосабу схову ў склепе. Палова градак была пакінута бяз прыкрыцьця, а другая палова мела прыкрыцьце з яловага пілавіньня ў 1 сант. таўшчыні. Пасьля, такі самы пасеў дубу быў зроблены на 5-ці градках кв. 7.

Далей, ідзе пасеў конскага каштану на 2-х градках кв. 6 і 1-й градцы кв. 7, і дадатковыя пасевы на невялікай частцы аднэй градкі (некалькі баразёнак) у кварталах 6 і 11 насеньня звычайнага клёну і сэрцалістай ліпы.

Зроблены пасевы насеньня звычайнай елкі з Горацкага лясьніцтва (68% усходжасьці) і елкі з Чардынскага і Сэлікамскага лясьніцтваў Уральскай вобласьці (70% і 75% усх.) Насеньне дзьвюх апошніх елак былі прысланы Цэнтральным Упраўленьнем Лесамі (Масква) для дасьледчых патрэб, з мэтай высьвятленьня прыгоднасьці насеньня для росту ў беларускім клімаце. Пасевы елкі былі зроблены ў частцы кв. кв. 2, 7 і 11, амаль у цэлым кв. 3 і ў кв 15. Глыбіня запраўкі была прынята ў 1.5 сант. з прыкрыцьцем град, як і амаль усюды на дасьледчым гадавальніку, яловым пілавіньнем, пластам, пры веснавых пасевах, у 1с. таўшчыні.

13. Апроч пасеваў была зроблена значная праца па наладжваньні школ у кв. кв. 1, часткай 2, 5, 9, 10, 18 і 19 У школы былі высаджаны наступныя пароды: конскі каштан, амэрыканскі ясень, розныя ліставыя пароды (кв. 10), елка, сібірскі кедр і крымская хвоя. Матар'ял для школ браўся ў пераважнай колькасьці з насенных град таго самага гадавальніка і толькі нязначная частка была ўзята з ранейшых школьных вучасткаў.

14 Дагляд за насеннымі градкамі і за школьнымі кварталамі адбываўся некалькі раз у працягу вэгетацыйнага пэрыяду і выяўляўся ў выпальваньні сьмяцьцёвай расьліннасьці, якая пасьля зьбіралася ў кампосную кучу, і ў пухленьні глебы. На насенных градах карысталіся пры гэтым палольнікамі ў выглядзе лапак, а ў школьных кварталах—спачатку матыкамі і граблямі, а пасьля з сярэдзіны лета пачалі ўжываць прыладу сыстэмы Senior, якая аказалася вельмі прадукцыйнай і для такіх работ зусім мэтазгоднай для дагляду за школамі, дзякуючы эканоміі ў працы і часе. У меру запраўднай патрэбы рабіўся таксама дагляд за міжградзямі і ўсімі дарожкамі ў лясным гадавальніку.

15. Спаміж шкоднікаў трэба перш за ўсё адзначыць мышэй, якія забіраліся пад саламянае прыкрыцьце і рабілі там шкоды, якія агулам былі рэдкія і па разьмерах нязначныя.

Пасьля, дробныя птушкі з сям'і вераб'іных (Frangillidae) рабілі шкоду пасевам і ўсходам іглястых парод, якія паяўляліся на насенных градах. Змаганьне вялося, як і ў мінулым справаздачным годзе, шляхам афарбабаваньня насеньня сьвінцовым сурыкам перад самым пасевам і шляхам аховы град днём падросткам ў працягу 2—3 тыдняў (да скіданьня каўпачкоў). Апошняй мерай удавалася давесьці шкоду да мінімуму.

Далей у 2-ой палове жніўня пачала паяўляцца на лісьцях дубу то ў большай, то ў меншай ступені мучністая раса (Phyllactinia suffulta Sacc.). Пачатае змаганьне з гэтай грыбной хваробай шляхам апыленьня лісьцяў аморфнаю серай павінна было быць спынена з прычыны дажджлівага надвор'я і познага часу.

Іншых шкоднікаў, як грыбных, так і спаміж шасьціножак, у колькінебудзь прыкметных і шкодных для дрэўных расьлін разьмерах—ня было выяўлена, так што ў гэтых адносінах справаздачны год зьяўляецца непараўнальна больш спагадным, чымся папярэдні.

16. У верасьні быў зроблены падрабязны падлік вырашчаных на насенных градках дрэўных расьлін і атрыманы значны лічбавы матар'ял, пасьля належнай апрацоўкі якога можна будзе атрымаць і адказы на закранутыя працамі справаздачнага году пытаньні.

## III. Заснаваньне дасьледчых лясных культур.

17. Увесну 1927 г. у пэрыяд часу з 8-га да 22-га чэрвеня у Горацкім Дасьледчым Лясьніцтве на трох вучастках агульнай плошчай у 8,17 гэкт. старых розных тэрмінаў неаднолўленых высечак тыпу яловай сьвежай і вільготнай рамені быў заснаваны досьлед па вывучэньні ўплыву сьмяцьцёвай расьліннасьці на ход росту яловых культур, заснаваных: а) спосабам пасадкі адна-і двухлетніх сеянцаў звычайнай елкі, вырашчаных на Горацкім дасьледчым гадавальніку, і b) спосабам пасеву насеньня елкі звыч., сабранага ўзімку 1926 г. у Горацкім Дасьледчым Лясьніцтве, тое і другое (пасадка і пасеў) на пляцоўках розных памераў пры трох спосабах іх падрыхтоўкі. Падрыхтоўка глебы адбывалася выключна матыкамі. Пасадка адна-і двухлетніх сеянцаў елкі рабілася выключна пад меч Колесава. Прычым на кожнай з пляцовак 50×50 і 71×71 см. высаджвалася па 3 сеянцы ў месцы разьмяшчэньня верхавін роўнабочнага трыкутніка з бокам у 25 см., на пляцоўках 50×100 і 50×200 см. высаджвалася ў адзін рад па сярэдзіне пляцовак у адлегласьці 25 см. сеянец ад сеянца—па 3 шт. на першых і па 7 шт. на другіх; на пляцоўках 100×100 і 100×200 см. высаджвалася ў два рады з адлегласьцю паміж радамі 50 і ў радзе 25 см.—па 6 штук на першых і па 14 на другіх. Пасеў рабіўся ад рукі: а) радавы—упоперак пляцовак рад ад раду на адлегласьці 25 см. і b) суцэльны па пляцоўцы. У сярэднім на 1 кв. мэтр пры радавым пасеве высявалася 2 гр. і пры суцэльным 2,5 гр. насеньня елкі 70% усходжасьці. Запраўка пасеваў насеньня рабілася граблямі.

На далучаных рысунках №№ 1, 2, 3 (гл. стар. 268, 269) падаюцца як агульны плян разьмеркаваньня вучасткаў дасьледчых культур 1927 г., так і асобныя схемы разьмяшчэньня дасьледчых дзялянак на гэтых вучастках.

Больш падрабязнае апісаньне заснаваных дасьледчых культур прыводзіцца ў наступнай табліцы:

| №№ кварталаў | №№ вучасткаў і спосаб культаваньня | Лесакультурная плошча: №№ дасьледчых дзялянак | Плошча дасьледчых дзялянак у кв. мэтрах | Мясцовасьць, рэльеф, экспазыцыя, глеба і яе вільготнасьць на дзялянках | Пляцоўкі: Памеры пляцовак у см. | Адлегласьць паміж пляцоўкамі ў мэтрах: У радамі | Паміж радох | Лік месц на 1 гект. лесакульт. плошчы | Тэхніка падрыхтоўкі глебы на пляцоўках |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 31 | Вучастак I пасадка 1-летніх сеянцаў елкі | 41 | 5.625 | Мясцовасьць зьлёгку прыпаднятая, рэльеф роўны, экспазыцыя: выразны адхон на захад, глеба—ападзолены лёсападобны суглінак, сьвежы | 50 × 100 | 4 | 3 | 833 | Перад матыкаваньнем пляцовак папярэдняе зьняцьце дзярніны шляхам адварачваньня яе ад сярэдзіны пляцовак у два процілежныя бакі і выкладваньне зьнятай дзярніны па баках пляцовак без адлучэньня яе па краёх. Пасьля зьняцьця дзярніны матыкаваньне голых пляцовак на глыбіню 16—18 ст. з на ступным выраўніваньнем узматыкаванай глебы |
| 31 | „ | 42 | 2.200 | Адхону няма, а рэшта тое самае, што і на дзялянцы № 41 | 71 × 71 | 4 | 3 | 833 | |
| 31 | „ | 43 | 1.950 | | 50 × 50 | 4 | 3 | 833 | |
| 31 | „ | 44 | 1.470 | Выразны адхон на паўн.-усх. і ўсходні бакі; рэшта тое самае, што і на дзялянцы № 41 | 100 × 100 | 4 | 3 | 833 | |
| 31 | „ | 45 | 7.500 | Мясцовасьць нізінная; невялікія груды вышынёй 15—20 см. і купіны сярод забалочанай нізіны; глеба цяжкі лёсападобны суглінак, мокры ў паўдн.-зах. кутку і забалочаны на рэшта частцы прасторы | 50 × 50 | 4 | 4 | 625 | Матыкаваньне пляцовак на глыбіню 16—18 см. з раздрабненьнем дзярніны на месьце і наступным яе прыбіраньнем і на грабаньнем грудаў вышынёй у 15 см. Пляцоўкі матыкаваліся выключна на больш узвышаным месцы |
| 31 | „ | 46 | 2.240 | Мясцовасьць паніжаная з паступовым слабым здымам у кірунку ўсходу. Глеба — цяжкі лёсападобны суглінак зьлёгка забалочаны ў заходняй і паўднёвай частках. | 100 × 100 | 3 | 2,5 | 1332 | Тое самае, што і на дзялянках № 45 з павышэньнем узгоркваньня пляцовак да 25 см. |
| 31 | „ | 47 | 1.125 | Мясцовасьць прыпаднятая, роўная з слабым ухілам на паўдн.-захад; глеба—лёсападобны зьлёгку ападзолены сьвежы суглінак | 50 × 100 | 3 | 2.5 | 1332 | Тое самае, што і на дзялянцы № 41 |
| 31 | „ | 48 | 1.500 | | 50 × 200 | 3 | 2,5 | 1332 | |
| 31 | „ | 49 | 1.500 | | 100 × 200 | 3 | 2.5 | 1332 | |
| 31 | „ | 50 | 1.500 | | 100 × 100 | 3 | 2,5 | 1332 | |
| 31 | „ | 51 | 4.285 | Мясцовасьць паніжаная, трапляюцца нязначныя няглыбокія ўпадзіны, якія ўтварыліся, як відаць, у выніку ветравалу яловага недарубу; слабы ўхіл у паўднёвы бок; глеба—ападзолены лёсападобны суглінак, мокры | 100 × 100 | 3 | 2,5 | 1332 | Тое самае, што і на дзялянцы 46, за выключэньнем дзярніны, якая пасьля раздрабненьня не прыбіралася з пляцовак |

| №№ кварталаў | №№ вучасткаў і спосаб культываньня | Лесакультурная плошча: №№ дасьледчых дзялянак | Лесакультурная плошча: Плошча дасьледчых дзялянак у кв. мэтрах | Лесакультурная плошча: Мясцовасьць, рэльеф, экспазыцыя, глеба і яе вільготнасьць на дзялянках | Пляцоўкі: Памеры пляцовак у см. | Пляцоўкі: Адлегласьць паміж пляцоўкамі ў мэтр.: Паміж радамі | Пляцоўкі: Адлегласьць паміж пляцоўкамі ў мэтр.: У радох | Пляцоўкі: Лік месц на 1 гект. лесакульт. плошчы | Тэхніка падрыхтоўкі глебы на пляцоўках |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 31 | Пасадка 1-л. сеянц. елкі | 52 | 1.250 | Мясцовасьць прыпаднятая, роўная з слабым ухілам на захад; глеба—сьвежы лёсападобны суглінак | 50 × 200 | 3 | 2,5 | 1332 | Тое самае, што і на дзялянцы № 41 |
| 31 | Пасадка 2 летн. сеянц. елкі | 53 | 2.500 | Усё тое самае. што на дзял. № 52, за выключэньнем ухілу, якога наогул на дзялянцы няма | 50 × 100 | 3 | 2,5 | 1332 | Тое самае, што і на дзялянцы № 41 |
| 31 | Пасадка 1-л. сеянц. елкі | 54 | 1.250 | Тое самае, што і на дзялянцы № 52 | 100 × 200 | 3 | 2,5 | 1332 | |
| 31 | Пасадка 2-л. сеянц. елкі | 55 | 2.500 | Тое самае, што і на дзялянцы № 53 | 100 × 100 | 3 | 2,5 | 1332 | |
| 31 | Пасадка 1-л. сеянц. елкі | 56 | 4.800 | Тое самае, што і на дзялянцы № 51 | 50 × 50 | 3 | 4 | 833 | Матыкаваньне пляцовак на глыбіню 16-18 см. з раздрабненьнем дзярніны і пакіданьнем яе на месцы прынаграбаньні грудаў вышынёй у 25 см. |
| 31 | „ | 57 | 1.050 | Тое самае, што і на дзялянцы № 53 | 50 × 100 | 3 | 4 | 833 | Тое самае. што і на дзял. № 41 |
| 31 | „ | 58 | 1.170 | | 50 × 200 | 3 | 4 | 833 | |
| 31 | „ | 59 | 1.840 | Слабы ўхіл у кірунку ўсходу, рэшта тое самае, што і на дзял. №№ 57 і 58 | 71 × 71 | 3 | 4 | 833 | |
| 31 | „ | 60 | 1.350 | | 100 × 200 | 3 | 4 | 833 | |
| | Вучастак II пасевы елкі | | | Мясцовасьць дзялянак № 61—№ 68 укл. зьлёгка прыпаднятая; па паверхні без парадку чаргуюцца нізкія (20-50 ст.) груды (пераважна каля пакінутых на высечках буйных пнёў елкі) з адхоннымі дробнымі западзінамі; глеба — цяжкі ападзолены суглінак з пухкім перагнойным пластам таўшчынёй ад 5 да 10 см. па грудах, якога амаль няма ў западзінах; гэтыя апошнія моцна задзярніліся сьмяцьцёвай расьліннасьцю; глеба па грудах—сьвежая, западзіна — вільготная, а мясцамі і мокрая. | | | | | |
| 31 | Суцэльн. | 61 | 3.300 | | 100 × 100 | 4 | 5 | 500 | Матыкаваньне пляцовак на глыбіню 16-18 см. з раздрабненьнем дзярніны на месцы і наступным яе прыбраньнем з пляцовак. Паверхня ўспухленых пляцовак заставалася роўнай без награбаньня груд. |
| 31 | Радамі . | 62 | 3.157 | | 100 × 100 | 4 | 5 | 500 | |
| 31 | Суцэльн | 63 | 1.000 | | 50 × 100 | 4 | 5 | 500 | |
| 31 | Радамі . | 64 | 1.125 | | 50 × 100 | 4 | 5 | 500 | |
| 31 | Суцэльн. | 65 | 2.500 | | 100 × 200 | 4 | 5 | 500 | |
| 31 | Радамі . | 66 | 1.564 | | 100 × 200 | 4 | 5 | 500 | |
| 31 | Суцэльн. | 67 | 1.000 | | 50 × 200 | 4 | 5 | 500 | |
| 31 | Радамі . | 68 | 1.125 | | 50 × 200 | 4 | 5 | 500 | |

| №№ кварталаў | №№ вучасткаў і спосаб культаваньня | Лесакультурная плошча: №№ дасьледчых дзялянак | Лесакультурная плошча: Плошча дасьледчых дзялянак у кв. мэтрах | Лесакультурная плошча: Мясцовасьць, рэльеф, экспазыцыя, глеба і яе вільготнасьць на дзялянках | Пляцоўкі: Памеры пляцовак у см. | Пляцоўкі: Адлегласьць паміж пляцоўкамі ў мэтрах: Паміж радамі | Пляцоўкі: Адлегласьць паміж пляцоўкамі ў мэтрах: У радох | Пляцоўкі: Лік месц на 1 гект. лесакульт. плошчы | Тэхніка падрыхтоўкі глебы на пляцоўках |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вучастак III пасевы | | | | | | | | |
| 37 | Суцэльн. | 69 | 3.000 | Тое самае, што і на дзял. № 61—№ 68 укл. | 50 × 200 | 5 | 5 | 400 | Матыкаваньне пляцовак на глыбіню 16-18 см. з раздрабненьнем дзярніны на месцы, і прыбраньнем яе з пляцовак. |
| 37 | Радавы | 70 | 3.000 | | 50 × 200 | 5 | 5 | 400 | |
| 37 | Суцэльн. | 71 | 3.000 | | 50 × 100 | 5 | 5 | 400 | |
| 37 | Радавы | 72 | 3.000 | Тое самае, што і на дзял. № 61 — № 68 укл.. за выкл. рэльефу, які робіцца больш роўным | 50 × 100 | 5 | 5 | 400 | |
| 37 | Суцэльн. | 73 | 3.000 | | 100 × 100 | 5 | 5 | 400 | |
| 37 | Радавы | 74 | 3.000 | | 100 × 100 | 5 | 5 | 400 | |

18. Апроч пастаноўкі досьледу па вывучэньні ўплыву сьмяцьцёвай расьліннасьці на ход росту яловых культур, Аддзел Лясных Культур і Лясамэліарацый разам з катэдрай Мэліарацыі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі С. Г. у верасьні 1927 г. зрабіў падрыхтоўку глебы на Чапя-




Рыс. № 1. Дасьледчыя культуры елкі ў кв. № 31 і 37 Горацкага Дасьледчага Лясьніцтва. На вучастку № 1 дасьледчыя пасадкі. На вучастках № II і № III—дасьледчыя пасевы.

лінскім балоце, якое асушваецца,у Горацкім дасьледчым лясьніцтве для заснаваньня ўвесну 1928 г. у гэтым месцы дасьледчых хваёвых і бярозавых культур з мэтай: 1) вывучэньня ўплыву інтэнсыўнасьці асушкі балота на ход росту гэтых культур і 2) вывучэньня пасьпяховасьці росту гэтых самых культур у залежнасьці ад спосабу іх пасадкі.




Рыс. 2. Схэматычны плян разьмяшчэньня дзялянак з дасьледчымі пасадкамі ў кв. 31 Горацкай дачы. (Вучастак № 1).

Падрыхтоўка глебы вялася шляхам суцэльнага зьняцьця пласту ўшчыльненага мёртвага моху (ачосу) на глыбіню 18 см. і праводзілася радам роўналежных паміж сабой і лініі назіральных калодзежаў палос упоперак раду асушальных канаў, як паказана на рыс. № 4 (гл. стар. 270).




Рыс. № 3. Схэматычны плян разьмяшчэньня дзялянак з дасьледчымі пасевамі ў кв. 31 і 37 Горацкай дачы. (Вучасткі № 2 і № 3).




Рыс. 4. Схэматычны плян разьмяшчэньня двялянак, якія падрыхтаваны для дасьледчых культур на Чапялінскім махавым балоце ў кв. № 65 Горацкага Дасьледчага Лясьніцтва.

Шырыня ўсіх палос складае 5 мэтр., даўжыня палос роўна адлегласьці паміж роўналежнымі асушальнымі канавамі (40, 30 і 20 мэтраў). Адлегласьць першых палос ад лініі назіральных калодзежаў прынята ў 3 мэтры і паміж палосамі 2 мэтры.

Плошча і разьмер дзялянак, на якіх зроблена зьняцьце мёртвага пласту, падаюцца ў наступнай табліцы:

| № № дасьледчых дзялянак | Плошча дзялянак у кв. мэтр. | Разьмеры дзялянак у мэтрах |
|---|---|---|
| 75 | 200 | 5 × 40 |
| 76 | 200 | 5 × 40 |
| 77 | 200 | 5 × 40 |
| 78 | 150 | 5 × 30 |
| 79 | 190 | 5 × 30 |
| 80 | 150 | 5 × 30 |
| 81 | 100 | 5 × 20 |
| 82 | 100 | 5 × 20 |
| 83 | 100 | 5 × 20 |
| 84 | 100 | 5 × 20 |
| 85 | 100 | 5 × 20 |
| 86 | 100 | 5 × 20 |
| 87 | 500 | 5 × 20 |

19. На тэрыторыі Жорнаўскага Ляснога Дасьледчага Вучастку ўвесну 1927 г. па вільготным лузе, які аддзяляе адзін ад другога два дрэвастаны грудавога тыпу, заснаваны на плошчы 25536,5 кв. мэтр. дасьледчыя культуры ясеню амэрыканскага ў мешаніне з вольхай чорнай. Разьмеркаваньне высаджаных расьлін: 2 мэтры паміж радамі і 1 мэтр паміж расьлінамі ў радзе. Колькасьць засаджаных радоў—58. Колькасьць вы-



*Фатаграфія № 4.* Дасьледчая пасадка елкі пляцоўкамі, заснаваная ўвесну 1927 г. у 31 кв. Горацкага дасьледчага лясьніцтва на высечцы 1920 г. Фатаграфавана 22-VI-27 г.
Phot. № 4. Fichtenkulturen in Forstamt Gorki Abt. 31).

саджаных сеянцаў 12.096 шт. Двухлетнія сеянцы ясеню амэрыканскага атрыманы з гадавальніка катэдры агульнага лесаводзтва Бел. Дзярж. Акадэміі С. Г. Насеньне для гэтых сеянцаў было сабрана 24.XI.1924 г. у Дэндралягічным Садзе Бел. Дзярж. Акадэміі С. Г., высеяна ў гадавальніку 5.VI.1925 г.

Двухлетнія сеянцы вольхі чорнай узяты з гадавальніка Жорнаўскага вучастку. Насеньне для іх было сабрана ў Жорнаўскай лясной дачы. Падрыхтоўка глебы для пасадкі ясеню і вольхі чорнай выяўлялася ў зьняцьці дзярніны матыкамі на квадратных пляцоўках 35×35 см. і выкладваньні яе ў абернутым выглядзе з боку тых-жа пляцовак.

## C.
## Па Аддзелу Лясной Таксацыі і Лесаўпарадкаваньня.

Працы Таксацыйна-Лесаўпарадкавальнага Аддзелу Станцыі ў справаздачным годзе выяўляліся часткай у працягваньні прац мінулых гадоў, але у большай сваей частцы яны былі новымі. Паводле справаздачы, зробленай загадчыкам Аддзелу праф. В. К. Захаравым, працы выяўляліся ў наступным:

1. Працягнена дасьледваньне па асноўным заданьні леса-таксацыйнай сэкцыі, якое мела сваёй мэтай атрыманьне канчатковых вынікаў у працягу вельмі доўгага пэрыяду, на тэму: „Ход росту дасьпяваючых у сьпелых дрэвастанаў беларускага лесу“.

У выніку ня зусім апрацаваных дасьледваньняў па 3-х сталых пробных пляцоўках, заснаваных М К. Гладышэўскім у папярэднім годзе ў кварталах № 41 і № 45 Горацкай Лясной Дачы (у межах Горацкага Дасьледчага Вучастку), Аддзел Таксацыі атрымаў:

a) Складзеныя ведамасьці пераліку ўсіх дрэваў паводле адпаведнай нумарацыі ў натуры, з паказаньнем 2-х узаемна-простастаўных дыямэтраў з дакладнасьцю да 1 мм. з падзелам па пародах і па клясах Крафта;

b) пляны разьмяшчэньня пробных пляцовак;

c) пляны разьмеркаваньня дрэваў па пародах з разьмяшчэньнем іх на пробах з нумарацыяй;

d) пляны праекцый крон, абмераных на пробе дрэваў з зафарбоўкай іх па пародах.

У верасьні справаздачнага году зроблены былі новыя вымеры дыямэтраў на вышыні грудзей, прырастным сьвідрам Прэслера дасьледваны прырост за пэрыяд 5—10—15 год і зроблены вымеры вышынь па ступенях таўшчыні вышынямерам Фаустмана і Хрыстэна.

Увесь атрыманы матар'ял па даных пробах у сучасны момант знаходзіцца ў апрацоўцы.

Даная праца зьяўляецца толькі скромнай часткай досьледу, які выконваецца. Мэта досьледу: вывучэньне на сталых пробных плошчах дасьпяваючых і сьпелых дрэвастанаў максімальнай паўнаты і лепшых банітэтаў, незакранутых высечкай, для поўнага аналізу ходу іх росту.

Для выкананьня данага заданьня ў поўным аб'ёме патрэбна: заснаваць пробныя плошчы ад $1/2$ да 1 гэктара ў дрэвастанах: a) чыстай хвоі, b) чыстай елкі, c) чыстай вольхі, d) чыстага дубу, e) розных камбінацый складу, тыповых для беларускага лесу.

2. Пачата зноў праца па дасьледваньні ходу росту культур Прылуцкай лясной дачы каля г. Менску. Пробныя плошчы ў Прылуцкай дачы

для данага дасьледваньня былі заснаваны яшчэ ў 1923 г. праф. Д. І Таўсталесам. Нажаль усе матар'ялы па гэтых пробных плошчах не паступілі ў архіў Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі і гдзесьці загінулі. Такім чынам, працу па дасьледваньні ходу росту культур у Прылуцкай лясной дачы можна лічыць пачатай зноў. Праца была пачата ў канцы ліпня б. г і па гэтаму досьледу зроблена наступнае:

a) Складзены ведамасьці пераліку дрэваў па 2-х узаемна-простаўных дыямэтрах з дакладнасьцю да 1 m/m, па адпаведнай нумарацыі ў натуры з падзелам па пародах і клясах Крафта, на шасьці сталых пробных плошчах.

b) Зроблены зьнімкі разьмяшчэньня дрэваў на пробах з падзелам іх па пародах і з нумарацыяй усіх дрэваў.

c) Зроблены зьнімкі праекцый крон на пробнай плошчы № 1 па 2-х узаемна-простаўных дыямэтрах.

d) Сьсечана і вымерана 34 мадэльныя дрэвы з узяцьцем кружкоў для іх аналізу.

e) Выканана 5 аналізаў дубу паводле клясаў Крафта.

f) Апісаны глебавыя разрэзы на ўсіх пробных плошчах і ўзяты ўзоры

g) Сабраны гэрбары акрыцьця па пробах.

h) Агароджаны 2 пробныя плошчы з культурай хвоі і хвоі з дубам Адсутнасьць крэдытаў і часу не дазволілі агарадзіць усе пробы і гэта справа адложана на будучы час.

Увесь атрыманы матар'ял у сучасны момант знаходзіцца ў апрацоўцы.

3. Па даручэньні Упраўленьня Лясамі НКЗБ з сакавіка м-ца 1927 г. пачата ўкладаньне масавых і сартымэнтных табліц для лясоў БССР. Укладаньне новых масавых і сартымэнтных табліц выклікана пераходам усяго гаспадарчага апарату на мэтрычную сыстэму і з мэтай увядзеньня агульнасаюзнай стандартызацыі лесаматар'ялаў. А часовыя масавыя табліцы б. ляснога ведамства, якія цяпер існуюць, і ўкладзеныя паводле іх сартымэнтныя табліцы нездавальняючыя, таму што даюць значнае памяншэньне для дрэвастанаў вышэйшых банітэтаў, бо разрады табліц ня ўзгоднены з клясамі банітэтаў. Такім чынам, новыя масавыя табліцы будуць укладзены паводле прынцыпу табліц па банітэтах, з вылучэньнем у межах банітэту стваловў па катэгорыі каэфіцыентаў формы. Гэтыя масавыя табліцы, якія маюць быць укладзены, і табліцы зьбегу, а на аснове іх сартымэнтныя табліцы, якія таксама маюць быць укладзенымі, маюць на мэце зьнішчыць вызначаныя хібы тых табліц, што існуюць, і даць магчымасьць леса-гаспадарчай практыцы лёгка і дакладна праводзіць таксацыю дрэвастанаў і асобных дрэваў.

Цяпер Аддзел заняты падрыхтоўкай матар'ялаў да ўкладаньня табліц.

Да гэтага часу Аддзелам сабрана да 4,000 мадэльных дрэваў. Матар'ял браўся ў некаторых катэдрах Лясфаку Бел. Дзяр. Акадэміі С. Г., лясных тэхнікумах і ў Аддзеле Лесаўпарадкаваньня НКЗБ. Не жадаючы абмежавацца толькі матар'яламі ўжо сьсечаных мадэльных дрэваў як таксатарамі лесаўпарадкавальных партый, так і асобнымі навуковымі працаўнікамі, сіламі Аддзелу з дазволу Ляснога Упраўленьня сьсечана ўва ўсіх акругах БССР 1.102 мад. дрэвы. Сабраны таксацыйна-лесаўпарадкавальнымі партыямі Упраўленьня Лясамі матар'ял, прыстасаваны для найбольш пашыраных тыпаў дрэвастанаў у Беларусі, скарыстаны, як кантрольны, дае магчымасьць скарыстаць матар'ялы „Удзельных масавых табліц" А. А. Крудэнэра. Разам з гэтым мае быць атрыман матар'ял з вымерамі мадэль-

